THE FRANCIS SKORYNA KRYVIAN (WHITERUTHENIAN)
SOCIETY OF ARTS AND SCIENCES IN THE U. S., INC.

JOHN P. STANKIEVICH

# SOME LEGAL WHITERUTHENIAN TERMS

NEW YORK 1953

КРЫВІЦКАЕ НАВУКОВАЕ ТАВАРЫСТВА
ПРАНЦІША СКАРЫНЫ

Я. СТАНКЕВІЧ

# НЕКАТОРЫЯ ПРАЎНІЦКІЯ ТЭРМІНЫ БЕЛАРУСКІЯ

НЮ ЁРК 1953

## КОЛЬКІ СЛОВАЎ АД АЎТАРА

Заданьням аўтара гэтага артыкулу было дасьледаваць некаторыя тэрміны праўніцкія, як із гледзішча іх значаньня, так із гледзішча іх беларускасьці й магчымасьці ўжываньня цяперака. Асноваю артыкулу паслужыла часьць тэрмінаў Статуту Літоўскага 1588 г. Выпісаўшы іх ізь перадруку гэтага Статуту ў І. Лаппы (Коўня 1938), я прыраўнаваў іх да такіх-жа тэрмінаў дасьледаванага мною „Аль кітабу" Беларускага Музэю Йвана Луцкевіча ў Вільні, што было важна дзеля сучаснасьці яго із Статутам 1588 г. і народнасьці ягонае мовы. Гэткім парадкам побач маем традыцыйную літаратурную мову беларускую Статуту і беларускую мову народную „Аль кітабу". Адлі я прыраўнаваў выпісаныя тэрміны да такіх-жа ці блізкіх да іх тэрмінаў і звычайных словаў цяперашняе беларускае мовы народнае, карыстаючыся слоўнікамі Насовічавым, Краёвым Слоўнікам Ігуменшчыны („Чэрвеншчыны") Шатэрнікавым а Краёвым Слоўнікам Віцебшчыны Касьпяровічавым, а рэдчас і сваймі запісамі. Каб чытар мог пераканацца, у чым пераканаўся я, я шчодра прывёў прыклады ў проказях із менаваных жаролаў. Ані Статут 1529 г., ані вялізманны стараактавы матар'ял мне ня быў приступны, а дзеля нястачы часу я ня мог выкарыстаць і ўсяе тэрмінолёґіі Статуту 1588 г. Узяць пэўны тэрмінолёґічна-праўніцкі матар'ял із приступных мне слоўнікаў і лексыкальных артыкулаў і тым павялічыць колькасьць тэрмінаў у разы тры-чатыры было-б работаю сусім лягкой супроць тае, што зроблена гэтта, але й гэтага я не зрабіў зь дзвюх прычынаў: першае, усё нястача таго-ж часу ў умовах майго падарожніцкага жыцьця; другое, што артыкул і так неўспадзеўкі разросься і з большым матар'ялам ня мог-бы быць цяпер надрукаваны. Адно ў канцы работы я „пад-

сыпаў" крышку таковых тэрмінаў, пэўных а ведамых, рэдчас дзеля часу не дадаючы да іх мэтрыкі, каторую лёгка знайсьці ў іншым месцу і каторая будзе паказана ў маім агульным слоўніку беларуска-маскоўскім, што гатую да друку.

Як кажная тэрмінолёгічная праца вымагае дзьвюх спэцыяльнасьцяў — моваведнае й спэцыялістага з данае галіны веды, так і тэрмінолёгія праўніцкая. Дзеля таго, дасьледаваўшы ўвесь матар'ял, я з усім чыста, як із тымі тэрмінамі, у значаньню якіх сумляваўся, так ізь бяссумлеўнымі мне, зьвярнуўся рады да гісторыка права проф. Лява Акіншэвіча, ад якога адзержаў істотную помач, за што гэтта выказую яму найшчыршую падзяку; безь ягонае помачы артыкул гэты ня толькі ня быў-бы тым, чым ёсьцека, але, можа, і сусім ня быў-бы.

Навуковы падыход да працы вымагаў паказаць, скуль слова выпісана, або дзе яно запісана, рэдчас адно й другое разам. Паказаньне месца запісу або выпісу слова, пастаўленае ля самога слова паказуе толькі, скуль слова ўзята, а тое-ж паказаньне, пастаўленае за перакладам слова, ня толькі паказуе, скуль слова ўзятае, але й тое, што яно ў сваім жарале — слоўніку перакладзена так, як пададзена ў гэтым артыкуле. Паказаньне месца запісу або выпісу, пастаўленае за прыкладам — проказяй, паказуе, скуль узятая проказь. Паказаньні на розныя жаролы таго самога слова адлучаны пунктам із коскаю (;), а паказаньні на розныя мясцовасьці, зь якіх слова лучыла ў тое самое жарало, адлучаны коскаю (,). Ведама, пашырэньне слова большае за месца ягонага запісу і звычайна абымае ўсю або прынамся бальшыню прасторы беларускае мовы.

Артыкул гэты мае наўвеце вылучна лексыкальны бок мовы, дасьледаваньнікі фонэтычных а граматычных асаблівасьцяў беларускае мовы зьвернуцца беспасярэдне да жаролаў а, з другога боку, пажадана, каб, пазнаючы беларускія праўніцкія тэрміны, чытар не псаваў свае мовы барбарызмамі, што рэдчас сустракаюцца ў жаролах, скуль браныя прыклады; дзеля таго, ня толькі ўсі прыклады пададзены подле сучаснага правапісу, але й дзе-ня-дзе, у радкіх прыпадках чужыя словы або хормы замененыя сваймі літаратурнымі. Робячы гэтак, я, казаў той, бяру прыклад із Маскоўскае Дыялектолеґічнае Комісі, што ў сваім „Очерку русской діалектологии" (Масква 1915.) беларускія прыклады падаець у хорме маскоўскай з выняткам, ведама, асаблівасьці, на якую прыклад прыводзіцца. Гэткі спасаб (Комісін), знаёмячы чытара з аднэй асаблівасьцю беларускае мовы, прыяў забываньню ім асаблівасьцяў іншых. Валей спосаб, ужыты ў гэтым артыкуле, пры ім чытар толькі вучыцца.



Наапошку не магу ня выказаць свайго захапленьня Статутам Літоўскім. Чым балей чытаеш гэтую вялікую памятку беларускага права, тым балей яе разумееш а цэніш. Ужо пры дасьледаваньню аднае мовы Статуту чуешся ў высака культурнай атмосфэры, а што-ж казаць пра зьмест. Пра наш Статут напісана гара працаў, але да іх сярэдні чытар ня мае прыступу. У падручніках сярэдніх школаў кажацца пра Статут Літоўскі колькі словаў высокае ацэны, тады падаецца колькасьць разьдзелаў і артыкулаў, з чаго вучаньнік надта мала мае. Дзеля школы і сярэдняга чытара беларускага наш час станаўко дамагаецца апрацаваньня Статуту з гледзішча, апрача праўніцкага, яшчэ з нацыянальна-палітычнага, культурнага й гуманітарнага. Хто гэта зробе?

Часьць разгледжаных тэрмінаў карысна й трэба ўжываць у цяперашняй беларускай мове літаратурнай. Гэткія тэрміны ў артыкуле пазначаны зоркаю. Засталыя, не пазначаныя зоркаю, тэрміны або ня могуць быць ужываны цяперака, або аўтар узьдзержыўся што да выказаньня з гэтага гледзішча пра іх свайго пагляду.

**Аўтар**

У Рэґенсбурзе,
1.5. 1948.

## СКАРАЧЭНЬНІ

### Мясцовасьці.

Ар. — сяло Арляняты, Краўское вол., Ашмянскага пав.
Аш. — Ашмянскі павет.
Беш. — Бешанкаўскі п.
Вял. — Вялейскі п.
Віл. — Віленскі п.
Віц. — Віцебскі п.
Выс. — Высачанскі п.
Войст. — Войстамская вол., Вялейскага п.
Дз. — Дзісенскі п.
Лёз. — Лёзенскі п. (Лёзна).
Лпл. — Лепельскі п.
Н. — Наваградзкі п.
Пархв. — Пархвенава ля Докшыцаў, Вялейскага пав.
Пруж. — Пружанскі п.
Пц. — Полацкі п.
Сян. — Сянскі п.
Ск. — Сакольскі п.
Смл. — Смаленскі п.
Ст. — сяло Старына, Ігуменскага пав. Словы ўзятыя з Краёва-

га Слоўніка Чэрвеншчыны Шатэрнікавага.
Сур. — Сураскі п.
Сьміл. — Сьмілавіцкі п.
Сьп. — Сьпягліца, Вішнеўскае вол. Вялейскага п.
Чаш. — Чашніцкі п.

## ЛІТАРАТУРА

Аль кітаб, Кіт. — Аль кітаб Беларускага Музэю Йв. Луцкевіча ў Вільні.

Гсл. — Гарэцкі М.: Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік, Вільня 1921.

Кіт. — гл. Аль кіт.

Ксл. — Касьпяровіч М.: Краёвы слоўнік Віцебшчыны 1927г. Перад гэтым скарачэньням звычайна паданы скарочаныя назовы паветаў (раёнаў) Віцебскае акругі, а перад імі поўныя назовы сёлаў або местачкаў.

Нк. — із запісаў М. Нікіфароўскага ў Віцебшчыне.

Нсл. — И. Носович: Словарь белорусского наречія.

Ст. акты. — старыя акты.

Стт.— Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. ў перадруку І. Лаппы, Коўня 1938.

Шсл. — Шатэрнік М.: Краёвы Слоўнік Чэрвеншчыны, Менск 1929.

Фрсл. — Станкевіч Я.: Маленькі маскоўска-крывіцкі слоўнічак фразэолёгічны, менскае выданьне 1944 г.

Лікі ўсюдых паказуюць бачыны.

Адныя лікі, бязь літараў паказуюць бачыны Статуту 1588 г. ў перадруку Лаппы.

## ПАЯСЬНЕНЬНІ.

аднр. — дзеяслоў аднаразнага трываньня.

безас. — дзеяслоў безасабовы.

гл. — гля, глянь.

зб. — зборны.

зв. — зваротны дзеяслоў.
зьм — зьменшаны, здрабнелы.
ж — жаноцкі род.

м. — мужчынскі род.

нв. — дзеяслоў наваратны („многократный").

пр. — прыраўнуй.
прыг. — прыгаворка.
прык. — прыказка.
прыс. — прыслоўе, прыгаворка.

прыт. — прытарнаванае.
пркл. — прыкладам.
прс. — прыслоўе (грам.).
ск. — дзеяслоў скончанага трываньня.
суп. — супольнага роду.
тм. — там-жа.

Лік 1 пры дзеяслове паказуе, што ў васнове яго ёсьць **е** (пркл. **чытаеш, чытае, чытаем, чытаеце).**

Лік 2 пры дзеяслове паказуе, што ў васнове яго ёсьць **і** (пркл. носіш, носім, носіце).



— паказуе, што часьць слова прапушчана.

* пазначаныя словы, што, подле аўтара, трэба ўжываць у цяперашняй беларускай мове літаратурнай.

## ПАРАДАК БЕЛАРУСКАЙ АБЕЦАДЫ

а, я, б, в, ґ, г,
х, д, э, е, з, дз,
ж, дж, і, й, ы,
к, л, м, н, о, ё,
п, р, с, ш, т, у,
ў, ю, ф, ц, ч, ь.

**абавязаваць,*** -зую 1, ск. абавязаць, -жу 1, — абяз -ывать -зать Нсл. 350. Абавязую цябе словам. Тм. Абавязаў мяне канечне прысьці да сябе. Тм. Зв. **абавязавацца*,** ск. абавязацца—обяз-ываться-аться. Тм. Як абавязуешся, абавязаўся, так і павінен зрабіць. Тм. **абавязаны*** — обязанный. Тм. Ты абавязаны гэта зрабіць яму. Тм.

**абавязак*** -зку — обязаность. Нсл. 350.

**Прыклады із Статуту:** Будуць лі на лісьцех дзельчых паложаны якія абавязкі, зарукі а няўзрушаньню таго дзелу, кажны подле свайго абавязку з рассудку праўнага заплаціці вінен будзець. 370. Таковымі апісы абавязаліся. 321. Маюць досыць чыніці, чаго ся ацец іх абавязаў. 309. Абвязаўся лістом сваім. 220. Калі ся пададсьць пад тое і абвяжаць, тагды прэд ся воны пазваны наперад будзець яму павінен уcправядлівіціся. Тм.

**абарона,*** -ы — защита. Шсл. Ламачыну якую вазьмі — і то будзе абарона. Ст. Ого, у Немцаў вялікая абарона! Ст.

**абаронны*** — охранительный, оборонительный. Нсл. 351. Абаронны мае ліст. Тм. **абаронна*,** прс. — в оборонительном положении. Тм. Стаў абароннa. Тм. Абаронна жывець. Тм.

**абароньнік*,** -а, ж. **абароньніца*,** -ы-защитн-ик, -ица. Ар.

**абіраць*,** -аю 1, ск. абраць, абяру, -рэш, — избирать. Нсл. 347. Абіраць, абраць галаву, бурмістру, старасту. Тм. **абраны*** — избранный. Нсл. 352. Абраны галава, стараста. Тм. **абраньне*,** -я — избрание. Тм. Абраньне галавы старасты. Тм. Нав. **Абіраньне,** -я. **абранец*,** -нца — избранник, любимец. Нсл. 352. Абранец панскі. Тм. Гэта-ж твой каханы абранец зламіў нож. Тм. Абранцу свайму ўсё пазваляе рабіць. Тм.

**Із Статуту:** Маюць высылаці, прамежку сябе на то абраўшы, дзьвюх асобаў. 442. Урад маець ізь местачак і ізь сёл акалічных па тры чалавекі старшых да прысягі абраці, а тыя абраныя вінны будуць прысягнуці. 408. Паслы з кажнага павету, будучы на с'ем валь-

ны з паветаў на сойміках абраныя, — ад судоў усякіх пад соймам вольні будуць. 223. Уставуем, іж на тыя ўрады, яка на судзтва і на пісарства, ня маюць быці выбіраны духоўныя асобы ані маршалкі. А гдзе-бы таковы быў, што-бы два ўрады земскія дзержачы, пусьціці аднаго каторага ўраду не хацеў, тагды тый абодва тыя ўрады траціць; а мы гаспадар подле Статуту, за абраньням і просьбаю шляхты, іншых на тыя ўрады маем устанавіці. 116. А вольнам абіраньню ўраду земскага — судзій, падсудкаў і пісараў. 162. На судзтва падсудка або пісара абралі. 164. Статут новы ад людзей мудрых, з народу нашага на то абраных, папраўлены. 11.

**аблічны, аблічча** — гл. ліцо.

**абмаўляць*,** -яю 1, ск. абмовіць, -ўлю 2 — клеветать. Нягодныя людзі кажнага абмаўляюць Нсл. 349. Каго на сьвеце не абмовілі? Тм. Людзей зачы гаварылі, абмаўлялі Кіт. 130б. **Абмоўлены*** — оклеветанный Нсл. 349. Абмоўленаму мала верацъ Тм. **Абмаўленьне*, -я** — оклеветание Тм. Абмаўленьня твайго пан не паслухаў Тм. Зв. **абмаўляцца*,** ск. абмовіцца — 1) делать, сделать оговорку. Паслы ад судоў усякіх пад соймам вольні будуць, аж пакуль ся із сойму зьвернуць. Аднак-жа кажны такі маець ся суду чараз прыяцеля або слугу свайго абмовіці 223 — 2) ошиб-аться, -иться в слове, обмолвливаться Нсл. 349. Гавары, ды не абмаўляйся. Тм. Абмовіўся, ня тое сказаў Тм. **Абмова*, -ы** — 1) оговор, диффамация, клевета. Не на голую павесьць і абмову, але за выведаньням 85. Жыві па праўдзе і ніколі ня бойся абмовы Нсл. 349. — 2) оговорка. Есьлібы хто хацеў ся на першам року за позвы падкаморага вымаўляці пазваньням да іншага павету й суду, тагды таковая абмова, яка на року завітам, ня маець быці прыймавана 350. Абмова проціў року завітаму толька на адных роках і за аднымі першымі позвы маець быці дапушчана 218. Зьм. **абмоўка*, -і** — 1) оговор, клевета, диффамация. Гэта абмоўка на яго людзкая, а то ўсё ня праўда Нсл. 349. — 2) ошибка в слове Тм. Выбачай мне маю абмоўку Тм.

**абмыла*, -ы** — ошибка. Абу Ханіфаг імама навука пэўнейшая, бо абмылы нямаш, а ў іншых імамаў абмыла ест Кіт. 69а. Зьм. **абмылка*,** -і — ошибка Ар.; Нсл. 350; Шсл.; Гсл.; Селядцова Беш. (Ксл.). Зрабіў вялікую абмылку, што вашчоўну позна пасеяў Тм. То-ж ся і а пісару ґродзкам у амылца якой пісаньня разумеці маець 169. **мыліцца*,** -люся 2, ск. абмыліцца, нв. **мыляцца*** -ляюся 1 — ошиб-аться, -іться Ар. Мылішся, калі так думаеш Нсл. 295. Абмыліўся, ды ня туды стаў Тухінка Сян. (Ксл.). Хто ня ўмее, тый заўсёды мыляецца Тм. **Мыленьне*,** -я, аднр. — частые ошибки. Тм. Ты бяз мыленьня нічога ня зробіш. Тм. Нв. **мыляньне*,** -я.

У мове польскай побач із **pomyłka**, ёсьць **omyłka**, але няма **omyła**, і дык-жэ звычайная, нязьменшаная хорма **абмыла** сьветча пра беларускасьць словаў **абмыла, абмылка, абмыліцца,** а „памылка" — полёнізм.

**абмова, абмоўка** гл. абмаўляць.

**абракацца*,** -аюся 1, ск. абрачыся, -куся, -чэшся — давать, дать обет Шсл.; Рыбчына Сір. (Ксл.). Абраклася схадзіць у Жарабычы. Тм. Каб ачуняць, абраклася даць на абедню Ст. Калі вучыш, як мае абракаціся, калі пататарську ня умее, то паруску няхай абракаецца Кіт. **абракаць*,** -аю — жертвовать. **аброк*,** -у — 1) обет Кур. (Даль); Аль кітаб. — 2) жертва. Люту цмоку далі (а) броку Кажны дзень па чалавеку. Нар. песьня (Божым шляхам, 1951, № 1, б. 11).

**абранец** — гл. абіраць.

**аброк** — гл. ля абракацца.

**абсочны сабака** — гл. ля **сачыць.**

**абусока** — гл. ля **сачыць.**

**агляд*,** -у — осмотр Шсл. Пайшлі на агляд жыта Ст.

**аглядаць*,** -аю 1, ск агледзіць, -джу, -дзіш — осматривать, осмотреть Вял.; Ар.; Нсл. 357. Архітэкт аглядаў, агледзіў царкву Тм. Пайшлі аглядаць поле Ст. **агляданы*** — осматриванный Нсл. 357. і „осматриваемый". Шкода аглядана Нсл 357. Работа панам агляданая Тм. **агляданьне*,** -я — 1) осматривание, присмотр, призор Тм. Двор пакінуў на чужое агляданьне Тм. — 2) осмотр, обследование на месте. Ад агляданьня іспашы віжу грош 178.

**агляднае*, -ага** — плата за осмотр, за обследование на месте. Агляднага ня маець быці большай брана, толька подле сяе ўставы нашае 183.

1) **адвалакаць,** -аю, ск. адвалачы*, -ку, -чэш — медлить, замедлять, промедлить. **адвалакацца*,** ск. адвалачыся* — медлиться, замедляться, промедлиться. **безадвалочны*, неадвалочны*** — безотлагательный. Прыклады із Статуту: Галаўшчына... маець быці плачона й адправена без адвалокі 73. Будзем павіньні кажнаму з падданых нашых, каму-бы шло а чэсьць, неадвалочную справядлівасьць учыніці на першым Сойме Вялікам без усякае адвалокі 93. А вайводове маюць у такіх рэчах безадвалочную справядлівасьць

чыніці 205. Справядлівасьць неадвалочную назаўтрае-ж, а надалей трэцяга дня маем удзелаці 73.

**адвалока*, -і** — промедление.

**адвод, адводзіць, адвесьці** — гл. ля весьці.

**аддаляць***, -яю 1 — отклонять, устранять, удалять Стт. Ск. **аддаліць*,** -лю, -ліш — устранить Нсл. 372 і отклонить, удалить Стт.; Ст. акты. Аканома пан аддаліў ад гаспадаркі Нсл. 372. **аддаліцца*** — быть устраниму, удалиму. Прароцкая прычына аддаліцца Кіт. 68а. **аддалены*** — удаленный, устраненный (и отклоненный — Я. С.) Нсл. 372. Войт аддалены ад войтаўства Тм. За выступ айца іх суць аддалены ад іменей 70. Ад сумы сваяе аддалены быці ня маець 72. **аддаленьне*** — отклонение, устранение, удаление Ст. акты.

**адзывацца*,** -аюся 1, ск. адазвацца*, -вуся, -вешся — аппелировать. **адазваньне, адзываньне*,** -я — аппелирование.

**адзыўнік*,** -а, ж. **адзыўніца*,** -ы — аппелятор, -ша.

**адзоў*,** адозву — аппеляция.

Гдзе-бы ся каму суд падкаморага ня подле права відзеў, тагды па галоўнай сказьні рэчы самае вольна кажнай старане адазваціся з тым да Суду Галоўнага. За каторым адозвам маюць быці высланi ад Суду Галоўнага камісары 352. Хто-бы бяз прычыны слушнае ад суду падкаморага адзоў учыніў, тот павінен заплаціці віны падкамораму шэсьць рублей грошай 352. А адзываньне із суду да Галоўных Судзей 262. Хто ся адзавець, ня маець судзьдзі слоў сарамотных мовіці пры адозьве, адно тымі словы паведзіці: панове судзьдзі, тое сказаньне ваша мне ся відзіць ня подле права, адзываюся з тым да Суду Галоўнага. А па адазваньню, пакуль ся перад Судом Галоўным стараны правам разапруць, суд адправы чыніці ня маець 262.

**адказ*,** -у — ответ Ар.; Шсл.; Нсл. 373. Ніякага адказу ня даў Тм. Адказ як шыла Тм. Ні адказу, ні прыказу Прык. Ст. Няма ведама, які дадуць адказ на маю просьбу Ст. Павінен станавіцца і ў вадказе быці як на завітам року 197.

**адказаваць*,** -зую 1, ск. **адказаць,** -жу, -жаш — отве-чать, -тить Ар. Адкажаш перад Богам за маю крыўду Нсл. 373.

**адказнасьць*** — ответственность.

**адказны*** — 1) ответственный. — 2) ответный Ад.

**адклад*,** -у — отсрочка Ар.; Шсл.; Нсл. 374. Рабі без адкладу, калі рабіць Тм. Адклад ня йдзе ў лад Ст.

**адкладаць*,** -аю 1, ск. адкласьці, -ду, -дзеш — отсра-чивать, -очить. Ня трэба адкладаць да заўтра, што сядні можна зрабіць Нсл. 374. Хто каго пазавець а заставу ку браньню пенязей, хаця старана пазваная ня станець на рокі першыя, тагды прэд ся суд ня маець адкладаці на дальшыя другія рокі 216.

**адпавядаць,** -аю 1 — ответствовать (отвечать — Я. С.) Нсл. 378. Я за цябе адпавядаць ня буду: хто правініўся, тый няхай і адпавядае Тм.

**адпаведнік,** -а — ответчик.

**адпаведны** — ответственный, подлежащий ответственности Нсл. 378. Гэта дзела адпаведнае; не хачу брацца за яго Тм.

Паступаваці, яка а адпаведніках ёсьць апісана 400. А іменьня мацярыстыя дзеці ані апякун ня будуць павіньні ў права адпавядаці, але маюць тую справу да лет дзяцінных зупоўных адлажыці. А ані, калі лета зупоўныя меці будуць, тагды на вон час старана жалаблівая маець іх прыпазваці а ані ўжо будуць віньні на жалабу адпавядаці 308.

**адпавесьці*** — возразить Іг.

**адповедзь*, -і** — 1) ответственность Нсл. 378. За гэткае дзела адповедзь вялікая Тм. — 2) действие, служащее ответом на подобные же действия противной стороны. Уставуем, абы старастове нашы судовыя судзілі а адповедзь ад шляхціча шляхцічу на здароўе або агнём 201. — 3) возражение Іг.

**адправа*, -ы** — исполнение решения суда.

**адправіць*,** -ўлю, -віш — привести решение в исполнение. Урад тот судовы маець старане павадовай адправу на йменьню стараны праціўнае, подле артыкулаў у сём Статуце вышэй а адправе рэчэй суджаных пастановеных, учыніці 346. Возны із шляхтаю подле ўважэньня свайго шацунак і адправу на тых рэчах чыніці маюць 277. На йменьню праціўнага чараз дваранiна нашага ўкрыўджанаму моцную адправу ўдзелаці; каторы дваранін пры таковай адправе пяці шляхцічаў і двух возных пры сабе меці маець 272. На тых абжалаваных адправена быці маець 249.

**ад розуму адходзіць*** — с ума сходить. Каторыя-бы ад розуму адходзілі, ня могуць дастамэнтаў чыніці 338. Таксама ў „Аль кітабе”.

**адсудзіць** — гл. ля суд.

**адумерлы*** — выморочный. Усякая маемасьць мацярыстая адумерлая маець іці ў роўны дзел межы ўсіх дзяцей 295.

**адумершчына***, -ы — выморочное имение, имущество. Пан пабраў сабе адумершчыну нашага суседа Нсл. 381.

**адзяржаць, адзержаны** — гл. дзяржаць.

**аканаваць***, -ную, -нуеш — обречь. Аканаваў прадаць цяліцу на падачкі Стралкі Беш. (Ксл.). Ё й беларускае прозьвішча „Акановіч".

**акопаваць** — гл. капа.

**апаведаць, -цца, апаведаны, апаведаньне** — гл. паведаць.

**апыт*** — опрос. Маюць апыт чыніці ня толька а самым тым учынку і прычынах яго, але й а захаваньню а паступках тых абодвых асоб, права із сабою вядучых. А стараны часу такога апыту й выведаньня пры ўрадзе быці і таго ся прыслухаваці ня маюць 441.

**апытаваць***, ск. апытаць*, -аю 1 — распр-ашивать, -осить, разузн-авать, -ать распрашивая, опрашивать. Апытавай, апытай людзёў, калі мне ня верыш Нсл. 366. Трэба ў людзёў апытаць, каб дзе дастаць пастушка сабе Ст. **апытаны*** — 1) разузнанный распрашивая, опрошенный. Людзі апытаны ды нічога такога не сказалі Нсл. 366. 2) разысканный распрашивая. Украдзеныя мае коні апытаны Нсл. 366. **апытаньне*, -я** —опрос, разузнание распрашивая. Пашлі чалавека для апытаньня, ці праўда гэта Нсл. 366. **апытаньнік*,** -а, нэол — опросный лист, анкета. **выпытаваць*,** ск. выпытаць* — допр-ашивать, -осить, производить допрос. **выпыты*** -аў — допрос Нсл. 92. На выпытах ня прызнаўся Тм.

**апытаньнік** — гл. ля апытаваць.

**апрычоны*** — особый Пархв. **апрычона** — особо Тм. **апрычона, апрычоне** — врозь, в разных местах (,обособленно — Я. С.) Нсл. 366. Пастаў коні апрычона, каб ня біліся Тм. Пасадзі іх за стол апрычоне; апрычоне седзячы, ня будуць вадзіцца Нсл.

**арышт*,** -у — арест Ар. Пр. **рыштаваць, рыштант.**

**артыкул*,** -у — статья Стт.

**асачыць, асачэньне** — гл. сачыць.

**асобны*** — отдельный Ар. **асобна*** — отдельно Ар.

**аставацца*,** -таюся, -аешся, ск. астацца*, -нуся, -нешся — отставать, отстать. Ідзі баржджэй, не аставайся Аш. Халіма... быццам хацеў уцячы ад Лясьніцкага, або падражніцца, прымусіць прабегчы трушком, каб не астацца Зарэцкі (Сьцежкі-Дарожкі, 20). **асталы** — отсталый. Заўсёды намаз*) із азанам**) кланяціся трэба, хоцьбы асталыя намазы Аль кітаб, 88б4.

**асталасьць*,** -і — отсталость.

**асталец*,** -лца — реакционер.

**барышнік,** -а — свидетель при продаже или обмене. Пры куплі або мене маюць быці барышнікі, людзі добрыя, веры годныя 486. Цяпер **барыш** — выпіўка просьле куплі альбо мены Ар.

**бачаньне*,** -я — 1) гляденье, смотренье, досмотр Нсл. 17. Бачаньням жорава ня зловіш **Прык. Тм.** Без твайго бачаньня няма сьпеху ў рабоце Тм. — усмотрение. **Подле бачаньня*** — по усмотрению. А рок таму выезду камісарскаму ад Суду Падкаморага будзець пакладан подле бачаньня іх 352. Буду даглядаці, ня маючы бачаньня на высокія і на подлыя станы, на дастойнасьцях седзячых 165. Вольна аддаці, прадаці, дараваці, запісаці, ад дзяцей і блізкіх аддаліці, — подле бачаньня свайго тым шафаваці 315.

**бачлівы*** — сострадательный, внимательный к другим. Наш пан бачлівы пан, па ўсякім пагадае Нсл. 17.

**бачнасьць*,** -і — снисходительность, сострадание. Май бачнасьць на маю худобіну Нсл. 17.

**бясьпечнасьць*,** -і — безопасность, п. **bezpieczeństwo**, укр. безпека.

**бясьпечны*** — безопасный. **небясьпечнасьць*** — опасность. **небясьпечны*** — опасный.

Маем даваці а бясьпечнасьць здароўя падданым нашым лісты заручныя 90. Маець апаведаці, а то для таго, абы сабе тым лепшую бясьпечнасьць мець мог 78. Кажнаму вольны й бясьпечны приступ да справядлівасьці 244. Па тому-ж ся маець разумеці і а бясьпечнасьці суду падкаморскага 174. Можаш такога праціўніка свайго да права а небясьпечнасьць здароўя свайго пазваці 400. Многа небясьпечнасьці зажыў Аль Кіт. 79б.

**безадвалочны** — гл. адвалакаць.

**бескаранны*** — безнаказанный Нсл. 21. Учынак застаўся бескаранным Тм. **бескаранна*** — безнаказанно Тм. Ён усё робе бескаранна Тм.

**беспапраўны*** — неисправимый Нсл. 23. Беспапраўнага ня можна паправіць Тм. **беспапраўна*,** прс. — без исправления Тм., неисправимо. Гарэзуе беспапраўна. Тм.

**быцьцё*,** -я — 1) существование Нсл. 40; Гсл. Людзкое быцьцё Нсл. 40. — 2) быт Тм. Благое нашае быцьцё: няма чым і папра-

———

*) малітва, слова арабскае. **) гуканьне на малітву, арабізм.

віца Тм. — 3) бытность, присутствие Гсл.; Нсл. 40. У маім быцьцю так-сяк робяць Тм. **нябыцьцё*** — 1) несуществование. — 2) отсутствие.

**брок*,** -у — жертва.

Была зямля не сьвячона,
Былі людзі ня хрышчоны.
Ня верылі Госпаду Богу,
А верылі люту-цмоку.
Люту-цмоку далі броку
Кажны дзень па чалавеку.

Нар. песьня, запіс. ў Глуску Сц. (Божым Шляхам, 1951, № 1, 11). Гл. аброк.

**бунт*** — бунт, мятеж.

**бунтаўнік*** — бунтовщик. Бунтаўнікі горлам карані быці маюць 205.

**бурмістра*,** -ы — бургомистр Ст. акты.

**бурмістроўства*,** -а — должность бургомистра. Будучы ў бурмістроўсьцьве шляхціча зьбіў 471.

**вадапалох*,** -у — водобоязнь, бешенство Ар.

**важыцца*** — 1) дерзать, сметь. А есьлі-бы над сёе замераньне важыўся ўрад каго ўпорне судзіці, тагды суд яго ня маець быці дзержан 203. Як ты важыўся, адважыўся падняць руку на старшага брата? Нсл.42. — 2) решить,-ся Тм. Калі важыўся, няхай так і будзе Тм. Ск. **паважыцца*** — 1) дерзнуть, сметь Нсл. 424. Як ты паважыўся сказаць гэта супроць мяне? Тм. — 2) осмелиться, решиться Тм. Як ён паважыўся ночы адзін ісьці церазь лес! Тм.

**вайвода*,** -ы, м. — воевода Немеж Віл.; Аль кітаб. Гл. **майстат.**

**вайводзтва*,** -а — воеводство.

**вялікасьць** — гл. ля майстат.

**валодаваць** — гл. дзяржаць, дзержачы.

**веда*,** -ы — знание.

**ведаме*** — заведомо. Калі-б хто злодзея прылічнага ведаме ў доме сваём хаваў, усю шкоду, каторая бы ся каму чараз таго злодзея стала, будзець павінен плаціці 491.

**вена**,- а — запіс, асабіста забясьпячаючы маладую. Такі запіс рабіў малады з часьці свае маемасьці, пераважна адказуючай пасазе маладой.

**весьці, давесьці, даводзіць, давод, -ца; адвесьціся, адводзіцца, адвод; вывесьціся.**



**весьці,** вяду, вядзеш, ск. **давесьці*** — доказ-ывать, -зать. Нв. **даводзіць*,** -джу, дзіш. **давод*,** -у — доказательство, улика, **даводца*,** -ы, суп. — докащик, -ица Нсл. 136. Пакажы даводцу гэтае справы Тм. **Даводчы*, -ая*** — докащик, -ица Тм. Вазьмецеся за даводчага, даводчую Тм. **адвесьціся** — оправдаться, опровергнуть. **адводзіцца** — оправдываться, опровергать. **адвод,** -у — оправдание, опровержение.

**Прыклады із Статуту:** Прысягаю адведшыся, будзець ад таго волен 421. У той рэчы маець быці на выведаньне паслана, і за катораю стараною больш сьветчаньня па выведаньню будзець, тая ку даводу або адводу прыпушчана быці маець 416. Уставуем: калі суд, выслухаўшы жалаб і адпораў старон, скажаць каторайколечы старане давод або адвод, а воная старана на воны час, на каторы мела даводзіць або адводзіці не давядзець або ся не адвядзець, таковая рэч сваю траціці маець 257. А хто-бы на каго што несправядліва вёў, а не давёў, тым самым каран быці маець 65. **вывесьціся** — оправдаться. Ня быў падайзроны і вывеўся таго прысягаю сваёю 70.

**весьці права** — гл. ля пазоў.

**віж*,** -а Іг., Цімкавічы Сц. (Ад). — судебный исполнитель, судебный пристав.

**віжаванае*,** -ага — вознаграждение „віжу" — судебному исполнителю за его труд. Віжаванага ня маець быці большай брана, толька подле сяе ўставы нашае ніжэй апісанае, то ёсьць: віжу на кажную рэч узятаму і агляданага бітых і ранных на месцу — грош адзін, а есьлі дзе віж паедзець за колька міль, — тагды яму пămільнага на мілю па грошу; ад выданьня роты — прысягі духоўным асобам грош, а віжу на то прыданаму, — грош 183.

**вінаваты** — виновный. У землі вінаватага ўвязаціся 271.

**вывязаньне** — гл. увязаньне.

**выведаньне*,** -я — расследование. Урад для лепшае пэўнасьці і дазнаньня справядлівасьці сьвятое маець на шкрутыніум. то ёсьць на выведаньне тае рэчы, там да таго месца сам выехаці або выслаці 405. Не на голую павесьць і абмову, — але за аглядань-ням і выведаньням 85.

Пр. цяперка: **выведаваць*,** -цца, ск выведаць*, -цца — разведывать. Выведавай, выведай, што яны думаюць або мне Нсл. 79. Выведацца аб украдзеных конях Тм.

**выведкі***,-ак (націск на вы-) — разузнание, разведка Нсл. 79. Паехаў у выведкі аб уцеклых Тм.

**вывесьціся** — гл. весьці.

**вызваць на руку*** — вызвать на поединок. Вызваўшы каго на руку, раны яму задаў 399.

**выісьціцца** — гл. ісьціцца.

**выпаўн-яць,-іць, выпаўнены** — гл. поўніць.

**выпытаваць, выпытаць, выпыты** — гл. апытаваць.

**выпуск**,-у — размер отработки при временном рабстве. Уставуем, іж чалавек вольны за жадны выступ у няволю вечную выдан быці ня маець. А есьлі-бы ў суме вялікай быў выдан, маець з тае сумы выраблеваціся; а выпуску на кажны год мужыку рубль грошай, а жонца капу грошай 453. А закупным людзём тым-жа абычаям із сумы пенежнае выпуск быці маець, то ёсьць тым вольным, каторыя-бы ся самі ў чом запрадалі Тм.

**выраб**,-у, **вырабак,-бку** — отработка, уплата несостоятельного работою суммы, определенной судом. Ня будзець лі меці чым навязку плаціці, тагды на вырабак за тое злодзей будзець выдан — мужчыне на рок па капе грошай, а жонца па пяцьдзесят грошай вылічаючы 485. А за шкоды ня будзець лі меці чым плаціці, на выраб, яка вышэй апісана, выдан быці маець 485.

**вырабіцца**,-блюся,-бішся — за неимением чем заплатить, отработать присужденную сумму. Павінны будуць самі галавамі выдаваны быці, пакуль ся вырабіць 497. Дзеці падрослыя маюць із тае сумы вырабляціся, ведзьжа не далей, адно чараз сем лет 453. Пр. у Нсл. 93:

**вырабляць***,-яю 1 (нац. на „я") — зарабатывать. Кажан дзень выпрабляю па двацацтцы.

**выракаваць**,-кую 1 (націск на „ы") — предречь (? — Я. С.) Нсл. 93. Ён выракаваў мне гэта Тм.

**вырок***,-ку — судейское решение Нсл. 93, приговор. Вырок із суду далі Нсл. 93. Калі быхма мы гаспадар з выроку нашага сказаньне ўчынілі, а хто-бы сьмеў проціў таму выроку нашаму што праціўнае мовіці, тагды таковы маець сядзеці на замку нашам шэсьць нядзель 78. Цэдулу самога выроку судовага подле дазволу судзінага пісар маець напісаць. А па выроку тую цэдулу да пісара аддаці, подле каторае пісар воную справу ў кнігі запісаці маець 167. З права перад вырокам проч зышоў. 116.



**выраслы*** — совершеннолетний Чатыркі Аш., взрослый Тм.; Нсл. 93. Выраслага мае сына Тм. Пр. **падрослы.**

**выслабаніць***,-ню,-ніш — освободить Станґ. Полацк. пам. 137.

**выслуга** — отработка, служение за долг при невозможности уплатить наличными или имуществом. А ня будзець меці чым плаціці, іно даці яго на выслугу, покі-бы то заслужыў, што пашкодзіў; а выслуга маець быці па капе грошай на год 490.

**выступ***,-у, **выступак***,-пку — преступление, проступок. **Цяжкі выступ*** — тяжелое преступление. Слуга за пана, пан за слугу, і ніхто іны ні за чый выступ і ўчынак ня быў каран, толькі кажны сам за свой выступ маець цярпець і каран быці 84. Гдзе-бы (хто) на яўнам яком выступе пайман, таму адзоў ісьці ня можаць 249. Вайвадове нашы адправу на вінных подле выступку кажнага чыніці павінны будуць 249. Папа Івана ад царквы сьвятога Міколы Рыскага аддалілі за некаторы яго выступ духоўны Станґ: Полацкія пам., 137. Пр. Нсл. 97:

**выступак**,-пка — проступок. Дарую табе гэты твой выступак.

**выступіць***,-плю,-піш — совершить проступок. А гдзе-бы апісу свайму досыць чыніці не хацеў і ў чом зь яго выступіў, тагды ў усе подле запісу свайго упадаваець 328. Есьлі-бы хто із шаленства ў том выступіў, за то мы гаспадар браціся ня будзем 69. Такжа чужаземцы, загранічнікі Вялікага Княства Літоўскага тым-жа правам маюць быці суджаны і на тых урадзех, гдзе хто выступіць 65.

**выступнік***,-а, ж. **выступніца***,-ы — преступник,-ица. Праціўніку самому, яка выступніку, маюць шкодзіці 400.

**выступнік-навaратнік** — гл. наварат.

**выступны*** — преступный.

Яка-ж усіх таковых іменей, па зрадніках на нас гаспадара прыпалых, мы гаспадар ніколі нікому аддаваці ня маем, абы ся на ўсі патомныя часы зрада таковага выступнага паказавала 69.

**вочнік***, -а — наочный свидетель (очевидец — Я. С.) Нсл. 67. Я табе вочнікаў на гэта пастаўлю Тм.

**галаўшчына***, -ы — штраф за убийство. Раннаму навязка або забітага галаўшчына маець быці плачана 243. Муляру, шаўцу, ганчару — тым усім галаўшчыны па трыццаці коп 448.

**гаспадар***,-а — 1) государь. Усі йменьня зрадніка такога міма дзяцей на нас гаспадара ку столу нашаму, Вялікаму Княству пры-

падаці будуць 67. — 2) хозяин Ар.; Пархв.; Дз.; Н.; Госьміра Сян. (Ксл.); Ст.; Нсл. 120. **Дамовы гаспадар*** — хозяин дома, домохозяин. З рэчмі дамовага гаспадара пагарэлі 336.

**гаспадарыня*,** -і — государиня.

**гаспадарычна*,** -ы — государева дочь, царевна. Аль-кітаб Вольскага.

**гаспадарка*,** -і — хозяйство.

**гаспадарлівасьць*,** -і — хозяйственность Ар.

**гаспадарлівы*** (націск на -дар-) — хозяйственный, пол. gospodarny Ар. **гаспадарліва*,** пс. — хозяйственно.

**гаспадарскі*** — 1) государев. Абяцуем словам нашым гаспадарскім 66. — 2) хозяйский.

**гаспадарства*,** -а — государство Ст. акты.

**гаспадарствавасьць*,**-і — государственность.

**гаспадарстваваць*,** -вую 1 — быть государем, президентом, царствовать Пахвала Вітаўта (Летапіс).

**гатавацца*,** -туюся, -туешся — приготовляться Ар.; Адамава Сян. (Ксл.). Жыту красавацца — жнейкам гатавацца Тм. На што ся гатаваў 69.

**гатман*,** -а — гетман.

**гатманства*,** -а — должность и титул гетмана. Мы гаспадар абяцуем тот урад гатманства вялікае годным людзём, родзічам старадаўным туташняга гаспадарства нашага Вялікага Княства Літоўскага даваці 102.

Шмат якія Крывічы маюць цяперка прозьвішча **Гатман,** пркл. у Старой Рудні Жойдзішнае вол. Вял. Націск у гэтым прозьвішчу на канцу (**Гатман,** -на, **Гатманы,** -оў). З гэтага відаць, што й даўней у гэтым слове націск быў на канцы.

**гіпотэка,**-і = застава.

**голы доўг*** — долг без процентов. А а голых даўгох, за праўнымі запісы на йменьне ўцеклага ўнесеных... так ся разумеці маець 71.

**грошы гатовыя*** — наличные деньги. Маемасьць мацярыстая адумерлая, то есьць грошы гатовыя, золата, пэрла, каменьне дарагое маюць іці ў роўны дзел межы ўсіх дзяцей 295. Грошы гатотыя апісаці маець 284.

**хатняя вайна*** — междоусобие Акін. 193.

**хвальш*** — фальш.



**хвальшнік*,** -а — фальсификатор. І вы бы тых хвальшнікаў каралі па свойму праву сьветачна Полацкі ліст каля 1450 (Станґ, Полацкія пам., 145).

**дабрароднасьць*,** -і — благородство.

**дабрародны*** — благородный. Дабрародныі й пачэсьлівыі нашы мілыі суседзі Ліст полацкі 1468 г. (Станґ: Полацк. пам. 73).

**дабрародна*** — благородно.

**даведка*,** -і — справка Акін. 191.

**давесьці, давод, даводца, даводчы, даводзіць** — гл. весьці.

**дадаткавая прасока*** — доследование дела Акін.

**дазваляць*,** -яю 1, ск. дазволіць, -лю 2. — 1) позволять Асташова Чаш. (Ксл.); Шсл. Не дазваляйце дзяцём дурэць Ст. Хто табе дазволіў чужое браць? Ст. — 2) разрешать Асташова Чаш. (Ксл.). Ён нам дазволіў адкасіць воз сена Тм. Шляхціча, хто-бы сам корчмы пакутныя... меў, альбо людзём сваім меці дазваляў. пазваці да суду... вольна 504.

**дазваляцца*,** ск. дазволіцца — спрашивать (испрашивать, испросить — Я. С.) разрешения Усх. (Даль); Бікава Сян. (Ксл). Трэба аб гэтым у яго дазволіцца Тм.

**дазвол*,** -у — 1) разрешение Навікі Віц. (Ксл.). Калі ё дазвол, дык пойдзем Тм. — 2) позволение Шсл. Не далі дазволу на лес Ст. Без майго дазволу не сячэце лесу Нсл. 138.

**дазнаць*,** -аю, -аеш — уличить. **дазнаны** — уличенный. Залатары, которыя золата хвальшуюць, а ў том былі-бы дазнані, тады самі на горле агнём маюць быць карані 84. Хто-бы бяз прычыны ад суду падкаморага адзоў учыніў, тот павінен, за высланьням камісароў у том дазнаны, заплаціці віны падкамораму шэсьць рублей грошай **352.**

Цяпер гэты дзеяслоў мае накшае значаньне: **дазнаваць*,** дазнаю, -аеш, ск. **дазнаць*,** -аю, -аеш — испытывать, -ать Аш.; Вал. Дазналі мы шмат гора Тм. дазнаны* — изведанный, испытанный Нсл. Дазнаная праўда Тм. Дазнанае дзела. Тм. **дазнаньне*,** -я — убеждение опытом, опыт Нсл. Дазнаньням навучышся Тм.

**дамовы гаспадар** — гл. гаспадар.

**дамароблены*** — домашнего производства. Цана рэчам дамаробленым, адзежы належачым, і іншым 472.

**даставаць, дастаць** — гл. дзяржаньне, дзяржаць.

**дастаенства,** -а — высокая должность в государстве. Уставуем, абы жыд... на дастаенства ані на каторы ўрад праложан ня быў

і хрысьцян ў няволі ня меў 451. Прывільлям нашым яго пацьвердзім да жывата яго або да падвышэньня на іншы які большы ўрад або дастаенства 344.

**дастамэнт*,** -у — завещание. Пры кананьню сьмерці сваёй чыні дастамэнт Кіт. 52б. Хто-бы меў умерці без дастамэнту, такі чалавек, як сабака, здохне Кіт. 53а. Няхай мой мілы сын прыйдзе, я твар яго абачу і дастамэнт учыню Кіт. 94а. У гэтым слове маем **д** замеж **т** як распадабненьне, паўсталае з прычыны трох **т** у вадным слове. Гэтак-жа часта ёсьцека ў іншых старых памятках. У Статуце Вял. Кн. Літ. не знаходзім **д** у гэтым слове, бяссумлеву дзеля таго, што ў такой важнай кнізе консэрватыўная традыцыя карэктараў гэтае навіны не дапусьціла.

**дасьціп, дасьціпны** — гл. ля недаўсьціп.

**досыць чыніць*** альбо **чыніць досыць*** — удовлетворять. **досыць учыніць*** — удовлетворить Нсл. 143. Укрыўдзіўшы, досыць ня ўчыніў Тм. **досыцьучыненьне*,** -я — удовлетворение. **нядосыцьучыненьне*** — неудовлетворение. Бяручы пенязі сваі, досыцьучыненьня яго зазнаці не хацеў 319. Маюць досыць чыніці, чаго ся ацец іх абавязаў 309. У вязеньню патуль маець сядзеці, пакуль рукаемства на том дасьць, іж старане сваёй досыць учыніць 278. Быў пазван а няўчыненьне досыць запісу 203. За кажнае нядосыцьучыненьне сядзеньню маюць віну вышэй апісаную плаціці 138.

Аднолькавага значаньня з **досыць чыніць** і г. д. ё цяперка яшчэ **здаваляць,** -яю 1, ск. здаволіць, -лю 2 — удовлетвор-ять, -ить Ар.

**даўжбіт** — гл. ля доўг.

**доўг*,** -у — долг Стт. даўжбіт*, -а — должник, дебитор Дз.; Смаленскі ліст каля 1240 г. (Шахматов: Курс, 69), даўжбітка*, -і — женщина должник Дз.

**доўжны*** — задолженный, имеющий непогашенный долг. Тот чалавек доўжны ўмер 93. А йменьне доўжнае 322.

**забягаць*,** -аю 1, ск. забегчы, -гу, -жыш — предупреждать, принимать меры перед. Забягаючы затрудненьню й абцяжаньню справядлівасьці, уставуем, што-ж усі пановерады нашы маюць ся захаваці ў браньню перасудаў подле тае-ж уставы 182. Розьніцам забягаючы і на часы патомныя то межы імі раўнуючы, уставуем 147.

**Заводца, завесьці; звод, зводзіць, зьвесьці.**



**заводца*,** -ы — начинатель, зачинщик Нсл. 162. Заводца бітвы Тм.

**заводзіцца*,** -джуся, -дзішся, ск. завесьціся*, -дуся, -дзешся **чаму** — начинаться чему Нсл. 162. Вясельле заводзіцца Тм. Ня бывалае ў нас заводзіцца, завялося Тм. **звод,** -у — следствие при поличном. **зводзіць,** -джу, ск. зьвесьці, -ду — производить следствие при поличном.

**Прыклады із Статуту:** А часу права калі-б абвінены ў зладзейсьцьве паведзіў заводцу, ад каго то ліцо маець, тагды маець на том-жа ўрадзе нашам таго заводцу паставіці або зазнаньням урадовым сябе ачысьціці, гдзе будзець купіў і на каторым урадзе то апаведаў і ў кнігі запісаў. А есьлі-бы тот заводца таго абвіненага ў зладзейсьцьве перад урадам заступіў, а тот-бы заступнік браўся на іншы звод, хочачы весьці ад суду ўраду нашага на іншага заступніка і да іншага ўраду, то яму ня маець быці дано, але кажны заступнік да канчальнага зводу маець быці становен перад тым урадам нашым, гдзе ся пачатак стаў зводу, а ліцо ў урадзе будзець ку зводу тот выкупаці, хто ся зводзіць. А за выкупаваньне ліца болей урад ня маець браці, толька па дванаццаці грошай і за кажным зводам як ад самога вязьня, выпушчаючы яго, так ад ліца, каторае будзець ку праву становена 479. А есьлі-бы заводцы перад урадам нашым да канчальнага зводу не паставіў а зазнаньням урадовым сябе ў тым зладзейсьцьве не ачысьціў, тагды тот каран быці маець, яка злодзей 480. А гдзе канчальны заводца сябе ачысьціў выпісам урадовым, гдзе воную рэч купіў... таковы... нікому плаціці ня будзець павінен. Есьлі-бы хто пазваў каго а йменьне, менечы да яго быць права прыраджонае, а тот, каго пазавуць, ставіўбы на праве заводцу, каторы яму тое йменьне прадаў або якім-колечы правам завёў, а калі-б тот заводца яго заступіў, а пазваны, паставіўшы заводцу, хацеў-бы з права проч пайці, тогды у таковай рэчы яка заводца, так і пазваны а тое йменьне з права адходзіці ня маюць патоль, аж ся тот заводца яго із жалабнаю старанок расправіць 332-3.

**заказ*,** -у — 1) заказ. — 2) запрет Акін. Дзясятаму закажа Ар.

**заклад,** -аць, -ацца, -нік — гл. ля **ручыць.**

**закуп,** -а, ж. **закупка,** -і — прынятый во временное невольничество мужчина или женщина до отработки долга.

**закупіць,** -плю, -піш — 1) принять к себе человека во временное невольничество до отработки долга, закабалить. — 2) взять

 

за известную сумму недвижимое имущество во временное владение. Дзеяпрм. **закуплены.**

**закупны** — человек или имущество кем-нибудь „закупленае" 183. А пак-лі бы мужыка або жонку закупіў, тагды маець прыйці перад урад і, у чом закупіць або із суда ў заплаце якой будзець выдан, да кніг запісаці; і будзець-лі сума вялікая, тагды тот закуп і закупка за сем лет із тых пенязей вырабіціся маець 451. Іменьне закупное дзяржаў 332. Гл. **запрадаць.**

**замкненьне***-я — запор. Акно ў тае хароміны было ...замкненьням не абвараванае 492.

**замужка*,** -і (націск на „у") — замужняя женщина Пархв.

**запаведаць,** -аю — 1) наложить запрет под угрозою наказания. — 2) Об'явить о имеющим случиться. **запаведаньне,** -я — 1) наложение запрета, ареста. — 2) об'явление предупреждающее о чем-либо.

**запаведны** — запретный под угрозою наказания.

**запаведны ліст** — документ содержащий „запаведзь" (гл).

**запаведзь,**-і (нац. на за-) — судебный запрет под угрозою наказания. — 2) об'явление предупреждающее о чем-либо. Далі на запаведзі, вясельле будзе Ар.

**Прыклады із Статуту:** Хто-бы на чыёй зямлі збожжа якое-колечы бязь ведамасьці вонага, чый грунт, пасеяў, тагды тот, хто сваёю зямлёю быці мянуець, маець узяці ліст запаведны ад ураду і тым лістом урадовым маець запаведаці тое збожжа таму пану, хто будзець пасеяў 366. Па той запаведзі старана жалабная маець старану сваю праціўную ку расправе а тую зямлю пазваці 367. А гдзе-бы тое збожжа запаведнае пагніло, тагды яму праціўная старана заплаціці павінна будзець 367. Гдзе-бы хто рэчы свае рухомыя даў каму ў захаваньне, а іншы із стараны, даведаўшыся а тых рэчах у захаваньню, прыпаведаўся ку тым рэчам, мянуючы, іж тот істы, хто тыя рэчы злажыў, яму доўжан, тагды тот гаспадар маець тыя рэчы, за запаведаньням урадовым учыненым, не выдаваці да расправы, надалей ад часу арыштаваньня за дзьве нядзелі; у каторым часе тот, хто воныя рэчы запаведаў, маець ся зь ім перад урадам тым, пад каторым тыя рэчы запаведаў, расправіці 337. Есьлі-бы чыя чэлядзь дворная або палоненая ўцякла, а тот, у каго ўцячэць, запаведаўшы зь якога перайма і жанучы за ёю ў пагоню, у каго-бы яе нашоў, тагды маець таму, у каго засьпее, пераймо даці, з чаго будзець первей запаведаў, а чэлядзь сваю да сябе ўзяці, над пераймо нічога больш не даючы таму, на чыім іменьню спасьцігнены будуць 459.



**запазваць,**-цца — гл. пазваць.

**запіс*,**-у — 1) внесение в судебные книги (за Крывіцкага гаспадарства гэта мала значаньне нотар'яльнае). — 2) запись Акін 192. Гл. упіс.

**запісны ліст** — гл. ля ліст.

**запрадаць,**-ам,-сі — отдать недвижимое имущество за известную сумму во временное владение. **запрадацца** — отдать себя во временное невольничество до отработки долга, закабалить себя. А закупным людзём тым-жа абычаям із сумы пеняжнае выпуск быці маець, то есьць тым вольным, каторыя бы ся самі ў чом запрадалі 453. Прадаў або запрадаў каму якое йменьне або землі, тагды тот, хто купіў або закупіў, акажаць лі на то лісты ўрадовыя, тагды тот таковае йменьне, купленае вечнасьці, а закупленае да адданьня яму сумы пенязей дзяржаці маець 71. Гл. **закуп** а далей.

**зарука, заручны ліст** — гл. ля **ручыць.**

**застава*,** -ы — ипотека Акін. 192. Гл. гіпотэка.

**заставацца*,**-стаюся 1, ск. застацца*,-нуся-нешся — оставаться. **засталы*** — остальной.

**заступаць*,**-аю 1, ск. заступіць*,-плю,-піш — замещать, заменять Шсл. Ён заступіў брата свайго на рабоце Ст. Заводца таго абвіненага ў зладзейсьцьве перад урадам заступіў 479.

**заступнік*,**-а, ж. **заступніца*,**-ы — заместитель,-ница.

**зялезны ліст** — гл. ля ліст.

**звада*,**-ы (націск на -ва) — 1) ссора Ар. — 2) раздор Акін. 193.

**звадня*,**-і (нац. на канцы) — клевета, ложь, побуждение к ссоре Нсл. 199, сплетня. Усю гэту сварку нарабіла звадня твая Тм. Я табе усё скажу, да калі-б звадні ня было ніякае Тм.

**зварачацца*,**-аюся,-аешся, ск. зьвярнуцца*,-уся,-ешся — 1) возвращаться, возвратиться Нсл. 199. Зварачацца з дарогі Тм. Круцячы сьвет пройдзеш, ды назад ня зьвернешся **Прык.** Тм. Паслы ад судоў усякіх пад соймам вольні будуць, аж пакуль ся із сойму зьвернуць 223. **зьвярненьне,**-я — возвращение. Нсл. 198. Па зьвярненьню пана двору. Тм. Да зьвярненьня з паслугі нашае



 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

й земскае палёгка ў праве чынена быці маець 218. — 2) делать, сделать оборот в хозяйстве Нсл. 199.

**звод, зводзіць, зьвесьці** — гл. заводзіцца.

**зводня*,-і**, суп. — сплетник, сплетница Нсл.

**зводні*,**-еў — сплетні Нсл. Ня трэба слухаць зводнеў Нсл. 199.

**зводнік*,**-а — сплетник Нсл.

**зводніца***,ы — 1) сводница. Абы такія людзі, будзь мужчына або жонка ў мясьцёх нашых ня былі церпены, каторыя звыклі для зыску свайго намаўляць спадарычны або ўдовы й замужкі каму для распусты цялеснае так, іж-бы хаця-бы з каторае магло быць што добрага замужам, абарачаюцца за намовамі зводніц у нівэч 502. — 2) сплетница Нсл. 199. Зводніца ты, зводнямі сваймі не даець нікому супакою Тм. Гл. звадня, зводні.

**згода*,**-ы — согласие.

**згуба*,**-ы — 1) потера Ар.; Нсл. 203 Знайшоў сваю згубу Тм. Калі-б лучыла... пад часам агню-пагарэньня ў месьце што яму зьгінула, каторая згуба ў каго-колечы-бы ся затоеная паказала, тады собсьнік маець із ім то чыніці правам 500. Каму-бы лісты на даўгі зьгінулі ў дарозе, а тот, каму тыя лісты належалі, таго-ж часу на вонай згубе перад урадам апаведаў, на том прысягнуці маець 333. — 2) погибель Нсл. 203. Гэта яму на згубу паслужыць Тм.

**згубіць*,**-блю,-біш — 1) потерять Ар.; Нсл. Валей із разумным згубіць, чымся з дурным знайсьці. **Прык.** Тм. Старана пазваная пазоў згубіла 189. — 2) погубить Ар.

**згубнік,*,**-а, ж. **згубніца*,**-ы — 1) доводящий,-ая до „згубы" — потери, утраты. Згубнік гэты ўсю гаспадарку зараз зьнішчыць Ст. — 2) доводящий,-ая до погибели, губитель. Згубніца ты мая: ты мне жыць не даеш Ст.

**згубца*,** -ы, суп. — губитель, -ница Нсл. 203. Хочаш згубцаю маім быць Тм.

**здаваляць, здаволіць** — гл. досыць чыніць.

**здань*,** -і — привидение Я. Купала; Акін. 192.

**зыскаваць*,** ск. **зыскаць*, зышчу,** зышчаш — взыскивать. Патроху зыскаў свой доўг Нсл. 222. **зысканы***—взысканный Тм. **зысканьне*,**-я — взыскание Тм. Зысканьне доўгу, штрапу за шкоду Тм.

**зыскуючы, -ая** — взыскатель. Каторы маець большую суму, як дзержачы, так і зыскуючы, будзець павінен другому меншую суму заплаціці 323.



Побач із **зыскаваць, зыскаць** ё цяперка **спаганяць*, -яю 1, спагнаць***, спаганю, спагонеш Ар., **спаганяньне*,** нск., **спагнаньне*,** ск. Ар. Адгэтуль **спагон*, -у** — зысканьне Ар., **спагоньнік*, -іца*** — зыскуючы, -ая. **спаганяць,** -яю, -яеш, спагнаць, -ганю, -гонеш — 1) взыскивать следуемое Ар.; Шсл. Во калі ён уздумаў спаганяць даўнейшы доўг Ст. Спагнаў зь яго ўсе свае грошы Тм. Трэба спаганяць даўгі Чашнікі (Ксл.). — 2) отомщать Шсл. Дарма, я яму спаганю за гэта! Ст.

**зрада*,-ы** (ад jьzrada) — измена Нсл.; Аль кіт.; Смаленшчына (Даль); Гсл. Сам парадзіў мне дый зраду зрабіў Нсл.

**зрада*,**-ы (ад **рада)**—общее согласие в совещании Нсл.; Войш. У вас адна зрада, а ў нас другая Нсл. Зраду між сабой малі, як гэта зрабіць Тм. Зраду зрабілі, каб пабіць мяне Тм. У двух рада, у трох зрада Войш.

**зрадлівы***—1) неверный, на которого положиться опасно Нсл. Зрадлівая рада Тм. — 2) изменчивый Гсл.; Нсл., вероломный Гсл. Зрадлівы прыяцель Нсл. Зрадлівая пагода Тм. — 3) ненадежный Нсл. Зрадлівы мост Тм. Зрадлівая вяроўка Тм. — 4) коварный. Такі зрадлівы Багд. **зрадліва** — неверно, изменнически Нсл., коварно. Зрадліва парадзіў мне Тм.

**зраднік*,**-а, ж. **зрадніца*,-ы** (націск на зра-)—изменник, изменница Гсл.; Нсл. Зраду прымаюць, а зрадніка вешаюць Тм.

**зрадны*** — 1) изменнический, предательский Нсл. Зрадная рада Тм. — 2) непостоянный Тм. Зрадная пагода Тм. — 3) ненадёжный Нсл. Зрадны паром, мост Тм.

**зрадзтва*,**-а — изменничество Нсл. 218. Зрадзтва твае табе-ж пайшло на зло Тм.

**зраджаць*,**-аю, ск. **зрадзіць*,**-джу — изменять,-ить Гсл.; Нсл.; Аль кіт. Няпрыгожа... уцёк, зрадзіў ЗСД 270. Ты першы раз зрадзіў нас ЗСД 385.

**зраджавацца*,** ск.**зрадзіцца*,**-джуся (ад **рада), узаемн.— иметь** замысел, составлять между собою заговор против кого Нсл. 218, совещаться. Ведаю, што вы ўсі зраджуецеся, зрадзіліся на мяне аднаго Нсл.

Побач із **зрада** ў значаньню „измена" ё ў тым-жа значаньню **ізрада** і пад. Прыклады: **ізрада*,**-ы — измена Нсл. 224. Ізраду мне зрабіў ён: непрыяцелю майму прадаўся Тм. **ізраднік*,**-а — изменник Даль. **ізрадзтва*,**-а — изменничество Даль. **ізраджаць*,** -аю, ск. **ізрадзіць***-джу — измен-ять,-ить Смаленш. (Даль). А дзеля та-

го замест ужываць **зрада, зраднік** і г. д. у значаньню рас. „измена” і г. д., валей ужываць **ізрада, ізраднік, ізрадзіць, ізраджаць, ізрадзтва, ізрадлівы, ізрадны** (з **і** на пачатку).

**зраза,** -ы — образец Чарнагосьці Беш. (Ксл.) Наста прынесла палатно кашулі на зразу Тм.

**зразавы** (націск на зра-) — образцовый.

**дзявоцкі, дзявоцтва, дзявушчы, дзяўчына** — гл. ля дзеўка.

**Дзяржава, дзяржаўца, дзяржаць, дзяржаньне, дзержачы, адзяржаць, -аны.**

**дзяржава*,** -ы — 1) территория, находящаяся в управлении „дзяржаўцы”. — 2) владение (земля). — 3) правление.

**дзяржаўца*,** -ы — администратор определенной территории.

А гдзе-бы каторы дзяржаўца або цівун у том павеце, гдзе яго дзяржава ляжыць, аселасьці сваяе собскае ня меў, тагды суд маець адаслаць на адправу да іногa ўраду й суду, у каторам павеце вон аселасьць сваю меці будзець 249. А камісара на тое (на замену — Я. С.) із стараны нашае — падскарбі земскі або дворны і стараста, у чыёй дзяржаве ся то точыці будзець 160. А гдзе-бы пры грунцех нашых гаспадарскіх таковае гранічэньне каму зь кім прыдалося, тагды дзяржаўца тых грунтоў нашых таковым-жа спосабам лістом падкаморага маець быці абаслан. А так-жа і дзяржаўцы добр нашых у том захаваці ся павіньні будуць 348. За дзяржавы Жыгімонта Старога, за мітрапаліта Дзевачку... Буркулабаўскі летапіс.

**дзяржаць*,** -жу — 1) держать Ар. Дзяржыць у правай руццэ аднаго каня. Кіт. 110б. Адзін палумісак у руках дзяржаць Кіт. 114а. У вязеньню дзяржаць маець 278. — 2) соблюдать. Таковы запіс перад правам ня маець дзержан быці 318. А есьлі-бы над сёе замераньне важыўся ўрад каго ўпорне судзіці, тагды суд яго ня маець быці дзержан 203. Павінні права іх цэла й непарушна дзяржаці 7. Калі спытаюць: „Да веры мусульманськай спосабаў колька ест?” Кажы... Божы прыказ знаць і дзяржаць Кіт. 42а. Каторага-колечы імама павесьць учуўшы, трэба верыць і дзяржаць таго Кіт. 69а. — 3) владеть, иметь во владении, **дзяржаньне*** -я — владение. **дзержачы*** — 1) держатель. — 2) владелец.

Калі-бы хто йменьне закупное ў каторай суме дзяржаў, а другі бы ся з даўгом сваім ку таму йменьню прыпаведаў..., тагды тот, каторы маець большую суму, яка дзержачы, так і зыскуючы, будзець павінен другому меншую суму заплаціці 322-3. Каторы пазоў дзержачы таковага йменьня вінен будзець пану вонага йменьня, каторы яму арандаваў, азнайміці 231. Маюць цяпер дзержачыя такія стараства прысягу на суды ўдзелаці ротаю судзьдзі земскага 210. Маець у йменьне ўвязаці і то яму ў дзяржаньне да заплаты суму пенязей падаці 270. Дзяржаньне двара ў вапеццы Нсл. 130. Мандатам нашым дзержачых пазваў Пташыцкі: Князья Пузыны, 74. **валодаваць,** -дую 1) — владеть (рукой, ногой, языком и т. п.). Як сталі біцца, дык зьбіў на чыста, сусім ня можа нічым валодаваць Чыгірынка Бых. (Раманаў І-3, 96). **адзержаваць*,** ск. **адзяржаць*,** -жу Гсл. і **адзержыць*,** -жу — получ-ать, -ить.

Адзержыць ліст Нсл. 359. Адзержыць, адзяржаць спадак Тм. Хто первей купіў, маець то адзяржаці 318. Жалабнік ужо тое йменьне адзяржаці маець 254. **адзержаны*** — полученный Нсл. 359. Адзержаны ліст Тм. Адзержаныя грошы Тм. Хаця-бы больш над то глейтаў з канцылярыі нашае адзержаў, таковы глейт жаднае моцы й важнасьці, яка ку адвалоцца справядлівасьці адзержаны меці ня будзець 79. **адзяржаньне*,** -я — получение Гсл.

Накшае, хоць блізкое да дзеяслова **адзержыць, адзержаваць,** мае значаньне дзеяслоў **дастаць*, даставаць*.** Дастаць можна штось рукамі, нагамі й інш., прыкл., купаючыся, дастаў дно ракі нагамі. Час па зямлі хадзіў, час па небе ляціць, ні гор, ні каменьня, ні даліны не глядзіць: даліна прыйдзе — дастануць ногі Кіт. 112а. Паступіся на ўслончык і дастань кнігу з паліцы. Дастань камень із вады. Але з пошты лісты, грошы, кніжкі адзержуюць. Калі вінаватага пакаралі або пагражаюць караю, дык кажуць: „дастаў”, „дастанеш”.

**дзяцюк*,** -а — 1) парень Смл. (Даль); Ар; Шсл.; Гсл.

Дзяцюкі — малойчыкі, А дзевачкі, баярачкі,
Кладзеце чырвончыкі; Кладзеце падарачкі

Нсл. 32. Дзяцюка пара жаніць Нсл. 133. Мікіта здаровы дзяцюк Ст. — 2) холостяк, холостой Ар.: Акін. 194; Бай-Гар. сл.

**дзяцюцкі*** — 1) свойственный парню. — 2) свойственный холостяку, холостяцкий.

**дзяцюцтва*,** -а — 1) жизнь парня. — 2) жизнь холостяка.

**дзельчы ліст** — гл. ля ліст.

**дзержачы** — гл. ля дзяржаць.

**дзеўка*,** -і — девица Ар.; Нсл. 123. Суджанаму дзеўка Прык. Тм. **дзявоцкі*** — девичий Усх. (Даль 523); Ар; Запрудзьдзе Сян (Ксл.); Шсл., девический Нсл. 132. Гэта дзявоцкая гульня, а не хла-

пецкая Ст. Дзявоцкі сорам Нсл. 132. Дзявоцкія ўборы Тм. У ваччу ў яе гарэў агонь маладога дзявоцкага задору ЗДС. 99. **дзявоцтва*,** -а — 1) девичьи годы, девичество Гсл.; Новікі Віц. (Ксл.). Дзявоцтва правялі як-небудзь Тм. Дзявоцтва было сіроцкае Нсл. 123. — 2) девство. **дзявушчы*** — холостой Калышкі Лёз. (Ксл.), девственный. Дзявушчым век пражыў Тм. **дзяўчына*,** -ы мн. л. дзяўчаты Ар.; Вяц., Усх., Цьвр., Пск. (Даль) і дзяўчаняты Тм. (Даль) — девушка.

**жалаблівая, жалабная** старана, **жалабнік** — глянь ля пазываць.

**жарало права*** — источник права.

**жэрабя*,** -я — жрэбий Ар. Кінуць на жэрабя — бросить жрэбий Ар.

**ізрада, ізрадзіць** — гл. ля зрада, зрадзіць.

**іспаш*,** -ы (націск на -аш) — потрава, порча скотом засеянного поля Нсл. 225. Ня маець за іспаш стада браці; бы і засьпеў на іспашы, маець адагнаці да таго пана, чыё стада ёсьць, а іспаш маець абвесьці людзьмі староньнімі і акопаваці з тымі-ж людзьмі, тагды тый павінен іспаш заплаціці, чыё стада шкоду ўчыніла. Ведзьжа вызваляем толькі стада сьверэпее, абы на іспашы ня было займавана 467. Што капа на іспашы прысудзяць шкоды, тот пан, чые быдла занята, маець плаціці Тм. Твае коні ўсякі раз іспаш мне робяць Нсл. 225.

**істасьць*,** -і — 1) сущность Лужасна Куз. (Ксл.) Істасьці ў іх ня дойдзеш Тм. — 2) чистосердечие Нсл. 225. Істасьці ў вас ні на каплю няма Тм. Я к вам з усёю істасьцю, а вы ка мне з усёю хітрасьцю Тм.

**істы*** — истый, подлинный. А за тую віну астачу маемасьці праціўнага да столу нашага гаспадарскага ўзяці маем, каторую ўжо тот істы таковы праціўнік вечне траціць павінен будзець 272. Гдзе-бы хто неаселы рэчы свае рухомыя даў каму ў захаваньне, а іншы із стараны, даведаўшыся а тых рэчах у захаваньню, прыпаведаўся ку тым рэчам, мянуючы, іж тот істы, хто тыя рэчы злажыў, яму доўжан 337.

**існьцец*,** ісца — ответчик. Хто-бы якія рэчы купіў або памяняў, тагды пры такой куплі або мене маюць быці барышнікі і з тымі барышнікамі сам тот ісьцец, хто прадасьць або прамяняець, (маюць) да ўрадніка прысьці і тую продажу або мену да кніг запісаці 486. Тот ісьцец, каторы йменьне заставіў, перад рокам, на выкупеньне вонага йменьня запісаным, умер 331. Маець у ісцоў сваіх пенязей іскаці. А есьлі-бы тот ісьцец ня меў чым плаціці, тагды ў том даўгу маець суд яго самога выдаці 322. Калі-б хто чужое йменьне ў вапецца дзяржаў, а быў-бы ў суду а даўгі паканан, таковы із собскага йменьня плаціці маець, а ў нястачы йменьня й маемасьці, рухомых рэчай, і на самам ісцу маець быці адправа ўчынена, а йменьне, каторае-бы ў вапецца дзяржаў, ад таго вольна будзець 314.

**ісьцізна,** -ы — основной капитал. На каго-бы маемасьць лежачая або рухомая спала, павінні будуць, есьлі а суму пенязей пазычоную пазавуць, ісьцізну і з савітасьцю заплаціці 329. А гдзебы, а тое ня будучы яшчэ да права пазваны, (ацец) зьмер, тагды (сын) больш ня маець плаціці, адно ісьцізну пазычаную, а савітасьць, він і накладаў нічога ня маець плаціці Тм.

**ісьцізна*,** -ы (націск на -із-) — правое дело. (? — Я. С.), правый иск, истинная принадлежность Нсл. 225, искомая по суду собственность Ксл. Маю ісьцізну другому прысудзілі, другому аддалі Тм. Ісьцізны свае ён не дайшоў у Віцебску Лужасна Куз. (Ксл.).

**ісьцізнае** — истинная принадлежность. А пак лі бы ў чыём схаваньню таковыя рэчы ўзяты былі ад каго гвалтам, тагды на абжалаванам тот, у чыём схаваньню было, даходзіці іх маець; а навязка таковых рэчай таму, чыя была собскасьць, з самога ісьцізнага ад таго, у каго ўзята, зыскаўшы, вернена быці маець 336.

**ісьціна*,** -ы (націск на ісь-) — истинный, правильный долг (основной капитал — Я. С.) Шсл., Нсл. 225. Хаця-б ісьціну зыскаць, а чужога мне ня трэба Ст. Не хачу я твае квоты, аддай маю ісьціну Нсл. 225.

**ісьціць*,** ішчу, ісьціш, ск. уісьціць* (націск на ісь-) — 1) исполнять в точности Нсл. 225. Так ты ісьціш, уісьціў свае слова? Нсл. 226. — 2) отдавать взятое или одолженное количество Тм. Ня толькі квоты не даець дый самога доўгу ня ісьціць Тм. — 3) удовлетвор-ять, -ить Тм. За крыўду ня хоча мяне ісьціць, уісьціць Тм. — 4) поступать по чистой совести Тм. Ні ў чым ты мне ня ісьціш Тм. — 5) обеспечить. Ня маець быці з таго вязеньня выпушчан аж пярвей сябе рукаемствам уісьціць 92. **ісьціцца*,** ск. выісьціцца — 1) исполняться Нсл. 226. Мае слова ісьціцца, выісьцілася Тм. — 2) выплачивать свой долг Тм. Хачу табе выісьціцца, ды ня змога мая разам аддаць, буду патроху ісьціцца Тм. **уісьціцца*** — обеспечить. Гдзе-бы хто, каму даўшы на сябе запіс а ў том ня ўісьціўшыся, зьмер 328. Маець рукаемства паставіці, людзей до-

брых, аселых, і ўісьціціся імі і іх маемасьцьмі, іж ня зьнікнець у тых лецех, яка на лісьце (зялезным) яму назначана 93.

**каянка*,** -і (націск на ка-) — раскаяние Сьп.

**каята*,** -ы (націск на ка-) — покаяние Кіт.; Нсл. 227; Сц.

**казань*,** -і (націск на ка-) — проповедь (реч) Кіт.; Вял.; Вк.

**казіць** — гл. пераказіць.

**канаваць** і г. д. — гл. кон.

**канчальны*** — окончательный Нсл. 245. Скажы канчальнае слова Тм. **канчальна*** — окончательно.

**капа,** -ы — орыгінальны даўнейшы судовы інстытут крывіцкі. Капа складалася з акалічных жыхараў данае мясцовасьці, што дзеля дасьледаваньня й рассуджэньня выступу (злачынства) збіраліся на азначаным месцу, званым **каповішча.**

**копнік** — учасьнік, сябра капы. **акопаваць,** -пую, -еш — разглядаць судовую справу капою, ацэневаць шкоду капою.

А есьлі-бы ўкрыўджаны зладзействам хацеў шкоды сваяе даходзіці капою, тагды ўсі ў той аколіцы вокал на мілю з усіх чатырох старон, маюць казаці падданым сваім на капу сходзіціся. А то ся маець разумеці ўперад на тыя месцы, гдзе дагэтуль копы ня бывалі, — каторыя каповішча кажны падкаморы ў павеце сваім назначыці і сёла тых, хто ся там станавіці будзець, апісаці маець. А іспаш маець абвесьці людзмі староньнімі і акопаваці з тымі-ж людзмі 467. Што капа на іспашы прысудзяць шкоды, тот пан, чые быдла занята, маець плаціці Тм. Ад **акопаваньня** шкоды вознаму грош 187. А есьлі-бы каторыя з тых копнікаў на прысяжной капе ня сталі, таковыя будуць павінны галаўшчыну самі плаціці 408.

**кара*,** -ы — наказание Ар.; Нсл. 229. Кара Господня на нас Тм.

**караць*,** -аю, -аеш — наказывать Шсл.; Нсл.; Ар. Паны як хацелі, так і каралі сваіх людзей Ст. Ск. **пакараць** Ар.; Нсл. 230; ск. **укараць** Тм. — наказать, подвергнуть взысканию Ар.; Нсл. 230. Карай, Божа, нас тым да веку Тм. Свой пан карае, пакарае й памілуе Тм. Як не карай, ніколі не ўкараеш яе Тм. Мы гаспадар шлюбуем ніколі не караці на завочнае паведаньне 65. **караны*** (націск на -ра) — наказанный Нсл. 230. Двойчы караны за гэта Тм. Каранаму ня страшна кара Тм. **караньне*,** -я — 1) наказание, возмездие за вину Нсл. 229. Хоць-бы якое караньне яму за гэта даў Тм. Ніякага караньня не баіцца Тм. За няўсьцівыя справы сваі караньне адносілі 10. — 2) терпение наказания, беда Нсл. 230. Караньне з гэтым хлапцом Тм.

**кірмаш*** (націск на -маш), -у — ярмарка Шсл., Ар.; Гсл. Ня было сядні ў Сьмілавічах вялікага кірмашу Ст. Будзе кірмаш і на нашай вуліцы Прык. Ст.

**кірмашаваць*** (націск на -ваць), -ую 1 — проводить время на ярмарке Ар.; Шсл. Як ё грошы, дык добра й кірмашаваць Ст.

**кірмашны*** (націск на -маш) — ярмарочны Шсл.; Ар. Сядні кірмашны дзень Ст.

**кон*,** -у — рок. **канаваць*,** -ную 1, ск. наканаваць* — предопредел-ять, -ить. ЗСД.; М. Гар.; Нсл. 244; Лук'янова Сян. (Ксл.). Табе гэта ўжо наканаваць надабе Тм. Бог якую сьмерць кануе, наканує, так і ўмірае кажан. Нсл. 244. Што Бог наканаваў, наканує, таго ніколі ня мінеш Нсл. 309. **канаваны*** — определенный судьбою, предопределенный Нсл. 244. Гэта яму канаваная сьмерць Тм. Яму такое канаванае жыцьцё Тм. **канаваньне*,** -я — предопределение Тм. Такое яму канаваньне ад Бога Тм. **наканаваны*** — предопределенный Нсл. 309. Наканаваны дзень Тм. Наканаванага ня мінеш Тм. **наканавана*** — предопределено, предназначено. Наканавана толькі жыць: нічога ня зробіш Рыбчына Сір. (Ксл.). Ганьба вам наканавана Дуб. **наканаваньне*** — предопределение Нсл. 309. Відаць такое яму ад Бога наканаваньне Тм. Пр. **аканаваць.**

**конадзень*,** -дня — канун Барн. **на конадні** — на кануне Тм.

**крымінальны** — уголовный Акін. 191.

**крыш*,** -у (ад „крышыць") — 1) быстрый перелом болезни, кризис Нсл. 256. Крыш яму прышоў Тм. — 2) смерть Нсл., кризис. Бярвіно зваліласяізь сьцяны, як ён тут стаяў, чуць яму крышу ня было; каб крышачку бліжэй, і крыш быў-бы яму Нсл.

**крыўда*,** -ы — обида.

**крыўдаваць*** (націск на -ваць), -дую 1 — обижаться Ар.

**крыўднік*,** -а, ж. **крыўдніца*,** -ы (націск на кры-) — обидчик, -ца Аль кітаб Вольскага („Узвышша" № 4 з 1927 г., б. 143).

**крыўдзіць*,** -джу, -дзіш, ск. скрыўдзіць — обижать, обидеть Ар.; Нсл. 252. Бог не паможа, калі сірот крыўдзіш, скрыўдзіў Тм. Ск. **пакрыўдзіць*** Ар., **укрыўдзіць*** Ар.; Нсл. 656; Лук'янава Сян. (Ксл.). Хто-ж цябе ўкрыўдзіў? Тм. Малога ўкрыўдзілі, дык гаркімі сьлізьмі плача Ст. Аднаго батрака ўкрыўдзіш, другі ня пойдзе служыць Нсл. 656. **укрыўджаны*** — обиженный (и потерпевший — Я. С.). Нсл. 656; Ар. Укрыўджаныя батракі плачуцца на цябе

 

Нсл. 656. Укрыўджаная старана маець а то праціўную сваю старану да суду належнага пазваці 358. У Статуце ў значаньню „потерпевший” ужываецца вылучна „укрыўджаны”, каторага прыклады сустракаюцца мноства разоў.

**купаўнік*,** -а — покупатель.

**купец,** -пца — 1) купец Ар.; — 2) покупатель Ар.

**ласка*,** -і — 1) милость Ар.; Нсл. 265; Шсл. Ласкі твае прасіць ня буду Ст. Як панская ласка! Нсл. 265. З ласкі жывець Тм. Учынюшчы сьнег агню, ласку ўчыні над царквою Магамэда! Кіт. 116а. З ласкі і за прывільлям караля яго міласьці 1. — 2) расположение. Ён у ласцы ў пана Нсл. 265. **Убіцца ў ласку*** — втереться в расположение Ар. — 3) взаимное расположение. У ласцы міжсобку жывуць Нсл. 265. У ласцы не пералсывеш Тм. — 4) ужываецца як беззас. дзеяслоў — угодно Тм. Ласка мая, дам, ня ласка — ня дам Тм. — 5) одолжение Ар. Зрабі ласку, купі абаранак вязку Прыг. Дз. Вялікую ласку зробіш, калі прыйдзеш Нсл. 265. Зрабі мне ласку Тм. — 6) благодать. Я (Бог — Я. С.) пакрыўца — усіх пакрываю, сваёю ласкай царкву тваю ўвесялю Кіт. 122а. Хто будзе дзяржаці справы твае, Я (Бог — Я. С.) яму ўчыню ласку сваю Кіт. 120б.

**ласкавы*** — милостивый и благодушный Ар. Які ты ласкавы стаў Ст.

**ласкучынюшчы*** — благодательствующий Аль кітаб.

**лашчыць*,** -чу 2 — 1) делать кого ласковым к себе, приласкивать Нсл. 266. Сядні ты мяне лашчыш, як я табе трэба, а заўтра наплюеш Тм. — 2) ласкать Тм. Як ні лашч яго, нічым ня ўлашчыш Тм. Ката лашчыш, а ён кіпці выпушчае **Прык.** Тм. **лашчыцца*,** ск. прылашчыцца* — ласкаться, показывать ласку Нсл. 266, ластиться Шсл. Кот лашчыцца, прылашчыўся да мяне Нсл. Сабака лашчыцца да чалавека Ст. **улашчыць*,** -чу 2 — умилостивить Імсь., **зв. улашчыцца*** — умилостивиться Імсь. **улашчаны*** — умилостивленный кем Імсь.

**ляндар*,** -а, ж. **ляндарка*,** -і (націск на -дар) — орендатор, -ша. Ляндарка зь ляндаром мёд, гарэлку падаюць Марцінкевіч („Гапон”). Паўсталі — адпадзеньням „а” і распадабненьням „р” з даўнейшых **арандар, -ка** (сам із тым **арандаром** стаў і яму ся ўсправядлівіў 234). Ляндарамі зваліся таксама карчміты — дыкжэ дзеля таго, што яны рандавалі корчмы ў паноў. Папытайся ў ляндаркі, па чом гарнец аўсу Нсл. 267. Дай, ляндарачка, напавер; да душы прынясу Тм. Наш ляндар ня вера на крэйду Тм.

**ляндарства*,** -а — арэндный промысел Тм. Ляндарствам займаецца на сяле Тм. **ранда*,** -ы (націск на ра-) — 1) аренда, арендная плата Нсл. 554. На рандзе сядзіць, жывець Тм. — 2) арендное содержание Тм. Поле й карчму пад ранду выпусьціў Тм. **рандаваць*** (націск на -ваць), -дую, 1, ск. зарандаваць* — иметь в арендном содержании, арендовать Нсл. 554; Шсл. Рандаваць, зарандаваць сад, карчму, млын Тм. Зарандаваў цэлую валоку Ст. **рандаваньне*,** -я — арендование Нсл. 554. Рандаваньне карчмы, зямлі Тм. **рандоўля*,** -і — 1) состояние аренды Нсл. 554. Якая рандоўля, такая й плата Тм. — 2) отдача в аренду Тм. Пан наш двор свой пусьціў у рандоўлю Тм.

**лік*,** -у — число Іванова Куз. (Ксл.) Які лік надыйдзе? Тм. Грошаў у яго бязь ліку Ст. Гл. лічба!

**ліня*,** -і — линия.

**ліня простая*** — линия прямая.

**ліст*,** -у — 1) растительный лист. — 2) письмо Нсл. 269; Ар.; Шсл.; Гсл.; Яноўшчына Беш. (Ксл.). А мой мілы лістоў ня шлець Тм. Ты ці ня прынёс лісту? Нсл. 269 Л. пісаў ліст Славіну. Вось пачатак таго лісту Гсл. Да былiначку буйны вецер калыша,

брат да сястры ліст па лісьце піша.

Б. Забалоцьце Сьміл. (Шсл.). **упісны ліст*** — заказное письмо. — 3) официальная бумага Гсл., отношение (письменное) — 4) документ. Колькі парсон адным лістом апісаліся 334. Я, Н. прысягаю... усякія лісты яго міласьці гаспадарскія й ўрадовыя справядліве й пільне адносіці й аддаваць 175 (з прысягі віжовае). А пісар земскі маець паруску, літарамі й словы рускімі, усі лісты, выпісы й позвы пісаці, а ня іншым языком і словы 165. Каторыя йменьня сваі за продкаў нашых дзяржалі, тыя маюць і на патомныя часы дзяржаці, бы добра й лістоў нікаторых на то ня мелі 156. **атвароны ліст*** — документ, содержащий публичное об'явление власти. Чараз ліст атвароны ўраду земскага даці знаці 352. **хрышчоны ліст** — метрическая выпісь рождения. **дарожны ліст*** — путёвка. **дароўны ліст*** — дарственная грамота Пташыцкій: Кн. Пузыны. **вызнаны ліст*** — вексель, расписка с потверждением долга. Ніхто ня маець бязь лісту вызнанага пазычаці большай дзесяці коп гро-

 

 

 

шай. А хто-бы большую суму пенязяй бязь лісту вызнанага пазычыў, пенязі траціць 334. **запаведны ліст** — документ, содержащий „запаведзь” (гл.), т. е. содержащий судебный запрет под угрозою наказания, **запаведны ліст на прадоўжаньне справядлівасьці** — документ центральной власти о моратории. Лістоў нашых запаведных на прадоўжаньне справядлівасьці людзкое, яка-колечы задзержаваючы яе, даваці ня будзем, кром толькі тых прычын, ніжэй апісаных: первае — калі-бы хто а рэч паспалітую ў непрыяцеляй нашых у вязеньню быў 86. **запісны ліст*** — документ для записи в судебные книги. Хто-бы хацеў запіс спраўаваці на каторую рэч рухомую, тагды маець кажны на сябе даваці ліст запісны 319. **зялезны ліст*** — документ о моратории 93. **дзельчы ліст*** — раздельная запись. Будуць лі на лісьцех дзельчых паложаны якія абавязкі..., тагды подле свайго абавязку заплаціці вінен будзець 370. **пахоўны ліст*** — метрическая выпись смерти. **падачкавы ліст*** — окладной лист. **пазоўны ліст*** — исковое заявление. Гл. пазоў. **судовы ліст*** — судебная бумага. А лісты судовыя і ўсякія выпісы маець пісар рукою сваею падпісаваці. **увяжчы ліст*** — лист вводный. Маець на тое ўвязаньне ехаці і там старану повадавую яка за тую суму, з права сказаную, так і за заруку ў лісьце ўвяжчам паложаную, у іменьне праціўніка ўвязаці і адправу на ём учыніці 271. **урадовы ліст*** — официальный документ.

Зьм. **лісток*,** -тка, лісточак*, -чка — 1) лист у растений Ар.; Нсл. 269. Прышоў Пятрок, апаў лісток; прышоў Ільля, апала два. **Прык.** Тм. — 2) листик бумаги Тм. Ні лістка, ні лісточка паперы няма Тм. — 3) письмецо Ар.; Нсл. 269. Пан да пана прыслаў лісток Тм.

А напішам па лісточку
Дый пашлем да радочку,
Няхай радня прачытае Тм.

Подле менаванага „продовольственная карточка” будзе звацца **емінны лісток*,** бялет на язду (цягніком, аўтобусам і інш.) — **езны лісток*,** бялет на ўход куды (у тэатр, кіно, на выстаўку) — **уходны лісток*,** лісток із вылічэньням страваў і інш. ў страўні — **страўны лісток*** і шмат іншых падобных.

**лістоўны*** — документальный. На воны грунт у суду жаднага права, яка лістоўнага, так ані знакоў яўных гранічных не паказаў, толькі так голымі словы тот грунт своіў, а старана бы повадавая, як права лістоўнае або знакі яўныя гранічныя паказала, тагды таковая старана, за паказаньням права лістоўнага пры грунце застаўлена маець быці 358. **лістоўны давод*** — 1) письменное доказательство. — 2) документальное доказательство. Могуць тэж быці даводы лістоўныя, то ёсьць запісы на йменьня і іныя выпісы або апаведаньня й сазнаньня з кніг канцыляры нашае і з кніг судовых земскіх і замковых 260. А гдзе-бы пры даўнасьці земскай старана пазваная які-колечы давод лістоўны паказала, тагды і бяз прысягі ад абжалаваньня пры дзяржаньню сваём даўнам вольна будзець 324.



**ліцо, ліцаваны, прылічны, няпрылічны; абліччa, аблічны, аблічна.**

**ліцаваны*** — пойманный с „ліцом” — поличным. **прылічны*** — вор, пойманный с „ліцом” — поличным. **няпрылічны*** — не пойманный с поличным.

**ліцо*,** -а — поличное.

**Прыклады із Статуту:** ліцо, рэчы крадзеныя, былі ў яго пазнаны 478. Калі-б хто чыйго слугу зь якім ліцом, рэчмі крадзенымі паймаў, тагды такога ліцаванага чалавека маець весьці да таго двара, ку катораму воны чалавек належыць 476. Гдзе-бы на яўнам яком выступе пайман быў або зь ліцом прыведзен быў, таму адзоў іці ня можаць 249. Калі-б хто злодзея прылічнага ў дому сваём хаваў... будзець павінен плаціці 491. Тот чалавек... бліжшы будзець... зь людзьмі добрымі й няпрылічнымі адпрысягнуцісяе 495. **абліччa*,** -а — 1) черты ліца, облик, физиономия Нсл.; Ксл., Шсл. Ці прыгожае ў яго абліччa? Сукрэмна Сян. (Ксл). Па абліччу відаць, што Васількоў сын Ст. І абліччa тваё зладзейскае Нсл. 384. — 2) ліцо Нсл. 348. У ваблiччу маім маніш. Тм. **аблічны*** — лицевой, на лице находящийся. За рану аблічную на твары — сорак коп грошай 410. **аблічна*,** прс. — лицом к лицу Нсл. 348. Аблічна зь ім стаў перад панскім судом Тм.

**лічба*,** -ы — 1) счет Нсл. Рочкі ку адпраўаваньню судоў гродзкіх маюць быці кажнага месяца і пачынаці ся маюць першага дня лічбы месячнае 208. Дай мне лічбу на куплены тавар. Лічба вялікая, ды праўды мала Нсл. — 2) отчет. У Нсл. і Ар. націск на ліч-, а ў Гсл. на -ба.

**лічбу здаваць*,** здаць — давать, дать отчет, отчит-ываться, -аться. Лічбу лёгка здалі Кіт. 79б. Судны дзень прышоў, усе людзі



 

лічбу здаюць, із пастоў сваіх лёгка лічбу здалі, а мой ацец із посту свайго прыступіў лічбу здаваць Кіт. 19а. **лічбыздаваньне*,** нв., **лічбызданьне*,** -я, аднр. — отчет. Лічбыздаваньне перад Спадаром Богам дня суднага Кіт. 39а.

**лічбу здыймаць*** — принимать отчет. Спадар Бог із добрых мусульман легка лічбу здыйме Кіт. 35б.

**лічба йдучая*** — счет текущий.

**лічбу чыніць*** — вести счет. З таго нікаторае лічбы сыну й дачцэ чыніці ня будзець павінен 155. Апякун маець лічбу з апекі свае чыніці так, яка і кажны іншы апякун 132.

**лічыць*,** -чу, -чыш, ск. палічыць* — считать, сосчитать Ар.; Нсл. 270; Гсл. Палічы зубы свае ў роце. **Прык.** Нсл. 270; **лічаны*** — считанный Тм. Воўк і лічанае бярэць. **Прык.** Тм. **лічэньне*,** -я — счисление, считание Ар.; Нсл. 270. Не праўдзівае тваё лічэньне Тм. Гл. лік.

**льга*** — возможно.

**магутнасьць*,** -і — могущество.

**магутны*** — могущественный. Лес магутны, рака шырокая плачуць Іванова Куз. (Ксл).

**магучы*** — могучий.

**магчы*,** -гу, -жаш — моч.

**магчымасьць*,** -і — возможность.

**магчымы*** — возможный, **магчыма*** — возможно.

**маемасны*** — имущественный.

**маемасьць*,** -і — имущество, состояние Ст. акты; Ксл., имущество Гсл. Жарты — гэткая маемасьць згарэла Дабрамысль Лёз. (Ксл.). **ляжачая маемасьць*** — недвижимое имущество Ст. акты. **рухомая маемасьць*** — движимое имущество.

**мажнець** — гл. ля мажны.

**мажны*** — 1) внушительной наружности, широкоплечий Бабр.; Іг. Гэта чалавек мажны Іг. — 2) влиятельный. Хочам то меці, абы кажны з падданых нашых, як мажнога стану, так і меншага, хто-бы каня купіў, тагды пры такой куплі маюць быці барышнікі 186. Для таго права суць пастаноўлены, абы мажному й патужнаму ня ўсё было вольна чыніці 15. **можны*** — зажиточный. У нашага пана ўсі можныя людзі, па пяцёра коняй маюць Нсл. 287. А есьлі-бы хто каму што заставіў, іменьне, людзі, а із стараны хто трэйці... з тае заставы што адняў, тагды тот, каму будзець то аднята, пахочаць лі пазваці таго, хто яму заставіў, тот... так многа можнымі людзьмі і із землямі маець яму то нагарадзіці 332. В. ст. **мажнейшы*** — 1) более сильный, более влиятельный. Шляхціч супроць асобы стану вышшага й мажнейшага заручнага лісту патрабаваў 90. — 2) более зажыточный Нсл. 287. Мажнейшы ён за ўсіх нас Тм. **можна*** прс. — зажиточна. Можна жывець Тм. В. ст. **мажней*** — 1 сильнее Тм. Пацягні мажней вяроўку Тм. — 2) зажиточнее. Ён мажней нашага брата Нсл. 287. **мажнець*,** -ею, ееш, ск. памажнець* — становиться, стать зажиточнее. Камышкі Лёз. (Ксл.). Пакрысе мажнець сталі Тм. За маладым панам мужыкі сталі мажнець, памажнелі Нсл. 287. Ад добрага парадку мужыкі мажнеюць, а ад дурнога галеюць Тм.

**майстат*,** -у — маестат, величество. А Аль кітабе Крыв. муз. Ів. Луцкевіча і ў часьці іншых памяткаў ё **майстат,** але ў Статуце і некаторых іншых знаходзім **маестат** — відавочна з прычыны консэрватыўнай традыцы ў іх аўтараў. Яка ў кажнам, патрэба давадаў яўных і ясных, так і ў вабражэньню маястату нашага 69. Хто на каго абражэньне маястату вядзець, маець давесьці сяма сьветкамі Тм. Кажны майстат розны блеск выдае, адзін аднаго сьветласьцяю асьвячае Кіт. 114б. Але нельга сказаць „яго цэсарскі (або імпэратарскі) майстат", але трэба сказаць „яго цэсарская **вялікасьць".** Бог вялікі, Бог вялікі у вялікасьці, над Яго-ж і мацней Яго нікога нямаш Кіт.

**маладая*,** -ой — 1) молодая; — 2) невеста..

**малады*,** -ога — 1) молодой; — 2) жених Ар.; Акін. 193.

**маладзён*,** -а — молодой челавек.

**мана*,** -ы — ложь Дз.

**маніцца*,** -нюся, -нішся — намереваться, иметь намерение Ар.

**маніць*,** -ню, -ніш, ск. зманіць* — лгать Дз.

**маныш*,** -а — лжец Дз.

**манюка*,** -і, суп. — лжец Дз.

**мань*,** -я — лжец Іг.

**маньцель*** = мань Іг.

**мена*,** -ы — мена (юр.), обмен. Хто-бы якія рэчы памяняў, тагды пры такой мене маюць быць барышнікі 486. Тую мену да кніг зазнаці Тм. Дык м. „тавараабмен" будзе **таварамена*.** Зьменшанае ад **мена** ёсьцека **менка*** Ар.

**менаваць*,** -ную, ск. наменаваць* — 1) именовать, называть по имени Нсл. 284. Мяне, панок, наменавалі Тм. Яго так мянуюць Тм. Есьлі-бы шляхціч шляхціча на дарозе разьбіў, а воны разьбіты ў парсуну яго пазнаў і перад урадам раны свае паказаў і таго-ж часу аказаўшы таго ў парсону менаваў альбо наймя, іменям мянуючы, да кніг запісаў 415. Хто-бы бяз волі айца (дзяўчыну) ўзяў ґвалтам, мянуючы іж-бы яму пашлюбіла 397. Старана зараз тых сьветак у суду імёны менаваці маець, на каторых пастанавеньне прасіці будзець 258. — 2) упоминать Нсл. Пра ўсіх так менавалі Тм. **менавацца*,** ск. наменавацца*, зв. — называться, назваться Тм. Гэта так панашаму мянуецца Тм. Наменаваўся шляхцічам Тм. **менаваны*** — 1) поименованный. Тм. Ня ўсі менаваныя прышлі Тм. — 2) упомянутый. **верх менаваны*** — вышеупомянутый. А за бочку тых верх менаваных ярын савітаю цаною больш, ніжлі за капу паложана, маець быці плачона 471. **вышменаваны*** — вышеупомянутый. Пан Бог Стварыцель усіх прарокаў вышменаваных спасеньне дасьць Аль кітаб. 79б.

**мернасьць*,** -і — умеренность Ар.; Нсл. 296. Зь мернасьцю жывучы можна пражыць Тм.

**мерны** — умеренный Ар.; Нсл. 296. Уставуем, абы на рокі земскія ніхто зь вялікімі непатрэбнымі почты слуг і прыяцель сваіх не прыяжджаў, адно ў почсьцьве мернам 232. Мерны мароз Нсл. 296. Мерная плата Тм. **мерна*,** прс. — умеренно Ар.; Нсл. 296. Мерна жывець Тм. Мерна даець старцу Тм.

**місьцюк*,** -а — скрытный, злостный (или мстительный) вредитель Маркоўцы Вял. Што табе, дудар, прысьпела шчыру песьню завадзіць? Ці то лёгкае, брат, дзела нашу брацьцю абудзіць? Крыкнуць на цябе паноўе, што ты злодзей і місьцюк, страціш голас і здароўе і дуду упусьціш з рук (з альбому Вярыгі Дарэўскага).

**мыляцца, мыліцца** — гл. абмыла.

**мыта*,** -а — пошлина Гсл.; Лужасна Куз. (Ксл.). Ад таго ня маець быць мыта давана 96.

**мытня*,** -і — таможня Гсл.

**мытнік*,** -а — таможенный чиновник Гсл., мытарь. Мытнікі нашы мыта новае бралі 81.

**мытніца*,** -і = мытня Гсл.

**мытны*** — таможенный Гсл.

**мытны збор*** — таможенная пошлина Акін. 191.

**мукар*,** -а (націск на му) — мучитель. Мукары языкі рэжуць Кіт. 129а.

**мукі*,** -аў — пытка Стт.; Акін. 191.

**мучыць*,** -чу, — пытать, подвергать пытке. Тот чалавек падазроны мучан маець быці 493. **мучыцца*** — страдать. У вагню душы іх мучацца Кіт. 130б.

**наварат*,** -у (націск на на-) — рецидив. **другім наваратам** — вторично Войш.

**наваратны*** — многократный, рецидивный.

**наваратны выступ*, выступак** — рецидивное преступление, проступок. **выступнік-наваратнік*** — рецидивист.

**навязаць*,** -жу, -жаш — наложить штраф, оштрафовать.

**навязка*,** -і — пени, штраф.

Маець шкоду плаціці з навязкаю, каня канём, а вала валом навязаці, а за саху дзесяць грошай, а за нарогі дванаццаць грошай заплаціці 368. Увязаньне ў вонае йменьне за рэч асуджаную пастуціці, а к таму ґвалты, зарукі, у лісьце судовым апісаныя, з навязкаю сам плаціці павінен будзець 274.

**навука*,** -і — 1) учение, обучение Ар.; Нсл. 301; Шсл.; Лужасна Куз. (Ксл.). Аддаў у навуку да каваля Тм. Лёгка даецца яму навука Ст. Аддаць пара хлапца ў навуку Нсл. 301. Патрабуй навукі, як выйдзеш із калыбкі, пакуль пойдзеш да грабавой дошкі Кіт. 44б. Дзеці ад маткі сваяе да апякуноў браны быці ня маюць, але маюць застаці пры матцы. Дзеўка да выхаду яе замуж, а мужчына да лет такіх, у якіх ужо на навуку да школы даваці годна, то ёсьць да сямі лет 294. — 2) инструкция. Захавацiся так маець, яка ў том артыкуле вышэй навука апісана ёсьць Стт. *Навука апякуном, як маюць апеку на сябе браці* 305. Маець вонага дзяржачага ўрадоўне, яка ў том навука ў артыкуле сорак восьмам сяго разьдзелу ёсьць апісана, абнесьці Стт. 230. — 3) поучение. — 4) урок (наказание) Шсл. На другі раз яму будзе добрая навука Ст. Далі яму добрую навуку Нсл. 301. — 5) ученіе. Ханіфаг імама навука пэўнейшая. Кіт. — 6) наука Лужасна Куз. (Ксл.). Навука да ўсяго дойдзе Тм. — 7) наставление. Шсл.; Нсл. 301; Ар. Гэй прарочa, пытайся ў іх, навуку чы давалі няверңікам, чы навучалі няверңікаў. Кіт. 113а.

**навучаць*,** -аю 1 — наставлять Шсл. Матка дачку навучае Ст.

**нагляд*,** -у — надзор Ар., надсмотр Гсл.

**наглядаць*,** -аю 1 — надзирать Ар.

**нагляднік*,** -а, ж. **наглядніца*,** -ы — надзиратель, -ница Ар.

**наемца*,** -ы — наниматель, -ница.

**назіраньнік*,** -а, ж. **назіраньніца*,** -ы — наблюдатель, -ница.

**назіраць*,** -аю, -аеш — наблюдать Ар. Назірай добра, каб статак ня лез у шкоду Ст. Назірай за пшчоламі Нсл. 307. **назіраны*** — 1) наблюданый Ар. — 2) наблюдаемый Ар. **назіраньне*,** -я — наблюдение Ар.

**наймiт*,** -а, ж. **наймітка*,** -і — наемный работник, -ица Ар. Так-жа ся маець разумеці і суджона быці а наймітах Стт.

**наказ*,** -у — 1) извещение Гсл.; Ар. — 2) повестка.

**наказаваць*,** -зую, -зуеш, ск. **наказаць*,** -жу, -жаш — дать знать, передать извещение, известить Ар. Накажы мне, калі будзе якая работа Сянно (Ксл.). Як трэба будзе, дык будзем наказаваць, каб прыходзілі к нам. Няма кім наказаваць: сам прыходзь Тм. Накажэце нашаму Міхалю, хай каня вядзе з поля дамоў Тм. Тата наказуе, што мама дужа хвора Нсл. 308. Калі-б ты мне наказаў, калі пан прыедзе Тм. Наказавалі на вясельле Ар.

**наканаваць, наканаваны, -а, наканаваньне** — гл. кон.

**належачы*** — 1) принадлежащий Нсл. 310. Ты рэчы, да цябе не належачыя, пабраў Тм. Мы гаспадар усіх абываценяй панства нашага Вялікага Княства Літоўскага і земль к яму належачых Рускіх, Жамойцкіх і іных, да аднакавае роўнае вольнасьці прыводзячы, усіх падданых княскіх, панскіх і шляхоцкіх ад верху менаваных і якім-колечы іменям названых поцягляй і павіннасьцяй ад сяго часу на ўсі патомныя часы выймуем і вызваляем вечнымі часы 141. — 2) надлежащий Нсл. Рабі належачым спосабам Нсл.

**нашэньнік*,** -а, ж. **нашэньніца*,** -ы — носитель, -ница; носильщик Ар.

**на ўпад** — гл. ля ўпад.

**наўчоны*** — учоный Аль Кіт.

**нябыцьцё** — гл. быцьцё.

**нядосыцьучыненьне** — гл. досыць чыніць.

**няпрылічны** — гл. ля **ліцо.**

**нястанае, нястаньне** — гл. стаць.

**няшчысьлёны*** — бесчисленный Ар.; Нсл. Няшчысьлёнае прайшло войска Нсл.

**нячысьлены*** (націск на -чы-) — немногочисленный.

**неадвалочны** — гл. адвалакаць.

**небясьпечнасьць, небясьпечны** — гл. бясьпечны.



**недабор*,** -у — недоимка Акін.

**недасьпех*** — недосуг. Тыя каморнікі маюць быці ад падкаморага, за недасьпехам яго самога, пасылані ку рассудку й граніэньню 358. Хтобы за недасьпехам сваім ня мог-бы за чатыры нядзелі перад пачацьцям рочкаў пазваці, тагды й тыдзень у рочкі рок прыйнаваи быці маець, толькі-б ад пазваньня чатыры нядзелі споўнілася 208.

**недаўсьціп*,** -у — тупоумие. Пра недаўсьціп свой сам таго даходзіці ня могучы, на каго іннога права свае ўліў 318. Адгэтуль відаць, што **дасьціп*** (як відаць із **дасьціпны, ў** з часам выпала) — остроумие. **дасьціпны*,** -ога — остроумный Дз; Івянец Вал.; Доры; Шсл. Ого, наш хлапец вельмі дасьціпны Ст. Ён вельмі дасьціпны Копцевічы Чаш. (Ксл.). **сьціпнасьць*,** -і — ловкость; аккуратность Свярдлы Беш. (Ксл.). Ніякае сьціпнасьці ў яго рабоце няма Тм. **сьціпны*** — 1) ловкий, аккуратный Заазер'е Сян (Ксл.). У Карнея дачкі такія сьціпныя, можаш сватаць якую любя Тм. Ён ня дужа сьціпненькі, а так цапу-лапу... Запрудзьдзе Сян. (Ксл.). — 2) весьма трудолюбивый, работящий Ст. Вельмі-ж яна ўжо сьціпная і часінкі табе ня згуляе дарма! Тм. **сьціпна*** — ловко, аккуратно Навікі Віц. (Ксл.). Пражыла я, дзякуй Богу, сьціпна, нічога благога ня ведала. Тм. Яна сьціпна кросны тчэць Лук'янова Сян. (Ксл.).

**неэтычнасьць*,** -і — безнравственность Акін 192.

**незачэпнасьць*,** -і — неприкосновенность. **незачэпны*** — неприкосновенный.

**нельга*** — невозможно.

**немаральнасьць*,** -і — безнравственность Акін. 192.

**непарушны*,** -а —гл. ля **рушыць.**

**павага***-і — уважение Нсл. 424, и почтение. Павагу аддаваць трэба старшым Нсл. 424. Мусульман павядуць з павагаю, а на патканьне выйдуць райськія панны з райськімі коньмі Кіт. 131 а.

**паважаць***,-аю 1) — уважать Ар.; Гозьба Меж. (Ксл.); Шсл.; Нсл. 424. Хто з моладу старых паважае, таго самога пад старасьць паважаць будуць Тм. Гэткага чалавека ўсе паважаюць Ст. Будучы пры двары нашым, а не паважаючы нашага майстату, сьмеў таго ся важыці а на каго другога на палацу нашам таргнуць... 72. **паважацца*** — 1) быть уважаему Нсл. 424. На ўсім сьвеце старыя паважаюцца Тм. — 2) иметь уважение к кому или к чему Тм. Гаво-

рачы гэта, паважайся хоць хлеба-солі Тм. Паважаючыся добрых людзёў Тм.

**паважнасьць*,-**і — уважение Ар.; Нсл. 424 и почтение. Абы ў гаспадарсьцьве нашым хрысьцянскім усякая усьцівасьць і паважнасьць, паваланню хрысьцянскаму належачая, была захавана 438. Май паважнасьць да старшых Нсл. 424.

**Павед-аць,-аньне, апавед-аць,-ацца,-аньне, прыпаведацца, паведзіць.**

**паведаць,**-аю 1 — заявлять. **паведаньне,-**я, нск. — заявление. Мы гаспадар шлюбуем нікога не караці на завочнае паведаньне 65. **апаведаць** — заявить. **апаведацца** — заявиться. **апаведаны** — заявленый. **апаведаньне**-я, адзр. — заявление. А гдзе-бы рэчы прыгодне пагарэлі, а вон-бы то ўраду тагды-ж апаведаў, тагды маець сам на том прысягнуці 336. Уставуем, абы вываланыі зладзейскія перад урадам апаведаны... былі 491. Калі-б каму лучыла злодзея свайго паймаці, тагды маець віжу то апаведаці й аказаці 484. ...тот слуга на ўрадзе нашым апаведаці і да кніг тое сабе запісаці даці маець і, узяўшы тое апаведаньне і зазнаньня вознага выпіс із кніг і апаведаўшыся пану свайму, маець пайці проч 464. А гдзе-бы каторы з таковых асоб, да якога места альбо местачка прышоўшы, хаця й маючы аб сабе пасьветчаньне пана свайго, а не апаведаўшыся ўраду, там жыў, тады ўрад тот маець яго ў путы зялезныя на два тыдні акаваці 465. **прыпаведацца** да чаго — пред'явить свои притязания на что-либо. Гдзе-бы хто неаселы рэчы свае рухомыя даў каму ў захаваньне, а іншы із стараны, даведаўшыся а тых рэчах у захаваньню, прыпаведаўся ку тым рэчам, мянуючы, іж тот істы, хто тыя рэчы злажыў, яму доўжан 337. Калі-б хто йменьне закупное ў каторай суме дзяржаў, а другі-бы ся з даўгом сваім ку таму-ж іменьню прыпаведаў, мянуючы, іж тэж яму на том-жа йменьню сума ёсьць апісана... 322.

**паведач** (націск на -е-?), -а — заявитель. А есьлі-бы хто каго абмовіў, што нам гаспадару на здароўе стаяў а на то ся гатаваў, а таковы павядач і сок есьлі-бы таго не давёў, сам асуджэньням пасьцівасьці і горлам маець быці каран 69.

**паведзіць** — заявить. Калі-б абвінены ў зладзейсьцьве паведзіў заводцу... тагды маець... зазнаньням урадовым сябе ачысьціці, гдзе будзець тое купіў і на каторым урадзе тое апаведаў і ў кнігі запісаў 479. Есьлі-бы старана пазваная, стаўшы на року, а паведзіла, што пазоў, каторым яго жалабнік пазваў, згубіла, тагды жалабная старана вінна будзець копію з пазву жалабы сваяе даць 189. Дзяржаў іменьне за запісам а паведзіў іж не аднаму мне тое йменьне належыць, але й іншым учасьнікам 321. Старана пазваная паведзіла, іж тот пракуратар, не даехаўшы таго ўраду, умер 241. Цыцэро паведзіў, іж ясьмо нявольнікамі праў для таго, каб вольнасьці ўжываці маглі 15.

**пагляд*,-**у — взгляд Нсл. 436; Ноўка Віц. (Ксл.). На пагляд ён дужа харошы Тм. Кажнае маладое маіцца пагляду Нсл. 436. Благі мае пагляд Тм.

**пагляднае***-ага — платеж за разрешение посмотреть Нсл. 436; Лужасна Куз. (Ксл.). Плаці пагляднага, ча лезеш так? Тм. Пакажу, калі дасі пагляднага Нсл. 436.

**пагляднЫ*** — 1) удобно, свободно видимый Нсл. Не пагляднае, не пакажу Тм. Паглядны гасьцінец (кажацца на сьмехі, зн. паказаны, але ня даны) Тм. — 2) наглядный. Паглядная навука. Паглядная лекцыя.

**пагоня*** — гэрб задзіночанага гаспадарства крывіцкага — Вялікага Княства Літоўскага. Мы гаспадар даём пад гэрбам таго панства нашага Вялікага Княства Літоўскага Пагоняю пячаць да кажнага павету 180.

**пагроза*,-**ы — угроза. Пагрозы ягонай не баюся Навінкі Лёз. (Ксл.).

**падарожжа*,-**а — путешествие Н.

**падачкі*** — подати Навасёлкі Войст.; Кацёлкі Пруж.; Ліст Жыгімонта Старога, Вільня 1536 г. (Станг 73). Маюць ся Жыдове на выслугах сваіх проціў хрысьцянскіх людзей захаваці, абы іх ку падачкам і службам нязвыклым не прыневалялі 452.

**падвучаньнік***,-а, ж. **падвучаньніца*,-**ы — подстрекатель,-ница.

**падвучаць*,-**аю 1, ск. падвучыць*,-чу,-чыш — подстрек-ать, -нуть Ар. **падвучаньне*,-**я — подстрекание Ар.

**пахвалка*,-**і — угроза, похвальба Нсл. 486. Пахвалку робе пабіць мяне Тм.

**падпамагаць*,-**аю 1, ск. падпамагчы*,-гу,-жаш — 1) пособлять,-ить Нсл. 446. Падпамагай яму несьці Тм. Падпамажы мне падняць мяшок Тм. Падпамог коньмі 422. — 2) снабжать часто небольшими пособиями Нсл. 446. Колькі не падпамагай яго, ні-

чым не падпаможаш Тм. **падпамажэньне*** — пособствование, вспомоществование Тм. Трэба яму даць якое-небудзь падпамажэньне Тм.

**падпаможны*** — вспомагательный.

**падпаможная адказнасьць*** — вспомагательная ответственность.

**падрослы*** — достигший возраста (совершеннолетний — Я. С.) Нсл. 447. Падрослы дзяціна, яго жаніць пара Тм. Дзеці падрослыя маюць із тае сумы вырабляціся 453. Гэткае-ж значаньне мае **выраслы** (гл.).

**падсудак,** падсудзтва — гл. ля судовы.

**Пазываць, пазв-аць-аны, запазваць,-цца, прыпазваць; пазоў-ны ліст; пазоўнік (жалабнік) — старана жалаблівая (жалабная), пазваны (адпор) — старана пазваная (адпорная); весьці права, стаяць у праве.**

**пазываць*,**-аю 1, ск. пазваць*, пазаву-веш — пред'яв-лять, -ить иск, привле-кать,-чь к суду. **пазываны*** — 1) привлеканный к суду. — 2) привлекаемый к суду. **пазываньне*** — привлекание к суду. **пазваны*** — привлеченный к суду, ответчик. **пазваньне*** — привлечение к суду. Па той запаведзі старана жалабная маець старану сваю праціўную ку расправе а тую зямлю пазваці, а гдзе-бы зь якіх прыпалых праўных прычын у шасьці нядзелях па запаведзі пазваці ня мог, тагды яшчэ яму час пазываньня заставіці маець і чараз другую шэсьць нядзель 367. Таковы ўрад, ад укрыўджанага пазвом нашым перад урад пазваны, і з права вінным быўбы дазнаны, сам таковай-жа віне падлеч маець. **запазваць** — 1) пазваць (?). — 2) прыпазваць (?). **запазвацца*** — вступить в тяжбу. Два зь іх каторыя ўраднікі прамежку сябе запазваліся да таго-ж суду земскага 169. **прыпазваць*** — вызвать в соответчики. Старана жалаблівая маець іх прыпазваці 368. **прыпазваны*** — вызванный в соответчики Стт. **прыпазваньне*,**-я — вызов в соответчики. **пазоў*,** пазову — иск. Есьлі-бы старана пазваная, стаўшы на року, а паведзіла, што пазоў, каторым яго жалабнік пазваў, згубіла... 189. **пазоўны*** — исковый. **пазоўны ліст*** — исковое заявление. Пазоўны ліст прышоў із суду нашаму пану Нсл. 456. **наказ*,**-у (судовы) — повестка. Хто **пазывае,** робе **пазоў, пакладае** (падаець) **пазоўны ліст,** той **пазоўнік*,** ж. **пазоўніца*** — маск. истец, истица. Але, як ад **прадаваць** ё **прадаўнік** (м. продавщик), ад



**кіраваць — кіраўнік,** так ад **пазываць** можа быць **пазыўнік* ж. пазыўніца*** (націск на -ні-). **жалабнік,**-а ж. **жалабніца,**-ы — жалобщик, истец. Жалабнік а тую пераказу да права пазваці маець вонага 347. Жалабнік ужо тое йменьне адзяржаці маець 254. **жалаваць,**-лую 1, ск. абжалаваць каму каго — приносить жалобу на кого Стт. **адпор*,**-а — ответная сторона, ответчик. **старана*,**-ы — сторона. **пазваная старана*** — ответная сторона. **адпорная старана*** — ответная сторона. Гл. **існцец. пазоўная старана*** — исковая сторона. **жалаблівая, жалабная старана** — исковая сторона. Гдзебы ся то трапіла, іж-бы адпорная, то ёсьць пазваная, старана не прызнавала стараны жалабнае быці сынам тае асобы, па каторай жалабнік чаго іскаці будзець 253. Караці ня маем і ня будзем, ажбы перва на сойме ў суду яўным радам і паступкам права, калі жалабнік, то ёсьць повад, і адпор — абжалаваны ачавісьце стануць і будуць пакананы 66. Есьлі-бы каторая старана, яка адпорная — пазваная, так і жалабная на року, за позвы падкаморага прыпалам, ня стала, тагды падкаморы старане другой на вечнасьць прысудзіць маець 359. **старана балячая*** — исковая сторона. Старане балячай сорак коп грошай заплаціці 207. Гэты тэрмін сустрэўся ў Статуце адно колькі разоў. **старана адпору*** - адпорная старана — ответная сторона. **старана жалабы** - жалабная старана — истец. Суд, выслухаўшы жалаб або адпораў старон, скажаць каторай старане давод або адвод 257. Подле жалабы й адпору старон буду судзіці 164. **прававаціца*,**-вуюся 1 — вести с кем процесс, находиться в судебной тяжбе. Яшчэ ён хоча прававаціца! Ст. Яшчэ ён тут правуецца! Ст. Хто мае аруд жыта — будуйся, хто мае мех грошаў — правуйся. **Прык.** Ар. **весьці права*** — вести с кем процесс, находиться в судебной тяжбе. **вядучыя** із сабою (зь імі і пад.) **права*** — находящиеся в судебной тяжбе, тяжущиеся. Маюць апыт чыніці а захаваньню а паступках тых абедзвіх асобаў, права із сабою вядучых 441. Вядучы права а розьніцы граніччыя з адным, ня меў ад каго іншага із стараны пераказы ў том праве 346. **стаяць у праве*** — вести с кем процесс, находиться в судебной тяжбе. **стаячыя ў праве*** — находящиеся в судебной тяжбе, тяжущиеся, судящиеся. А пак лі бы два зь іх каторыя ўраднікі прамежку сябе запазваліся да таго-ж суду земскага, тагды трэці ўраднік, таварыш іх, із шляхтаю, будзець меці моц на месць воных двух ураднікаў, у праве із сабою стаячых, дзвюх асоб тым абычаям

ку рассуджэньню тых спраў абраці 169. Стараны, у праве із сабою стаячыя, ня маюць ку таму сьветчаньню спасабляці 441. Пр. цяперашняе **стаяць на судзе** — присутствовать при разборе судебного дела в качестве или обвиняемого, или свидетеля Шсл. За яго на судзе стаяў адвакат Ст.

**пазыка*,**-і — заём Шсл., ссуда. Ён вечна ходзе ў пазыку к людзём Ст. Другая пазыка — тая-ж страта. **Прык.** Нсл. 456. Пазыкі ходзяць у лыкі. **Прык.** Тм. Зьм. **пазычка*.** Тм.

**пазыўнік** — гл. ля пазываць.

**пазычаць*,**-аю 1, ск. пазычыць*,-чу 2 — 1) отдолж-ать,-ить Ар.; Шсл.; Нсл. 456.; Сялец Чаш. (Ксл.). Пазыч мне рублёў пяток Тм. Пазычалі ўжо Тм. Каб ня людзём пазычалі, дык сабе на доўга стала-б хлеба Ст. — 2) брать в долг Ар.; Шсл.; Нсл. Каб дзе пазычыць рубля грошай. Ст. — 3) пожелать Ар.; Нсл. 456. Пазычыць каму здароўя Тм. — 4) пожелать, посоветовать. Ня добра ты мне пазычыў; я паслухаў цябе і бяду лучыў Тм. **пазычаны*** (націск на -ча-) — не собственный, взятый в долг Нсл. 456. У мяне, гоcьцікі, хлеб пазычаны. — А нам не аддаваць. **Прысл.** Тм. **пазычаны*** (націск на -зы-) — взятый в долг Ар.; Нсл. 456. Пазычаны хлеб еж дый глядзі на яго. **Прысл.** Тм. **пазычоны*** — занятый, взятый в долг Шсл. На пазычоныя грошы справіў малатарню Ст. **пазычаньне*** (націск на -ча-) нв. — отдолжение Ар.; Нсл. 456. Пазычаньне на неадданьне. **Прык.** Тм. **пазычэньне*,** аднр. — отдолжение.

**пазычэньнік*,**-а, **пазычэньніца*,**-ы — кредитор,-ша, ссудодатель,-ница Ар.

**пазычны*** (націск на -ны) — отдаванный в долг или бывший в долгу Нсл. 456. Пазычны хлеб Тм. Пазычное жыта, ня вось чыста Тм. У яго ўсё пазычное, а свайго няма Тм.

**пазоў, пазоўнік, пазоўніца, пазоўны, пазоўны ліст** — гл. ля пазываць.

**пакараць** — гл. караць.

**пакладаць*,**-аю 1, ск. палажыць,-жу,-жыш — представ-лять,-ить. На том-жа іменьню позвы таковыя палажыці маець 226. **пакладаны** — представленный Нсл. 457. Пакладаныя ў судзе лісты затраціліся Тм. **пакладаньне,**-я — представление чего лично Нсл. 457. Пакладаньне жалабы Тм.

Заміж **пакладаць** стрэлася й **класьці:** Кладзен тот пазоў па аселага на бліжшам іменьню яго, а па неаселага пазоў такі выданы маець быці прыбіван у брам замковых і мескіх 74.

**палягчыць*,**-чу 2 — облегчить. Палягчыць воз Нсл. 460. **палёгка*,**-і — льгота; облегчение Сц. Не вялікая мне зь цябе палёгка Нсл.

**палічнік*,**-а (націск на -лі-) — полицейский Нсл. 461; Дз. Палічнікам гасподу казалі даць Тм.

**палічны*** — 1) полицейский. — 2) в знач. сущ. — полицейский служитель Нсл. 461. Палічнага прыслалі па цябе Тм. Палічнаму трэба даць гасьцінца Тм.

**палоненік*,**-а — пленник. Кажны палоненіку свайму нічога дастамэнтам запісаці ня можаць 342. Палоненікі ня могуць дастамэнтаў чыніці 338.

**палонены*** — взятый в плен. Яка чэлядзь палоненая маець быці выдавана 459. Чэлядзь палоненая, уцекшы ад княжат, прышлі 153.

**памачнік*,**-а, ж. **памачніца*,**-ы — помощник,-ница.

**палёгка** — гл. палягчыць.

**памярцьвіць*,**-лю,-віш — аннулировать Станґ: Полацкія пам., 143. Мы Палачане тот ліст запісны аддалі й памярцьвілі — Полацкі ліст 1478 (Тм). **памярцьвеньне*,**-я — аннулирование Ст. акты.

**панскі двор*** — имение.

**паправа*,**-ы — исправление Нсл. 472. Хлапец гэты бяз жаднай папраўы Тм. зьм. **папраўка,**-і — починка Тм. Тапор аддаюць у папраўку Тм.

**папраўляць*,**-яю 1, ск. паправіць*,-ўлю 2 — 1) исправл-ять,-ить Ар.; Шсл. Ніхто ня просе цябе папраўляць тут Ст. — 2) почин-ять,-ить Ар. **папраўлены*** — 1) исправленный Ар.; Шсл. Паслы Вялікага Княства Літоўскага падалі нам Статут папраўлены 7, перадмова. — 2) починенный Ар. Боты папраўлены, не павінны ціснуць ног Ст.

**парада*,**-ы (зьм. **парадка*, парадачка*)** — совет, совещание Ар.; Сураж (Ксл.). Ішоў дзяцюк к дзяўчыначцы, к сваёй на параду Тм. Пайду к добрым людзём на параду. Хто-ж мне дасьць, беднай, парадачку Ст. Ні радачкі, ні парадачкі Тм. Пайду я к татку на парадку Нсл. 473. Парадкі мне ніякай ня даў Тм. Без мае па-





© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2021

рады зрабіў ты гэта Нсл. 473. Зь ведамасьцю а парадаю старшых будзець мачы заставіці 311.

**паруха, парухлівы** — гл. рух.

**паруш-ацца,-ыць,-ыцца,-эньне,-оны** — гл. рушыць.

**паруч-ацца,-ыць,-эньне, паручнік** — гл. ручыць.

**пасага*,**-і — приданое Жойдзішкі Вял.

**паслуга,**-і — служение (і услуга — Я. С.) Нсл. 480. Ніякай паслугі ня знае; шклянкі вады падаць ня ўмее Тм. Семдзясят тысячай ангелаў стаяла ў том, паслугу чынілі Кіт. 124б.

**паступак*,**-пку — поведение. Маюць апыт чыніці ня толькі а самым тым учынку і а прычынах яго, але і захаваньню а паступках тых абодвых асоб, права із сабою вядучых 441.

**паступак права*, праўны паступак*** — 1) юридическое действие. Справядлівасьці неадвалочнае паступкам права даводзіці сабе маюць 91. Не на голую павесьць і абмову, але за агляданьням і справядлівым праўным паступкам 85. Караці ня будзем ажбы перва на сойме, у суду, яўным радам і паступкам права будуць пакананы 66.

**пасьветчаньне*** — удостоверение.

**па(ць)сьцівасьць, па(ць)сьцівы, па(ць)сьціўшы** — гл. ля **чэсьць.**

**паўнамачнік*,**-а, ж. **паўнамачніца*,**-ы — уполномоченный. Пр. памачнік.

**пачатак*,**-тку — 1) начало Ар.; Шсл.; Нсл. 489; Забор'е Сян. (Ксл.). Я прыйшоў на пачатак сходу Тм. Яшчэ на самы пачатак пасьпеў Ст. Ты зрабіў пачатак, а мы за табой Нсл. 489. Пачынай з пачатку Тм. — 2) веретено большего размера, на которое переводят пряжу с малого веретена, называемого ручайкою. Пачаткком это веретено называют потому, что находящаяся на нем нить служит как бы основою холста Тм. Дзесяць пачаткаў напрала Тм. — 3) инициатива. Тое забіўства ня ўмысьле, але за пачаткам вонага забітага і ў вабароне ўчыніў 406.

**пачатны*** — начальный. **спачатны*** — первоначальный, первичный Нк.

**пярэйма*,**-ы — 1) перехвачение, ловля на перерез. Бяжы барджэй на пярэйму коняй, у вавёс скачуць Нсл. 402. — 2) встреча (для приветствия — Я. С.) Тм. Усі на пярэйму нам із двара вышлі Тм.



**пярэймы,*** мн. л. — 1) перехваты, боли (напр. - Я. С.) при родах Нсл. 403. Ня борзда родзе, пярэймы ня часта бяруць Тм. — 2) переимка Тм. Паехаў у пярэймы ўцеклых Тм. — 3) предварительный выход на встречу, идущему с пути Тм. А зьвярнуўся сын Даніла дамоў, жана яго, Кацярына, на пярэймы выйшла Тм. **пераймаць*,** -аю 1, ск. пераняць,* перайму, пярэймеш — 1) перехватывать, ловить на перерез Ар; Падбярэзьзе Віц. (Ксл.); Шсл; Нсл 402. Бяжэма на вуліцу пераймаць авечкі Ст. На дарозе едучы або ў месьце том, на вуліцы пераняўшы раніў 244. Пераймай, пераймі, будзь ласкаў, каня Нсл. 402. — 2) встречать, итти на встречу (для приветствия — Я. С.) Тм. Выйшла маці іх пераймаці Тм. — 3) подражать, заимствовать Шсл. Нейдзе ўжо новую песьню пераняў Тм. Наш хлопчык, што не пачуе — усё пярэйме Воўсішча Сян. (Ксл.). **пераймальнасьць*,** -і — подражательность Акін. 193. **пераймакньне*,** -я — 1) перехвачение, поимка бежавшего Ар., Нсл. 402. Перайманьне ўцеклых Тм. Перайманьне коняй Тм. — 2) встречание (для приветствия — Я. С.) Тм. Выйдзі на перайманьне гасьцей Тм. **пераймаваць*,** -мую 1 — то же, что **пераймаць,** но со значением или обращенного на многих, или разновременного Нсл. 403. Пераймуй кажнага бяспрашпартнага Тм. Пераймуй коні, як будуць бегчы Тм. **праймо*,** -а — вознаграждение за найденную вещь или пойманное животное Ар; Пятніцкая Беш. (Ксл.); Ст. Ты знайшоў мой ножык, — аддай, дык дам перайма Тм. Хлопцам трэба даць перайма, што каня ўлавілі Тм. Дай перайма, дык аддам Нсл. 403. За коні перайма просяць Тм.

**пячатнік*** — чиновник, имеющий своей функцией приложение печати. Пячатнікі маюць рукі свае ў дастамэнту падпісаць 339. Пячатнікаў да запісу свайго ўпрасіці маець 315.

**пераймаць** і інш., **пераймальнасьць** — гл. ля пярэймы.

**пераказа*,** -ы — препятствие Нсл. 403. Вялікую пераказу мне ў гэтым зрабіў Тм. Ён мне на пераказе стаў Тм. А іж-бы хто, вядучы права а розьніцы гранічныя з адным, ня меў ад каго іншага із стараны пераказы ў том праве, старана жалабная маець і тых акалічных сусядоў на тот выезд лістом падкаморага абнесьці перад рокам 346. А хто станець сам на сваёй граніцы або чараз каго-колечы бараніці будзець гранічэньня, тагды падкаморы захаваць маець права ў належнага суду з тых, хто пераказу ўчы-

ніў граніцам, а далей едучы, гдзебы пераказа ня была, маець граніцы кончыці; а жалабнік а тую пераказу да права пазваці маець вонага, хто пераказіў, да суду належнага а шкоды, а суд адашлець на выезд падкаморага з тою асобаю, каторая перакажала таму, хто граніцы вёў 347.

**перакажаць*,** -аю 1, пераказіць*, -жу, -зіш. — препятствовать, воспрепятствовать. Пераказілі мне ў жаніцьбе Нсл. 403. Пр. **Казіць*,** -жу, -зіш — искажать, портить Нсл. 227. Ты толькі казіш тавар, а ня робіш Тм. **казеньне*** — искажение, порча Тм. Казіньне тавару добрага Тм. Нашто ты аддаў добрую рэч на казіньне дзяцём? Тм. Ск. **пераказіць*** — перепортить Нсл. 403. Усю работу маю пераказіў Тм.

**пераклад*,** -у — перевод.

**перакладаць*,** ск. перакласьці* — перев-одить, -ести.

**перакладнік*,** -а, ж. **перакладніца*, -ы** — переводч-ик, ица.

**перакрыш*,** -у Нсл. 404 = крыш.

**перасуд,** -у — гл. ля **суд.**

**пісарства*,** -а — должность писаря. На тыя ўрады, яка на судзтва й на пісарства ня маюць быці выбіраны духоўныя асобы 165.

**поблуд*,** -у — умопомрачение. Поблуд пайшоў на людзёў Ар.

**помач*,** -ы — помощь. **помач даваць*** — оказывать помощь. Урад ку пайманьню таковага помач даваці павінен 206.

**поўніць,** -ню 2 — исполнять Нсл. 427. Кажан павінен поўніць сваё дзела Тм. Ск. **выпаўніць** — исполнить Шсл. Выпаўніў усё, што загадалі Ст. **выпаўнены** — исполненный Нсл. 90. Воля твая выпаўнена Тм. **выпаўняць,** -яю 1 — исполнять. Есьлі-бы колька парсон адным лістом каму-колечы апісаліся, а па том-бы каторыя зь іх тот запіс узрушылі, а другія-бы яго подле абавязку свайго выпаўнялі 334. А гдзе-бы апісу свайму досыць чыніці не хацеў і ў чом зь яго выступіў або ня выпаўніў, тагды ў усё подле запісу свайго упадаець 326.

**прававаціца** — гл. ля **пазываць.**

**правамочны*** — вошедший в законную сілу.

**прадаўнік*,** -а, ж. **прадаўніца*,** -ы (націск на -ні.) продавщик, -ица Магілеўш.

**прасока*** — гл. ля сачыць.

**праўны паступак** — гл. паступак права.

**прашэньнік*,** -а ж. **прашэньніца*,** -ы — проситель, -ница Аш.



**прашпарт*,** -а — паспорт Аш.

**працавень*,** ўня — работник, труженник Смаргоні Аш. Адгэтуль **супрацавень*** — сотрудник.

**працаўлівы*** — трудолюбивый Кушляны Аш.

**праціўнасьць** — неисполнение предписаний власти. Таковы за тую праціўнасьць у савітую заруку ўпадаець 272.

**праціўнік, праціўны** — неисполняющий предписаний власти. Астачу маемасьці праціўнага да столу нашага гаспадарскага ўзяці маем, каторую ўжо тот існы таковы праціўнік вечне траціць павінен будзець 242. Такога, яка праціўніка справядлівасьці Божае, горлам яго караці кажам 273. **спраціўнік** — неисполнивший предписаний власти. А спраціўніку ўрад наш гаспадару азнайміці маець 274.

**прыбавак*,** -ўку — прибавление. Гдзе-бы каторая рака гранічная на чый бераг, пясок нязначне сыплючы, прыбавак чыніла, тот прыбавак маець быці таго пана, чый бераг ёсьць 364.

**прыбытак*,** -тку — прибыль.

**прыгаджаецца*,** ск. **прыгадзілася*,** безас. — случается, случилось Нсл. 499. Усякава прыгаджаецца з чалавекам. Прыг. Тм. Ня ўсякаму так прыгаджаецца Тм. Есьлі-бы ся прыгадзіла каму дастамэнт чыніці на вайне... 340. А есьлі-бы па том вонаму пану, у каго слуга ўцячэць, прыгадзілася яго відзеці на таргу... 462. **прыгадзіла*,** безас. — нечаянно принесло Нсл. 499. Калі цябе тут прыгадзіла? Тм.

**прыгода*,** -ы — 1) выгода, помощь Нсл. 499. Невялікая мне зь цябе прыгода Тм. — 2) нечаянное, неприятное происшествие, обстоятельство Тм., приключение. У прыгодзе памажы суседу Тм. Якая тут вам прыгода сталася, што вы сталі на дарозе? Тм. Зарзалі коні на броду, чулі яны на сябе прыгоду, што брат за сястрою гоніцца. **Зь песьні** Тм. З прыгоды судно ся разьбіла 373.

**прыгодне*** — случайно. Тыя рэчы прыгодне агнём пагарэлі 336. Лісты згінулі прыгодне 333.

**прызначальны ліст*** — назначение (бумага).

**прызначаць*,** -аю 1 — назначать, определять Бель Выс. (Ксл.). Ск. **прызначыць*,** -чу 2 — назначить, определить. **прызначаны*** — назначенный, определенный. Так яму прызначана Бель Выс. (Ксл.). **прызначаньне*** -я — назначение.

**прыказаць,** -жу, -жаш — передать во временное владение невольного человека.

**прыказны** — невольный человек, передаваемый во временное владение.

**прыказца,** -ы — передающий во временное владение невольного человека. Хто-бы каму прыказаў слугу, а тот слуга, шкоду ўчыніўшы таму пану свайму, уцёк ад яго проч, тагды тот, каторы яго прыказаў і за яго прырок, што яму маець верна служыці і шкоды ня ўчыніць, маець яго ку праву ставіці 462. А есьлі па том вонаму пану, у каго слуга ўцячэць, прыгадзілася яго відзеці на таргу, тагды ўжо вон сам ня маець яго імаці, ніжлі таго прыказцы свайго іскаці маець. Есьлі-ж бы тот пан, ад каго слуга ўцячэць, мінуўшы й апусьціўшы прыказцу, хацеў або пачаў сам таго слугу пасьцігаці, то яму вольна будзець, а прыказца ўжо волен будзець. А гдзе-бы хто меў слугу не прыказнога, а вон яму, шкоду ўчыніўшы, уцячэць проч, тагды, угоніць-лі яго пан у дарозе, маець яго судзіці 462.

**прыклеп*,** -у (націск на пры) і **прыклёп*,** -у — предлог. Новы Двор Ск., Дуброва Ск. Абы прыклёп быў Тм.

**прылічны — гл. ля ліцо.**

**прынука*,** -і — принуждение.

**прынучыць*,** -чу, -чыш — принудить Кіт.

**прыпаведацца** — гл. ля паведаць.

**прыпазваць** — гл. ля пазываць.

**прысабеч-ыць, -аны, -аньне** — гл. сабечыць.

**прысачыць, прысочаны** — гл. сачыць.

**прысяга*** — 1) присяга 353; Нсл. 513. Яму прысягі не далі Тм. Пад прысягаю пакажу Тм. — 2) клятва. Націск у **прысяга** заўсёды на **пры-.**

**прысягаць*** — присягать. **прысягацца*** — клясться Ад.

**прысуд, прысудзіць** і г. д. — гл. ля **суд.**

**прычына*,** -ы — 1) причина Ар. Таму чалавеку плач з тае прычыны Кіт. 131 б. — 2) ходатайство.

**прычыняцца*,** -яюся 1 — ходатайствовать.

**прычынца*,** -ы — ходатай.

Хто ў тое верыць, у вагні гарыць,розныя,розныя мукі відзець будзе;хіба прычына ўзноў ад цябе будзе, Спадар Бог ім ласку ўчыніць Кіт. 112б. То хрысьцянін а другі жыд прычыны жадаюць тваеі і рады 112а. І браце, саромяйся, не глядзі на прарока ты, то апошні, усіх нас надзея, Спадар Бог нам прычынцай яго даў; паважай яго, то будзеш мець прычыну; не, так застанешся ў пекле на векі Кіт. 127б. На судны дзень мае за мяне прычыняцца Кіт. 111б. Прыраўнуй — **учыняцца*,** — няюся 1. ск. **учыніцца*,** — нюся, — нішся — вступаться, брать на себя ходатайство за кого Нсл. 77. Ніхто ня ўчыняецца, ня хоча ўчыніцца за беднага сірату Тм.



**рабачай*,** -я, ж. **рабачайка*,** -і — труженн-ик, -ица Аш.; Вял.

**рад,** -у — образ действия, правила, устав. Караці ня маем, ажбы перва на Сойме ў суду, яўным радам і пастулкам права будуць пакананы 66. Харуства ў усіх землях Вялікага Княства такім радам і спосабам маюць быці захаваны, іж мы гаспадар харужых інакшых ня маем устанаўляці, толькі людзій зацных, годных, родзічаў собскіх таго гаспадарства 103. Слова **рад** даўней ужывалася замест пасьлейшага „статут", прыкладам захаваўся „рад" купецкае арганізацы ў Магілеве. Ад гэтага-ж слова даданьням прэфіксу **у** паўстала слова **ўрад,** ад каторага — **ураднік.** У Статуце 1588 г. толькі колькі разоў стрэлася слова **рад,** а звычайна ёсьцека яно пашыранае прэфіксам **па-** (по) — **парадак.** На яго йменьню парадкам статутовым адправена быці маець 76. Усі справы судовыя парадкам, у том Статуце новапапраўленым апісаным, адпраўаваці маюць 8. **парадак адпраўаваньня судоў** — процесуальный кодекс. Стт. Паслы Вялікага Княства Літоўскага падалі нам (гаспадару — Я. С.) ку пацьверджаньню Статут, то ёсьць парадак адпраўаваньня судоў 7 (передмова).

**рада*,** -ы — совет Ар.

**разгляд справы*** — рассмотрение дела.

**разьдзел*,** -у — глава (в книге) Стт. Пол. rozdział пазычана з крывіцкае мовы, за што ў XVI стг. наракаў П. Скарга.

**ранда, рандаваць, рандоўля** — гл. ля ляндарства.

**расказ*, росказ** -у — приказание Нсл. 566, приказ Дубнікі Сян. (Ксл.). І росказу іх ня слухалі Тм. Росказу твайго ня слухаю і слухаць не хачу Нсл. 566. Семсот тысяча ангелаў перад ім стаяць, усе яго расказу дзяржаць гатовы Кіт. 125а.

**расказаваць*,** -зую 1 ск. **расказаць*,** -жу 1 — 1) назначать, распределять Нсл. 566. Аканом расказаваў, расказаў нам на заўтра работу **Тм.** — 2) приказ -ывать, -ать Тм. Ня я вам расказую, а сам пан расказаў ехаць зараз, куды вас пасылаюць Тм. Ты мне не раскажаш Ар. Хто таковае мовеньне альбо пісаньне нам азнайміць, наймя ў пазьве пісаці раскажам 69. Раскажы, няхай прыйдзе, вып'ю Кіт. 114а. Потым мне варота паказаў (Спадар Бог расказаў)

— перада мною адчыніліся Кіт. 122а. Потым душы я бяру ў іх, Спадар Бог што раскажа, то ўчыню Кіт. 126а. **расказаны*** (націск на -за) — приказанный Нсл. 566. Расказанай работы ня робіш, а займаешся дрэняй Тм. **расказаньне*,** -я (націск на -за-) — приказание Нсл. 566. Панскае расказаньне Тм. Расказаньня твайго ня слухаю Тм. Расказаньне Божае мне: „Вось прыслаў табе іншае адзецьце" Кіт. 110а. Калі-б я пільне не глядзеў, то-бы расказаньне чыстага Бога зламаў Кіт. 125. Без расказаньня й ведамасьці яго сталася 91.

**расказьнік*,** -а — прикащик, укащик Нсл. 549. Ты нам не расказьнік, што застаўляеш нас рабіць тое, чаго сам ня хочаш рабіць Нсл. 566. Ты мне не расказнік, што хачу, то й раблю Нсл. 549. **расказьніца*** — прикащица Нсл. 566. Калі ты расказьніца такая, то пакажы сама, як гэта робяць Тм.

Зацемлю, што адным із значаньняў дзеяслова **казаць** ё „велеть" — **казаць,** -жу, -жаш — велеть Нсл. 227. Табе казалі, каб паждаў, а ты не паслухаў Тм.

**рассудак, рассудзіць, рассуджаць, рассуджэньне** — гл. ля суд.

**раськідаць*,** аю 1 — 1) разбрасывать. — 2) расточать Ар.

**раськідон*,** -а, ж. **раськідонка*,** -і — мот, -овка, расточитель, -ница Ар.

**раськідонства*,** -а — расточительство, мотовство Ар.

**рыштаваць*,** тую 1, ск. арыштаваць* — арестовывать, арестовать Ар. **арыштаваны*** — арестованный Ар.

**рыштант*,** -а — арестант Ар.

**рыштанцкі*** — арестантский Ар.

**родзіч*,** -а — земляк, соплеменник. Харужых інакшых ня маем устанаўляці, толькі людзій зацных, годных, родзічаў собскіх таго гаспадарства 103. Таковы ўрад у том вайводзтве й павеце аселаму, родзічу Вялікага Княства даваці маем 262. То ўсе мы й патомкі нашы Вялікія Князі Літоўскія даваці будзем павіньні толька Літве, Русі, Жамойці, родзічам старажытным і ураджэнцам Вялікага Княства Літоўскага і іных земль, таму Вялікаму Княству належачых 129.

**рок*,** -у — срок Стт. А есьлі хвароба прыпадзець блізка перад рокам выезду падкаморага, тагды і на самам року можаць такое адрочаньне іці, а падкаморы рок на іншы час пералажыці маець 349.

**рок завіты** — специальный срок рассмотрения судебных дел в предусмотренных Статутом вопросах. Моц рокаў завітых у суду земскага такую хочам меці, іж кажнага стану чалавек, будучы пазваны на рок завіты, ня можаць ся на року завітам большымі справамі ў іншых павецех і некаторымі інымі прычынамі вымаўляці 218. Вольна будзець учасьнікаў сваіх да суду земскага на рок завіты пазваці 364.

**рокі*,** -аў — сесия. Даём моц судзьдзі й падсудку на рокі зложоныя судовыя запазваных перад іх судзіці 166.

**рух*** — движение Нсл. 569. Ён заўсёды бывае ў руху Тм. Адзін чалавек колькі нарабіў руху ўсім Тм. **паруха*,** -і — беспокойство. Я табе парухі ніякае не зраблю; раненька ўстану і пайду сабе Нсл. 476. **парухлівы*** (націск на -рух-) — скорый на под'ем Нсл. 476. Парухлівы хлапец Тм.

**рушыць*,** -шу 2 — нарушать. Упорны, каторы суд рушыў, мaець віны тым ураднікам судовым заплаціці 215. — 2) беспокоить. Ск. **парушыць*,** нв. **парушаць*,** — побеспокоить, обеспокаивать Нсл. 476. На якое дзела ты яго парушаеш, парушыў? Тм. Выбач, што я цябе парушаю, парушыў зь месца Тм. **рушыцца*,** -шуся 2, ск. **парушыцца*,** зв. — беспокоиться, обеспокоиться, взволноваться. Ня рушся гэтым, мала што бывае Нсл. 569. Парушыўся дужа, пачуўшы гэта ліха Тм. Дарма парушыўся, можа й няпраўду сказалі Нсл. 476. **парушацца*,** -аюся 1, нв. Не парушайся дарма Тм. **парушоны*** — взволнованный Тм. З парушоным сэрцам гаварыў Тм. **парушэньне*,** -я — 1) душевная тревога (волнение — Я. С.) Тм. Без парушэньня ня можна слухаць Тм. — 2) женская болезнь, происходящая от нахождения матки не на месте Тм.; Ар. жонка хварэе на парушэньне Нсл. 476. **узрушаць*, узрушыць*** — 1) наруш-ать, -ить Нсл. 55. Забіў і тым пакой паспаліты ўзрушыў 386. Пакаяньне свае ўзрушыў Кіт. 65а. Майстат наш абражан бываець з тае прычыны: калі-бы ся хто бунтаваў, пакой паспаліты ўзрушаючы проціў нас гаспадара 66. Узрушаць спакой Нсл. 55. **узрушаны*** Нсл. 55 — а) взрытый. Зямля ўзрушаная тут Тм. — б) нарушенный. **узрушэньне*** -я, аднр Нсл. 55 — нарушение. **узрушаньне*,** -я нв. — нарушение. Ведзь-жа будуць лі на лісьцех дзельчых паложаны якія абавязкі, зарукі а няўзрушаньню таго дзелу, тагды тыя зарукі кажны подле свайго абавязку з рассудку праўнага заплаціці вінен будзець 370. **узрушыцель*,** -я, ж. **узрушыцелка*,** -і — нарушитель-ница. Проціў узрушыцеля пакою паспалітага паўстаўшы, проціў таковаму помач чыніці вольна будзець 243. Узрушыцелі права паспалітага горлам карані быці маюць 205. 2) **узру-**

 

**шаць*,** ск. узрушыць* — а) возбуждать. Пераз злосьць сваю іншым людзём гнеў Божы ўзрушае Кіт. 48б. — б) возму-щать, -тить; волновать, взволновать. Узрушыў мае сэрца Нсл. 55. Усю кроў ува мне ўзрушыла Тм. **узрушоны*** — возмущенный, взволнованный. Сэрца маё узрушонае Тм. **узрушэньне*,** -я — душевная тревога (возмущение, волнение — Я. С.) Нсл. 55. Ад узрушэньня захварэў Тм. зв. **узрушыцца*, узрушацца*** — а) возму-титься, -щаться (і взволноваться, волноваться — Я. С.) Нсл. 55. Ня ўзрушайся гэтаю весьцю, можа й няпраўда Тм. Узрушыўся дарма Тм. Дарма ўзрушыўся на мяне Тм. б) подняться, восстать. Урад ураду ку пайманьню таковага сказанага помач даваці павінен, але ўрад меські і места, у каторым ся то дзеяці будзець, проціў такому непаслушному або праціўнаму ўзрушыціся маюць, яка-бы таковы свавольнік пайман і да вязеньня дан і подле сказьні ўрадовае каран быў 206. **непарушны*** — ненарушимый. Непарушнае слова Нсл. 335. Непарушная ўмова Тм. **непарушна*,** прс. — ненарушимо Тм. Бацькава расказаньне непарушна дзяржы Тм. Павінні права, вольнасьці й свабоды іх цэла й непарушна дзяржаці 7.

**рукаемства, рукоймі, ручыць, паруч-аць, -ацца, -ыць, паручэньне, паручнік; зарука, заручны ліст, заклад, -нік.**

**рукаемства*,** -а — порука. Каго-бы ўрад на горла сказаў, маець па сабе пэўнае рукаемства даці людзьмі аселымі, што ся ку расправе перад Судом Галоўным станавіці будзець 443. Таковага вязьня ўрад наш ня маець на рукаемства без дазваленьня стараны тае, каторая яго асадзіць, даваці і зь вязеньня выпушчаць 434. У вязеньню патуль маець сядзеці, пакуль рукаемства на том дасьць, іж старане сваёй за ўсё досыць учыніць, а ня будзець лі меці рукаемства, тагды ўрад старане повадавай віннага выдаваці маець 248.

**рукоймі,** -і — взятый на поруку. А ведзь-жа каму быхма хацелі таковага лісту зялезнага ўзычаці, тагды з канцлярыі нашае тот маець быці адаслан да ўраду нашага належачага, адкуль ёсьць; перад каторым урадам, хто таковага лісту зялезнага патрабуець, маець рукаемства паставіці, людзей аселых, і уісьціціся імі і іх маемасьцьмі, іж ня зьнікнець у тых лецех, яка на лісьце яму назначана. А на апошні дзень высьця року будуць павіньні рукоймі вонага на том-жа ўрадзе паставіці, а даўжнікі даўгоў і вонага ісца ў таго ўраду ўпамінаціся, найдаваці й даходзіці будуць; а есьлі-бы рукоймі не паставілі, тагды самі за лісты або



за даводам праўным тыя даўгі павінні будуць плаціці. Ведзьжа, гдзе-бы ў том часе, на лісьце замераным, тот чалавек доўжны ўмер, тагды паручнікі ў той рэчы вольні будуць 93.

**ручыць,** -чу, ск. паручыць **па кім, чым** — 1) ручаться, поручиться за кого, что. Маець быці дан за добрае рукаемства людзём добрым, а тыя альбо тот паручнік маець па том ручыці, што воны жалабнік ад таго, хто адпаведаў, здароўя свайго бясьпечан будзець 424. Укрыўджаны таго на паручніку, а паручнік на том, па ком ручыў, праўне даходзіці маець 379. — 2) **каму** — поручить кому. **паручэньне*** — поручение. **з паручэньня*, за паручэньням*** — по поручению. Есьлі-бы хто хацеў чараз каго іногa пенязі тыя браці, тагды іначай ня можаць браці, толька чараз таковага слугу свайго, каму-бы асабліваю на то моц і паручэньне лістом сваім даў 242. Паручыў каму другому мовіці 238. Хто на тот час у дому яго з паручэньня яго старшым будзець, маець на том прысягнуці 436. Урады нашы судовыя, за паручэньням нашым месца нашае гаспадарскае засядаюць 76. **паручацца*** — поручать себя. З тым ся ласцы й міласьці Вашых Міласьцяй паручаю 7. **паручнік*,** -а — поручитель Нсл. 476. Паручніка за сябе пастаў Тм. **паручніца*,** -ы — поручительница. **зарука*,** -і — 1) денежный штраф, указанный в постановлениях суда для случаев их нарушения. — 2) гарантия. **заручны ліст*** — документ о „заруке". **заклад**-у — зарука ў першым значаньню. Будуць лі на лісьцех дзельчых паложаны якія абавязкі, зарукі а няўзрушаньню таго дзелу, тагды такія зарукі кажны подле свайго абавязку з рассудку праўнага заплаціці вінен будзець 370. Хто-бы на ком што правам прэзыскаў, то ёсьць іменьне, людзі або землі, тагды маець у то яму увязаньне з права дано быці, а з ураду зарука маець быці паложана, абы тот, хто на праве ўпусьціў, увязаньня не бараніў; а пак лі бы увязаньня не дапусьціў, тагды ў том за позвы правам перакананы, тую заруку, з ураду палажоную, маець плаціці старане жалаблівай 255. У том лісьце запаведнам, напісаўшы тую зямлю, гдзе збожжа засеяна, маець быці даложана пад закладам на ўрад і старану дванаццацьма рублямі грошай, абы тот, хто сеяў, таго збожжа ня звозіў 366. За галаўшчыну й шкоды такога вознага або стараны забітае ўрад савітае сказаньне й увязаньне ў іменьне такога непаслушнога даці маець, палажыўшы на лісьце ўвяжчам яшчэ так вялікі заклад, яка самае рэчы скажаць 179. Маем даваці а бясьпечнасьць здароўя падданым нашым, за пахвалкамі чыймі колечы проці іх, на кажнага,



 

з канцлярыі нашае лісты заручныя і закладу на іх казаці апісаваці межы шляхтаю — з абу старон маець быці заклад або зарука пакладана. А тая зарука пакладана быці маець у лісьцех заручных а бясьпечнасьць здароўя самых асоб. А хто-бы абнесен будучы ўрадоўне лістом нашым або ўраду нашага заручным, а чараз тот заклад наш каго забіў, тагды горлам маець быці каран бязь міласэрдзя. А тае зарукі, на лісьце апісанае, палавіца на нас гаспадара, да скарбу земскага Вялікага Княства Літоўскага, а другая палавіца на дзеці, патомкі або блізкія забітага і на йменьню праціўніка адпраўлена быці маець. А хаця-бы хто і не забіў, але раніў або бой чараз заруку ўчыніў, тот так жа ў заруку упадаваець. А есьлі-бы тот, каторы заруку вынес, забойства або зраненьне вонаму, на каго заруку ўзяў, учыніў, тот сам таковаю-ж віною маець быці каран 90.

Прыраўнуй цяперака: **зарука,** -і — ручательство (гарантия, жиро? — Я. С.) Нсл. 183. Даць грошаў пад заруку Тм. **заклад*,** -у — 1) залог Шсл. На заклад купіў мукі Ст. Кажух аддаў у заклад Тм.—2) пари Ар.; Шсл. Маргрынкава Куз. (Ксл.). Ну, пойдзем у заклад, што мая праўда Тм. Што дасі ў заклад, калі я ня так кажу? Ст. **закладаць*,** -аю 1 — 1) закладывать Вяц., Тмб. (Даль); Харавічы Сьміл. (Шсл.). — 2) залагать Нсл. 170. Закласьці двор у скарб Тм. Узаем. **закладацца*,** -аюся 1, ск. закласьціся*, -дуся 1 — итти в пари. Не закладайся, праграеш Нсл. 170. Закладземся аб рубля Тм. **закладзены*** — данный в залог Нсл. 170. **закладнік*,** -а — залогодатель Нсл. 170. Закладнік і закладу адрокся Тм.

**сабечыць*,** -чу 2, ск. **прысабечыць*** — 1) приобретать в собственность Нсл. 598. Кажны сабе сабечыць лішнюю капейку, а мы ніколі нічога не прысабечым, калі так расходава будзем жыць Тм. — 2) присваивать себе. Тм. Мае рукавіцы ўзяў ды сабечыць, прысабечыў Тм. прысабечаны* — 1) приобретенный в собственность. — 2) присвоенный. **прысабечаньне***-я — 1) приобретение в собственность. — 2) присвоение.

**самадыя***-і (націск на -ды-) — произвол Ар.

**самадыйнік*,** -а, ж. **самадыйніца*,** -ы — поступающ-ий, -ая по произволу, самовольно Ар.

**самадумам*, сваім адумам*** (націск на -ду) — самовольно Ар.

**сачыць*,** -чу, сочыш, ск. асачыць* — следить, выследить Ар. Асачыў гняздо вароны. Ар. Сачыць, асачыць курыцу, дзе яна нясецца Нсл. 602. **прысачыць*** — выследить Красьніна Чаш. (Ксл.). Прысачыў ваўкі, надабе наказаць у Фатынь, каб аблаву ўладзіць Тм. Прысачыць курыцу Нсл. 511. Я цябе прысачу, куды ты бегаеш Тм. **прысочаны*** — выслеженный. Курыца прысочана Нсл. 511. А есьлі... ліцо ў дому найдзена альбо сьледам прысочана, а то маець быці суджана подле Статуту 499. Значыцца, **прысачыць** мае тое самае значаньне, што **асачыць,** але калі асачэньне робіцца зь меншым стараньням, ня так грунтоўна. Пр. **зачыніць, накрыць, закрыць і прычыніць, прыкрыць. усачыць*,** нв. усочаваць* — выследить, выслеживать. Усочавай, усачы, куды курыца ходзе несьціся Нсл. 666. **усочаны*** — выслеженный. Курыца ўсочаная на яйцах Тм. **сачэньне*,** -я — слежка. **асачэньне*** — открытие слежкою. Абяцуем словам нашым гаспадарскім, іж на жаднага чалавека выданьне або асачэньне яўнае, таемнае падазрэньне... вініці й караці ня маем 66. **абсочны сабака*** — который „сочыць" — выслеживает, ищейка. За пса абсочнага — тры рублі грошай 474. **абусока*,** -і — окружение после выслеживания Хабаты Куз. (Ксл.). На ваўкі абусоку зрабілі добра Тм. **прасока*,** -і — следствие. Хто-бы каму ў дому альбо ў лесе на дзераве з вульля або з караніка паставенага пчолы выбраў або з вульлём узяў, а дашлі-бы яго капою альбо якою прасокаю, тагды маець заплаціці тры рублі грошай 383. Слова „прасока" ў гэтым-жа значаньню ўжывае таксама Марцінкевіч у камэдыі „Пінская шляхта". **сок*,** -а — сыщик; следователь. У выбражаньню майстату нашага ня леда за асачэньням або абмовеньням маемся на падданых нашых сквапяці, але хто на каго абражэньне майстату вядзець маець давесьці сяма сьветкамі, і то пры праўных даводзех і яўных а пэўных знакох таго таковага ўчынку. А есьлі-бы хто каго абмовіў у том учынку, а злашча, гдзе-б яго мяніў, што нам гаспадару на здароўе стаяў або Рэч Паспалітую зрадзіці і ку упадку прывесьці хацеў а на то ся гатаваў, а таковы павядач і сок есьлі-бы такім яўным сьветчаньням не давёў, сам адсуджэньням пасьцівасьці і горлам маець быці каран 69.

**ся*** — ша. Ар.

### сябра й учасьнік.

**сябра*,** -ы, м. — имеющий что-либо общее — материальное или общую идею с другим или с другими, следовательно коллега, член, соучастник Ар. Пятрок быў мой сябра, зь ім мы доўга дружылі Рыбчына Сір. (Ксл.). Яны сябры між сабою. Нсл. 631. Прышоўся із сябрамі сваймі Тм. Кольканаццаць учасьнікаў або сяброў у вадной рэчы адцягалася 171. Як брацыцю нядзельную або

ўчасьнікаў, то ёсьць сяброў пазываці 247. **сябрыня*,** -і (націск на -ы-) — женщина „сябра" Сц. **сяброўка*,** -і — женщина „сябра" Пархв.

**сябраваць*,** -рую — быть „сябрам" Ар. Калісь мы зь ім сябравалі Рыбчына Сір. (Ксл.).

**сябраны*** (націск на -ны) — принадлежащий двум, нескольким или многим „сябром", кооперативный, артельный. Колька брацьці або ўчасьнікаў дзяржалі адно йменьне сябранае 247.

**сябрыха*,** -і — общественное недвижимое имущество (поле, луг, лес) Ар. Калі будзем сябрыху касіць? Тм.

**сябрына*,** -ы (націск на канцу) — артель, кооператив.

**сяброўства*,** -а — состояние „сябрам". У старыну мы вадзілі сяброўства Рыбчына Сір. (Ксл.).

**сябрук*,** -а — сотоварищ, соучастник в деле или работе Нсл. 631. Зыбраліся сябрукі Тм.

Блізкое значаньням да „сябра" ё слова „учасьнік". Часта ўчасьнік ён-жа й сябра. Але не заўсёды. Гэтак, можна быць **учасьнікам, учасьніцаю** зборкі, зьезду, чэсьці, ігрышча, нападу, але **сябрам, сяброўкаю** іх ня будзеш. З другога боку, вучаньнікі тае самае школы сяброве міжсобку, таксама вучыцялі міжсобку, але яны ня ўчасьнікі. **учасьнік*,** -а, ж. **учасьніца*,** -ы — участ-ник, -ница, совладел-ец, -ица. Прыклады пад „сябра".

Слова „ўчасьнік" пэўнае крывіцкае, але сумлеўнае „ўдзельнік" і твораныя ад яго, ужываныя ад нядаўна ў друку заміж „учасьнік" і аднакарэнных ізь ім. У кажным прыпадку слова „удзельнік" патрабуе пацьвярдзеньня яго прыкладамі із сучаснай мовы народнай або із старой — літаратурнай або народнай.

**сваволенства,** -а — своеволие. Паўсьцягаючы мы гаспадар сваволенства... уставуем: 445. Сам сваволенства ўжываючы... вуха ўцяў або урэзаў 409. За віну такога сваволенства будзець вінен за кажны чլонак па пяцьдзесяці коп грошай плаціці Тм.

**схаваньне*, захаваньне*** — поклажа, хранение.

**схаваць*** — сохранить. А рэчах зьгінулых у чыём схаваньню 336. Хацеў рэчы рухомыя ў захаваньне даці Тм. Злажыў у якöм схаваньню рэчы сваі Тм. Толька таго рэчы, хто даў схаваці, згарэлі Тм. А пак лі бы ў чыём схаваньню таковыя рэчы ўзяты былі ад каго гвалтам, тагды на абжалаванам тот, у чыём схаваньню было, даходзіці іх маець Тм.

**с'ем,** сойму — сейм. Калі хто для спраў сваіх судовых, на с'ем прыпадаючых, альбо ў пасолсьцьве будучы адправеным, на с'ем паедзець, ведзьжа тае бытнасьці сваяе на сойме маець пасьветчаньне паказаці 351



**селавая грумада*** — сельское общество.

**сыньні*** — сыновний Аш. 302.

**сырызна,** -ы — сырье Ар.

**скарб*,** -у — 1) государственная казна Ар.; Нсл. 581. Скарб багаты, багатшы за нас Тм. Тае зарукі палавіца нам да скарбу земскага 90. — 2) клад Ар.; Летцы Куз. (Ксл.). Івановы скарб у валатоўцы знайшлі. Тм. Калі-б лучыла каму знайсьці ў зямлі які скарб, грошы, золата, тагды маець таму скарб быці 373. — 3) денежная сумка или имущество какого либо общественного заведения Нсл. 581. Скарб царкоўны, шпітальны Тм. — 4) имущество, пожитки частного лица Тм.; Іванова Куз. (Ксл.) Ён забраў свой скарб і пацёгся Тм. Скарб панскі Нсл. 581. Гэтыя багатыры, каторыя давалі скарб на інтэрас Кіт. 130 а. — 5) сокровище Гсл.

**скарбнік*,** -а, ж. **скарбніца*,** -ы — казначэй. **падскарбі,** -яга — носитель должности центрального финансового управления.

**скарбніца*,** -ы — кладовая, хранилище денег и драгоценностей Нсл. 581. У яго скарбніца поўная ўсякага дабра Тм.

**скарбовы*** — казенный Ар.; Нсл. 521. Стаішча Чаш. (Ксл.). Ля скарбовага жыта коні ходзяць Тм. Статак пасуць на скарбовым Ст. — 2) финансовый Гсл.

**скарбонка*,** -і — 1) ящичек (кружка — Я. С.), с которым староста церковный ходит во время Богослужения для испрошения подаяния в церковный доход Нсл. 581. Укінь шага ў скарбонку Тм. — 2) ящик, прибитый у дверей церковных для подаяния на богоугодные дела Тм. Скарбонка для бедных Тм. — 3) вообще ящичек, кружка для сбора пожертвований, напр. во время уличного сбора. Зьм. **скарбоначка*** — копилка.

**скарбонкавы*** — кружечный (напр. сбор пожертвований).

**скарбёнка*,** -і = скарбонка Шсл. У гэту нядзелю хадзілі па Сьмілавічах із скарбёнкамі — зьбіралі грошы на бедныя дзеці Ст.

**скарысьціць,** -шчу, -сьціш — использовать. Маець на том прысягнуці, іж воных рэчаў не скарысьціў 336. Слова стрэлася ў Статуце толькі раз.

**скрыўдзіць** — гл. крыўдзіць.

**слова ад слова*** — слово в слово. Слова ад слова да кніг упісаці маець 282. Тот артыкул слова ад слова ёсьць упісан 160.

**снадзіва***, -а (націск на сна-) — инструмент (кроме музыкального) Фрсл.

**снадзь***, -і = снадзіва Фрсл.

**собскасьць***, -і — собственность.

**собскі** — собственный Дз.; Бр.; Вал.; Мал.; Магілеўш.; РСБ.

**собсьнік*** -а, ж. **собсьніца***, -ы — собственн-ик, -ица

**сойм***, -у — сейм.

**Сойм Вялікі*** — государственный сейм, сейм со всего государства. Будзем павінні кажнаму з падданых нашых, каму-бы шло а чэсьць, неадвалочную справядлівасьць учыніці на першым Сойме Вялікам без усякае адвалокі 93.

**сок** — гл. ля сачыць

**спаважнасьць***, -і — серьёзность.

**спаважны*** — серьёзный, **спаважна*** — серьёзно.

**спаган-яць, -яньне, спагн-аць, -аньне, спагон, -ьнік, -ьніца** — гл. ля зыскуючы.

**спадак***, -дку — наследство.

**спадаць***, ск. **спасьці***, -ду, -дзеш на каго, па кім — достаться, переходить по наследству Нсл. **спалы*** — доставшийся, полученный в наследство. На каго-бы маемасьць ляжачая або рухомая спала, павіньні будуць, есьлі а суму пенязяй пазычаную пазавуць, заплаціці 329. Жана мела йменьне спадкавае Тм. Есьлі-бы ацец або матка адумерлі права на які спадак, каторы-бы ім па яком блізкам прыналежаў, тагды дзеці дашэдшы таго спадку правам, па ім спалам, павінны зь яго даўгі айцоўскія й матчыны плаціці Тм. Тое йменьне на дзеці яе спадзець 288. Двор братні спалы на дзеці нашага пана Нсл. Пану двор спадае, спаў Тм.

**спадкавы*** — наследственный.

**спадкаемства***, -а — наследование.

**спадкаемца***, суп. — получающий или имеющий право на наследство, наслед-ник, -ница. Слова створана подле **душаемца** „То ест душаемца Езраіл". Кіт. 125 а. Азраілам мусульмане завуць ангела сьмерці, таго, што бярэць душу, адгэтуль пакрывіцку душаемца.

**спадчыннасьць***, -і — наследственность Акін. 194; Гар-Байкссл.

**спадар***, -а — господин. Служыць сваім спадаром ку кажнай патрэбе 14.

**спадарыня*** — госпожа.

**спадарычна*** — барышня.



**спадарства*, -а** — господа, мужчины и женщины вместе.

**спадчына,** -ы = **спадак** Мн., Сц. (Ад.).

**спачатны*** — гл. пачатны.

**спэктар***, -а, ж. **спэктарка*, -і** — инспектор, -ша Аш.

**стаяць, стаячыя у праве*** — гл. ля пазываць.

**станавіціся***, -ўлюся, -вішся, ск. стаць, стану, -неш — являться, явиться.

**станьне*, -я** — явка. **нястаньне*** — неявка. **нястаннае***, -ага — штраф за неявку. Кажны павінен перад ім (судом земскім) станавіціся; і а том, хто-бы перад ім ня стаў, або, стаўшы, з права перад выракам проч зышоў 166. Старана пазваная сама павінна ў суду станавіціся 202. Старана пазваная, стаўшы на року, паведзіла, што пазоў згубіла 189. Для вонага нястаньня свайго на рочках першых маець на другіх рочках, бяз жадных даводаў, рэч траціці 197. Хто-бы на першых роках земскіх ня стаў, а нікаторае прычыны слушнае нястаньня свайго ў суду не апаведаў, таковы маець старане заплаціці нястанага чатыры капы грошай 190.

**стануць***, -ну, -неш — потонуть ШСЛ. Няхай яно стане такое жыцьцё! Ст. **станулы*** — потонувший. Тавар станулы купец маець дабравольне з вады выбіраць 373.

**старавечны*** — древний Нсл. 613. Старавечны звычай Тм. Старавечныя людзі, кажуць, жылі доўга Тм. На старавечныя гэрбы Сапегі эпіграма.

**старожа***, -ы — 1) стража Нсл. 616. Старожаў паставіць к некрутам Тм. На старожу пайшоў Тм. Ад усякае старожы выняты суць 141. Маюць тыя турмы за пэўнаю старожаю 415. — 2) сторожевая застава.

**старана***, -ы — в знач. глагола, быть в стороне или быть устраняему Нсл. 616. Ты тут старана, табе няма дзела да нас Тм.

**старана адпору** (адпорная, пазваная) і **жалабы** (пазоўная, жалаблівая, жалабная, балячая) — **гл. ля пазоў.**

**староньні*** — посторонний Гсл. Маець паставіць дзевяць сьветак, людзей добрых, веры годных, а не падданых таго ўраду, прысуду свайго, але іншых, староньніх 362.

**староньнік*** — то же, что противник, но в меньшей степени Ар. Я не староньнік гэтае ўлады Ар. (значыць: я яе не старанюся).

**статут*** — 1) уложение (кодекс). — 2) устав.

**струмэнт***, -а — инструмент (музыкальный).

 

**суд***, -у — суд.

**судовы*** — судебный Стт.

**судзтва***, -а — должность судьи. **падсудзтва** — должность „падсудка" — младшего члена суда. На тыя ўрады, яка на судзтва, на падсудзтва, ня маюць быці выбіраны духоўныя асобы 165.

**судзьдзя***, -і — старший член суда. **падсудак**, -дка — младший член суда. рассуджаць*, -аю 1 што — разрешать (решать), судить, ск. **рассудзіць***, — -джу, -дзіш — вынести решение. **рассуджэньне***, -я — вынесение решения. **рассудак***, -дку — решение. Кашталянове, маршалкове або старастове віньні будуць справядліва такія рэчы рассуджаваці 352. Падкаморы маець рассуджаці й гранічыці 347. Урад наш у той рэчы прамежку іх рассудзіці і віннага подле права караці маець 477. Таварыш іх із шляхтаю будзець меці моц дзьвюх асоб тым абычаям ку рассуджэньню тых спраў абраці 169. На сойме з рассудку нашага, гдзе ся то пакажаць, чэсьць і горла траціць 80. Да выеханьня й рассудку камісарскага прысяга старане маець быці задзержана 353. Такія зарукі кажны подле свайго абавязку з рассудку праўнага заплаціці вінен будзець 370. Таковы з права і рассудку нашага чэсьць і горла траціць 67. Рассудку яго кажны трымае Кіт. 107 б. **адсудзіць* ад каго** — вынести решение не в пользу чью-либо. **адсуджаны*** — получивший решение не в свою пользу. Тую апеку ад таковага апякуна адсудзіўшы, каму іному паручыці 305. Чсьці адсуджаныя ня могуць дастамэнту чыніці 338. **прысудзіць*** каму што — вынести решение в пользу кого-либо. **прысуджаны*** — решенный (определенный) судом в пользу кого-либо. **прысуджэньне*** — вынесение решения в пользу кого-либо. Што каму на іспашы прысудзяць шкоды, тот пан, чые быдла занята, маець плаціці 467. Тое йменьне таму, хто ішчаць, прысуджана быці маець 333. Грунтоў на ўвязаньне за суму прысуджаную не ставала 276. Па прысуджэньню на том іменьню якое сумы пеняжнае ўвязаньня вознаму бараніў 274.

Ці суд прысудзіў што каму, ці адсудзіў што ад каго, ён рассуджаў, а рассудзіўшы маў **рассудак** — „решение". Цікава, што „рассудак" ужываецца і ў „Аль кітабе", пісаным народнай моваю XVI ст., знач. гэтае слова ўжывалася і ў мове народнай Пр. **вырок. перасуд***, -у — плата за судебное производство. Калі суд земскі каму што на ком прысудзіць, тагды ад прэзыску таго, хто зышчаць, маюць сабе браці за працу сваю перасуду ад капы



літоўскае па два грашы літоўскіх 170. Ён суды судзе, перасуды бярэць. З народн. песьні (Ад.) **прысуд***, -у — юрисдикция. А будзець лі абвінен у такіх рэчах крывавых наш падданы іншага прысуду, а не таго, дзе торг будзець... весьці яго да таго ўрадніка нашага, у чым прысудзе есьць 482.

**сумежнік***, -а — имеющий с другим что-нибудь „сумежнае" — смежное, нпр. поле, луг и пр. Можаць абмова процiў року йці сумежнікам тым 351.

**сумежны*** — смежный Гсл.; Нсл. 622. Нашы землі сумежныя Тм. Абасланьне сусядоў гранічных і сумежных ку выеханьню на грунт 346. **сумежна***, прс. — смежно Нсл.

**сумесны*** — принадлежащий нескольким, нераздельный Нсл. 622, совместный. Сумесны наш двор Тм. Сумесная работа Тм. У нас із табою ўсё сумеснае Тм. Мелі йменьне сумеснае — неразьдзельнае 370. **сумесна***, прс. — совместно, вместе Нсл.; Навікі Віц. (Ксл.). Сумесна пахалі, сумесна жылі Тм. Сумесна весялей рабіць Нсл. 622.

**сумесьнік***, -а, ж. **сумесьніца***, -ы — совмест-ник, -ница, соучаст-ник, -ница Нсл. 622; Амілянова Лёз. (Ксл.). Я з адным сумесьнікам зраблю вам пуню Тм. Ты сумесьнікам яго быў Нсл. 622. І ты лучыла тут у сумесьніцы! Тм.

**сумлявацца***, -аюся 1 — сомневаться Віл.; Сьліжыкі Куз. (Ксл.). Я сумляваюся ў тым, што ты кажаш Тм.

**сумляцца***, -яюся 1, ск. **суміцца*** (націск на мі-), -млюся, -мішся — сомневаться, усомниться Нсл. 622. Ня сумляйся ні ў чым; чаго ты суміўся? Тм.

**сумленны*** — 1) совестливый Сукрэмна Сян. (Ксл.). Сумленны чалавек Тм. Сумленны чалавек гэтага ня зробе, ня скажа Нсл. 622. — 2) добросовестный. Сумленная работа. **сумленна***, прс. — добросовестно. Сумленна ўсё аддаў Нсл. 622.

**сумленьне***, -я — совесть Ар.; Гсл.; Нсл. 622; Дабрамысьль Лёз (Ксл.). Сумленьне ў ім загаварыла Тм. Яшчэ сумленьне мае, што аддаў Нсл. 622. Маё сумленьне чыстае Тм.

**сумлеў**, -ву — сомнение Віл. **бяз сумлеву** — без сомнения Віл. **сумлевак***, -ўку — сомнение Віл. **бяз сумлеўку*** — без сомнения Віл.

**сумлеўны*** — сомнительный Віл. **сумлеўна*** — сомнительно Віл.



 

**сумненьне** — совесть. Буду даглядаці... сумненьне свае добрае пабожне справуючы 165. З часам із „сумненьне" паўстала **сумленьне** (Н па М перайшло ў Л, як у **лянны** зь **льняны**).

**супар*,** -а (націск на су-) — соперник Нсл. 623. Із супарам сваім паміpыўся Тм. **супарка*,** -і — соперница.

**супараваць*,** -рую, -еш — соперничать.

**супарны*** — сопернический.

**супарства*,** -а ( націск на су-) — соперничество.

**супрацавень*** — сотрудник, гл. працавень.

**сьветка*, -і, суп.** — свидетель, -ница. Сьветка на судзе паказаў не па мойму Стралкі Беш (Ксл.). Вазьму цябе за сьветку на суд Ст. Сьветку пастаў, калі я гэта зрабіў Нсл. 576.

**сьветчыць*,** -чу, -чыш Ксл., ск. **пасьветчыць*** — свидетельствовать Нсл. 576. Сьветчыш тое, чаго ня бачыў Тм. Кажны пасьветчыць маю праўду Тм. Не па праўдзе ты сьветчыш, пасьветчыў на мяне Тм. Не хачу я сьветчыць вам Карма Куз. (Ксл.). Сьветкі могуць а кажную ніву, сенажаць або абруб сьветчыці 361. **сьветчыцца,** ск. **пасьветчыцца** — свидетельствоваться, представлять свидетелей Нсл. 576. Цыган дзяцьмі сьветчыцца Прык. Тм. Ты-б пасьветчыўся, ды няма кім Тм. **сьветчаньне,** -я — свидетельствование Тм. Не вымагаюць твайго сьветчаньня Тм.

Крывіцкія словы **сьветка, сьветчыць** пішуцца пераз Т (а ня Д) у старой і цяперашняй мове крывіцкай, бо маюць карэнь -вет-, што ёсьць у словах „веча" зь ***vĕtje, ветлы,** а не карэнь **vĕd — vid**, што ў польскім **świadek**, у маск. „свидетель".

**сьветны*** — мировой Маркоўцы Вял.

**сьпісаньне*,** -я — список Ст. акты.

**сьціпнасьць, сьціпны** — гл. ля недаўсьціп.

**шал*,** -у — бешенство, водобоязнь Ар.; Смл. (Даль); Пятніцкая Беш. (Ксл.). Шал забраў сабаку Тм.

**шалець*,** -ею 1 — беситься Ксл.; Ар., бесноваться Шсл. Крычыць, лаецца й сам ня ведае, як шалець! Ст. Людзі, аж шалеюць, возяць снапы Тм. Чаго ты шалееш? Асінаўка Сян. (Ксл.). — 2) бешенствовать Ар.; Нсл.; Шсл. Вось нешта зрабілася, сталі сьвіньні на сяле шалець. Як падыйдзе маладзік, дык ён і шалее Ст. — 3) шалить Нсл.; Ар.; Ст. Дзеці шалеюць Тм. **ашалець*** — 1) сойти с ума, обезуметь Навікі Віц. (Ксл.). Ці ты ашалеў, ці што? Тм. — 2) взбеситься Нсл.; Шыпы Сян. (Ксл.). Ягоны сабака ашалеў Тм. Ашалеўшы: гэтулькі грошаў выдаць! Ст. Хіба ашалеўшы гэтак рабіць Ст. **ашалелы*** — бешенный Ксл. шальной, взбесившийся. Бяжыць як ашалелы Бешанкавічы (Ксл.). Гэта-ж проста ашалелы чалавек, зь ім нельга гаварыць Ст. Бегае, як ашалелы Ст.

**шалёны*** — 1) бешенный Ар.; Кузьміно Сян. (Ксл.); Нсл. 704 Шалёны сабака пакусаў бабу Ст. — 2) сумасшедший. Людзі шалёныя, каторыя за дапушчэньням Божым, ад розуму адшэдшы, звыклі людзём раны задаваці 420. — 3) назойливый, злой Нсл. 704. Шалёная муха ўкусіла за вуха Прык. Тм. Ель мая зялёная! Сьвякроў мая шалёная, загадала мне тры дзелы рабіць. **Зь песьні** Тм. — 4) ветренный, дерзкий Тм. Ён шалёны, на нікога не зважае Тм. — 5) чрезмерный Тм. Шалёныя грошы запрасіў ты за свайго каня Тм. Шалёны воз налажыў сена Тм. — 6) отличный, удивительно хороший Тм. Шалёнага каня маець Тм. Шалёную стрэльбу купіў, на сто сігнёў бярэць Тм. Шалёны работнік, майстра Тм.

**шырыць*,** -ру 2, ск. **пашырыць*** — делать что шире, расширяться Нсл. 710; Ухлё Чаш. (Ксл.). Ня надабе балей шырыць Тм. Ня шыр мяха! пашырыш, цяжка будзе падымаць яго, як насыпеш поўны Тм., зв. **шырыцца*** — 1) распространяться Нсл. 710. Воспа шырыцца Тм. Шкоднаму звычаю не хацелі дапусьціці большай шырыціся 398. — 2) расширяться Нсл. 710. Рака шырыцца, расшырылася Тм. — 3) присваивать себе более надлежащего, действовать превышая права Тм. Табе тут няма чаго шырыцца, ёсьць старшыя за цябе Тм. У чужым дабры няма чаго шырыцца Тм.

**шляхоцкі*** — дворянский.

**шляхціч*,** -а — шляхтич Стт.

**туташні*** — здешний Нсл. 645. Туташні чалавек, звычай Тм. Ня маючы бачаньня на туташняга ані на госьця 165.

**уважаньне*** (уважэньне?), -я — усмотрение. Агародныя рэчы засеяныя — подле ўважэньня вознага й шляхты, зь ім на том увязаньню будучае 277. А каторым-бы рэчам цана ў Статуце ня была апісана, тагды возьны із шляхтаю подле ўважэньня свайго шацунак і адправу на тых рэчах чыніці маюць Тм.

**увязаньне*,** -я (націск на -за-) — введение во владение.

**увязаціся*** — войти во владение.

**увязаць*,** -жу, -жаш — ввести во владение.

**увяжчае*,** -ага — плата за введение во владение.

**увяжчы ліст*** — документ о введении во владение, вводный лист. **вывязаньне*,** -я — восстановление в правах на владение.

Урад наш судовы за суму пенязяй прысуджоную маець увязаньне даваці шацункам: за кажную дваццаць коп грошай — у службу або валоку людзьмі аселых 276. Пак лі ж бы і таковых грунтоў на ўвязаньне за суму прысуджоную не ставала, тагды і ў засеяньне на грунцех дворных жытам і ярынамі ўвязаньне (увезанье) давана быці маець, то ёсьць із кажнага моргу пагною рахуючы жыта пяці коп. а іншыя агародныя рэчы засеяныя — подле ўважэньня вознага й шляхты, зь ім на тому ўвязаньню будучае 276-7. Ашацаваўшы ўсе будаваньне, за што стояці будзець, увязаці і старане падаці маець Тм. Тот, хто ў іменьня такія шляхоцкія ўвяжацца, ня маець у тае шляхты іменяй адыймаці, толькі маець сматрэці службы й павіннасьці такое, якую павінны былі пану свайму 276. Возны ад ураду нашага на ўвязаньне старане жалабнай прыданы, маець для таго ўвязаньня да йменьня стараны праціўнае ехаці і старану жалабную подле лісту ўвяжчага за суму, ёй сказаную, у людзі, іменьне, грунты і іншую маемасьць стараны праціўнае, подле парадку й навукі у сём Статуце апісанае, увязаці і то яму ў дзяржаньне да заплаты сумы пенязяй падаці 270. А за працу таму ўраду самому ўвяжчага ад капы два грашы тот, на ком адправу чыняць, плаціці маець 271.

А есьлі-бы ся з ачавістага мовеньня стараны жалабнае з урадам тое няпраўнае сказаньне каторага ўраду паказала, тагды таковая сказьнь маець быці паднесена і на старану адложана і так укрыўджанаму маець быці вывязаньне дано і вонае йменьне або грунт адсуджоны зася яму прывернен 244.

**уходнік*,** -а — лицо, осуществляющее охоту и сбор натуральных продуктов на незанятых земельных пространствах. Хто-бы таковую пушчу разрабіў, даўніх уходнікаў ад борцяй, азёр, сенажацяй адбіваці ня маець 378.

**уходзіць*,** -джу, -дзіш, ск. **увыйсьці*,** увыйду, увыйдзеш — входить, войти Ар.; Нсл. 670. Уходзіць, увыйсьці ў новую хату Тм.

**удаваць*,** удаю, удаеш, ск. **удаць*,** удам, удасі каго — доносить, -ести на кого Ар. **удаваньне*,** ск. **уданьне,** -я — донос Ар. **удаваньнік*,** -а, ж. **удаваньніца*,** -ы — доносч-ик, -ица Ар.



**узруш-аць, -ыць, -аны, -аньне, -эньне, -оны, узрушыцель** — гл. ля рушыць.

**уісьціць, -ца** — гл. ісьціць.

**укараць** — гл. караць.

**укрыўдзіць, укрыўджаны** — гл. крыўдзіць.

**улашчыць,** -ца, **улашчаны** — гл. лашчыць.

**улегцы*,** прс. — налегке Ар; Нсл. 60; Стралкі Беш. (Ксл.). Завёз дровы, а стуль прыехаў улегцы Тм. Улегца й паехалі дамоў, нічога не пабралі Ст. Улегцы едзеш, падвязі мяне Нсл. 60.

**улегцы мець*** — недооценивать, пренебрегать. Гэтыя мужоў ня слухалі, улегца мелі Кіт. 129 б. Хто-бы меў навуку Божую ўлегца мець Кіт. 138 а.

**упадаваць, упадаць** у што — утрачивать что. А есьлі-бы апісу свайму досыць чыніці не хацеў і ў чом ізь яго выступіў, тагды ў усё подле запісу свайго ўпадаваець 326. За тую сваю праціўнасьць у савітую заруку ўпадаець 272. **на ўпад*** (даваць заклад) — отдача вещи в залог под угрозою ее утраты в пользу кредитора в случае не выкупа в срок. Есьлі-б хто каму заставіў рухомую рэч на рок, на ўпад тае рэчы, а калі-бы рок прышоў, а тот, хто заставіў, ня выкупіў, тагды тот, хто закупіў, апаведаўшыся ўраду, можаць тыя рэчы абярнуць куды хочаць ку сваёй патрэбе на вечнасьць 334. Есьлі-бы хто каму заставіў іменьне пад страчаньням і на ўпад, тагды, есьлі-бы рок прышоў, а тот, хто заставіў іменьне, на тот рок ня мог выкупіць, тагды тот, хто закупіў, па вонам року пры том іменьню застаці маець вечне 331.

Прыраўнуй цяперка: **упад*,** -у — упадок, несчастье Даўгое Беш. (Ксл.). Хай у цябе ўпад упадзець! Тм. **упадак*, -дку — урон,** убыток Нсл. 660. Без упадку ў гаспадарцы не абыйдзешся Тм. Сядні ўпадак, а заўтра заработак Тм. Маем статак, мусім мець і ўпадак Тм. У тым доме ўпадак. Хмяльнік Беш. (Ксл.). Каб на цябе ўпадак! Ст. **упадаваць*** — 1) букв. падать перед кем, — раболепствовать, ухаживать за кем Нсл. 660. Ня ўпадавай так, каленкі паб'еш **Прык.** Там. Чаго ты так перад ім упадаваеш? Тм. — 2) суетиться, через чур хлопотать Тм. Чалавек усё ўпадаваець, пакуль рукі зложыць **Прык.** Тм.

**упадзень*,** -дня — болезнь, несчастье Слабодка Беш. (Ксл.), падучая болезнь? Каб у цябе ўпадзень уваліў! Тм.

**упалы*,** -ага — банкрот. Лісты зялезныя маем даваці куп-

цом і іншым людзём упалым 93. Не ўважай падупалага за ўпалага, а хату яго за баўдыр **Прыказь.** Лепл.

**упіс*,** -у (націск на „і”) — запись Акін. Гл. запіс.

**упор*,** -у — упрямство Нсл. 663. Бяз упору ты нічога ня зробіш Тм. Супроць упору можна знайсьці лек **Прык.** Тм. На ўпор пайшло Тм.

**упора*,** -ы, суп. — упрямец, -ица Нсл. 662. Хоць ты пячы як упору гэтага, не паслухае Тм.

**упорына*,** -ы, адз., суп. — упрямец Стралкі Беш. (Ксл.). Такі ўпорына ніяк не ўгаварыць Тм.

**упорыстасьць*,** -і — настойчивость.

**упорысты*** — настойчивый, **упорыста*** — настойчиво. **упірысты*,** -ага — настойчивый Гравы Сян. (Ксл.). Маладухі часта бываюць упірыстыя Тм.

**упорнік*,** -а — упрямец Нсл. 663. Біць трэба упорніка гэтага Тм.

**упорны*** — упрямый.

Прыклады із Статуту й „Аль Кітабу”: Есьлі-бы ся то паказала на праве, іж тый пан чыніў вонаму справядлівасьць, але вон яе упорам сваім ня прыняў і на ёй не пераставаў і а то яго ку суду прыцягнуў, тагды таго рубля грошай плаціці не павінен будзець, але яшчэ тый упорны сам вонаму тот рубль тут-жа ў суду заплаціці маець 227. Таковы за тую сваю праціўнасьць у савітую заруку ўпадаець, а ўрад тот а том упору азнайміці нам маець 272. А мы гаспадар таковага упорнага і ўраду нашаму непаслушнога (будзем) казаць вывалаць з панств нашых 272. А есьлі-бы тот-жа так упорны быў і таму пасланцу нашаму супраціўіўся і адправы ўдзелаці не дапусьціў, таковага, яка праціўніка справядлівасьці Божае горлам караці кажам 273. Чы той лепшы, каторы пастыроў сваіх слухае, ці такія, каторыя ўпорныя, імамаў сваіх ня слухаюць, веры мусульманськай не перасьцерагаюць Кіт. 66 б.

**урад*,** -у — учреждение, должность, присутственное место. Уставуем, іж на тыя ўрады, яка на судзтва, на падсудзтва, на пісарства, ня маюць быці выбіраны духоўныя асобы 165.

**урадніk*,** -а — чиновник Стт. Слова гэтае, як і ўрад, часта сустракалася ў прыкладах на іншыя словы.

**урадовы*, урадоўны*** — должностный Стт. **урадовая асоба*** — должностное лицо. **урадова*** — официально.

Тое самае наагул у мове цяперашняй: **урад*,** -у — 1) должность в присутственном месте Нсл. 665. З ураду ськівулі Тм. — 2) управление, правительственное место Тм. З ураду прышоў ліст Тм. Няхай урад нас рассудзіць Нсл. 71. — 3) распоряжение Нсл. 71 а 665. Ніякага ўраду ня даў. — 4) порядок (управа — Я. С. ). Нсл. 665. Бяз пана ўраду няма між намі Тм. Бяз ураду няма чаго прымацца за работу Тм. **урадніk** — прикащик в имении, управляющий Нсл. 665. Тут пад уплывам маскоўскіх урадаў і іхняе мовы абмежана ўжываньне слова „ўраднік” да ўраднікаў дворных, а запраўднае значаньне гэтага слова „чиновник”. Рэдчас у нас пад уплывам украінскім няправільна ўжываюць „урадовец”. Гэткага слова ніякія памяткі крывіцкія ня знаюць, у іх заўсёды „ўраднік”, таксама ў крывіцкай мове народнай. **урадніцкі*** Нсл. 71 — чиновничий. **урадніцтва*,** -а — чиновничество. **урадовы, урадоўны** — должностный, официальный. Урадовым парадкам Нсл. 71. Урадовы чалавек Нсл. 665. **Урадоўным** парадкам адабраў свайго каня Тм. Націск на -ДО. **урадзтва*,** -а — правительственная (не обязательно правительственная — Я. С.) должность Нсл. 665. Спраўніка з урадзтва далоў ськівулі Тм.

**усочаваць, усачыць, усочаны** — гл. сачыць.

**усіляцца*,** -яюся 1, ск. **усіліцца*,** -люся 2 — насильно домогаться, домочься чего Нсл. 665, добиваться, добиться чего. Усіляйся, ня ўсіляйся, ня возьмеш Тм. Усіліўся такі ехаць Тм.

**усілства*,** -а — насилие Нсл. 665. Усілствам адняў Тм. Дзеўку усілствам згвалтаваў 396. Праву прычытаці маець, за каторым жаднага ўсілства й укрыўджаньня на сабе не паносіць 15.

**усьцівасьць*,** -і — почтение. І Джабраілу, што табе цяпер усьцівасьць чыняць, а мне перад тым лепшую усьцівасьць чынілі і ляпей за цябе важылі мяне Кіт 62 а.

**усьцівы*** — почтенный, порядочный. У Пана Бога ўсьцівая й харошая рэч розум Кіт. 136 а. **няўсьцівы*** — нечестный, непорядочный. Што есьмі мяніў на цябе, жэ бысь ты быў няўсьцівае маткі і нячыстага ложа сын, том на цябе брахаў яка пес 139.

**усьціць*** — почтить. Есьлі-бы хто вознага зьбіў, валасы або бараду рваў і тым ураду ня ўсьціў, тагды таковы маець быць а то пазван на рок завіты 178.

**учын*,** -у — 1) раствор муки на хлеб Нсл. 671. Мукі толькі на ўчын ёсьць, а на замес няма Тм. — 2) подвиг, прыт.

**учынак*,** -нку — дело, поступок 441; Нсл. 77 а 671. Добры, дурны, хрысьцянскі ўчынак Тм. На якія ты ўчынкі пусьціўся? Тм.

**учын-яцца,** іцца — гл. прычыняцца.

**цівун*** — приказчик имения Акін. 190.

**ціха*.** — тише! Аш.

**ціху! ціхуце!** (мн. лік, пры зьвярненьню да шмат каго) = ціха! Іг.

**чэсьць*, чсьці (цьсьці, сьці); пасьцівасьць*** — честь.

Абяцуем, каму-бы шло а чэсьць, неадвалочную справядлівасьць учыніці 93. На сойме з рассудку нашага, гдзе ся то пакажаць, чэсьць і горла траціць 80. Учынак віну адсуджэньня чсьці й горла за сабою цягнуў 74. Пей а сьці пpарока Кіт. 133а. Узрушыцелі права паспалітага горлам і адсуджэньням пасьцівасьці карані быці маюць 205. Каран быці маець, яка вышэй апісана, ведзь-жа такую рэч, гдзе ся пасьцівасьці датыкаці будзець, да нас гаспадара адсылаючы 174. Адсуджэньням пасьцівасьці і горлам маець быці каран 69. **пасьцівы*** — благородный. Чалавеку пасьціваму нічога ня маець быці дарожшага над вольнасьць 15. Зь цяперашняе мовы: **чэсьць,** чсьці (цьці, сьці) — 1) честь. У ім няма ні чсьці (цьсьці), ні веры. **Прык.** Нсл. 698. — 2) честь, целомудренность Ухлё Чаш. (Ксл.). Дзе ўжо яе чэсьць? Тм. — 3) почтение, уважение Нсл. 698. Ад дзяцей сваіх чсьці ня маеш Тм. Заслужыў на чэсьць і добрую славу Тм. — 4) дакл. (родны) **чэсьці** — угощение Ар.; Ст.; Нсл. 698. Быць у каго на чэсьці Тм. Добрая ў іх была чэсьць Ст. Што з тае чэсьці, калі няма чаго есьці Тм. **пасьцівасьць,** -і — 1) (благородство — Я. С.) честность Нсл. 485. Твая пасьцівасьць усім людзём ведама Тм. — 2) почтительность, уважение Тм. Ня бачылі мы ад цябе ніякай к нам пасьцівасьці Тм. **пацьсьцівы,** в. ст. **пацьсьціўшы** — 1) порядочный. Пацьсьцівы чалавек нікога ня скрыўдзе Нсл. 485. Няма нікога пацьсьціўшага, як ты Тм. — 2) целомудренный Тм. Нявестка прышла да нас пацьсьціваю Тм. — 3) почтительный Тм. Пацьсьцівы хлапец! Кажнаму скланіўся Тм. **пасьціва*,** прс. — 1) порядочно. Пасьціва жывець Нсл. 485. — 2) целомудренно. Нявестка пацьсьціва прышла Тм. — 3) почтительно, с уважением Тм. Пацьсьціва прыняў нас Тм. Пр. **усьцівасьць, усьцівы!**

**чысьленасьць*,** -і — многочисленность.

**чыслены*** — многочисленный. **чысьлена*** — многочисленно, пр. **няшчысьлёны.**

**чытар*** (націск на -ар), -а, ж. **чытарка*,** -і — читатель, -ница. Семярнікі Гальш. в. Аш.



## СЬПІСАНЬНЕ РАСІЙСКІХ СЛОВАЎ, КАТОРЫМІ ПЕРАКЛАДЗЕНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ

(лікі паказуюць бачыны ў кніжцы).

**Паслоўе.**

У 1927 г. Інстытут Беларускае Культуры ў Менску выдаў беларускую праўніцкую тэрмінолёгію. Аўтарам яе быў Мікола Гуткоўскі. Адлі ўкладзеную ім тэрмінолёгію праглядаў Этнолегічна-Лінгвістычны Адзьдзел Інбелкульту. Якімі прынцыпамі кіраваўся гэты Адзьдзел Інбелкульту і, відавочна, сам аўтар тэрмінолёгіі і як вялася праца пры яе ўкладаньню, даведваемся з артыкулу Гуткоўскага „Беларуская праўная тэрмінолёгія", надрукаванага ў нр. 14-15 „Праваў Беларускага Ўнівэрсытэту",

Вось-жа Этнолегічна-Лінгвістычны Адзьдзел Інбелкульту „імкнуўся пабудаваць праўную тэрмінолёгію на жывой мове і перакласьці на беларускую мову па магчымасьці ўсе навуковыя разуменьні. Але не заўсёды ўдавалася знайсьці такія словы. Іх ня было ні ў жывой мове, ні ў гісторычных памятках... Такім парадкам, ведзержаць гэты асноўны прынцып — знайсьці для праўнае тэрмінолёгіі толькі беларускія словы Этнолегічна-Лінгвістычнаму Адзьдзелу не ўдалося" (б. б. 86-87), адлі — „імкненьням усіх комісіяў, што праглядалі проект праўнае тэрмінолёгіі, было даць самабытную беларускую праўную тэрмінолёгію і ўсе праўныя разуменьні выказаць па магчымасьці на беларускай мове". Адлі Гуткоўскі прызнаецца, што гэтага не ўдалося дапяць.

Гэткім парадкам, імкненьні былі добрыя, але ўжыцьцёвіць іх не патрапілі. Прычыны гэтага, як і заганы самае праўніцкае тэрмінолёгіі Інбелкульту, паказуе рэцэнзэнт яе, проф. Леў Акіншэвіч, у варт. „Да пытаньня пра беларускую юрыдычную тэрмінолёгію" (Полымя, нр. 4, Менск 1928, б. б. 187-195). Акіншэвіч констатуе, што гэтую тэрмінолегічную працу Інбелкульту бязумоўна нельга ўважаць за канчальную (б. 194). Ён адзначае яе беднасьць: „Подле мае (Акіншэвічавае) думкі, асноўная загана тэрмінолёгіі — гэта яе беднасьць тэрмінамі. Запраўды, пры слоўніку тыпу ўкраінскае юрыдычнае тэрмінолёгіі можна было-б проста ды бяз болю разьвязаць проблему пра тое — якім словам перакладаць спэцыяльныя тэрміны — беларускім ці чужаземным". „Я (Акіншэвіч) ужо рэкомэндаваў замест новатвораў або русізмаў — некаторыя тэрміны старое беларускае мовы" (192).

„Кепска таксама ў тэрмінолёгіі, піша Акіншэвіч, — справа з русізмамі. Чытар майго артыкулу напэўна пабачыў, што ў шмат якіх выпадках, калі можна было перакласьці якісь тэрмін беларус-

кім словам, тэрмінолёґія ўводзе расійскія словы, тарнуючы іх (не заўсёды ўмела) да беларускае мовы. З гэтым цяжка згадзіцца. Для чаго і для каго гэта робіцца? Калі для тых зь цяперашніх работнікаў установаў, якія ня знаюць беларускае мовы, то трэба сказаць, што, першае — яны гэтую мову ўрэшце будуць знаць, а, другое — што гэтае навуковае выданьне Інбелкульту напэўна разьлічана не на кароткі час. А жыцьцё даець усё болей ды болей работнікаў установаў, якія выходзяць із працуючых масаў работнікаў ды сялян БССР. Гэтым людзём беларуская мова ня чужая, яны добра адчуваюць яе чысьціню ці засьмечанасьць. **З усіх паглядаў** (падчыркненьне мае — Я. С.) засьмечаваць мову тэрмінолёґіі ня трэба было" (б. 194).

„Я ўжо паказаваў, кажа Л. Акіншэвіч, што сьцяг старых словаў старое юрыдычнае мовы Беларусі можна было-б увесьці ў тэрмінолёґію. Так рабіла ўкраінская юрыдычная тэрмінолёґія. М. Гуткоўскі пра гэта ведае. Ён піша, што крыніца праўнае мовы — „праўныя гісторычныя акты Літоўска-Беларускага Гаспадарства. Зразумела, што распрацаваць грунтоўна гэтыя матар'ялы аднэй асобе — рэч немагчымая. **Прыходзілася карыстацца гэтым бязьмерна каштоўным матар'ялам зьверхне, пераважна тымі альфабэтнымі паказьнікамі, што даданыя да некаторых выданьняў гэтых актаў...** (падчыркн. мае — Я. С.). Гэтыя крыніцы могуць даць надзвычайна важныя й каштоўныя матар'ялы для праўнае тэрмінолёґіі. Калі мы разгледзім толькі „Указатель" да І-га тому Літоўскай мэтрыкі, то можам без абмылкі сказаць, што 25% зьмешчаных там словаў жывуць і дагэтуль у народзе" (б. 85). Запраўды, трэба сказаць, кажа Л. Акіншэвіч, што гэты каштоўны матар'ял надта мала скарыстаны ў тэрмінолёґіі. Сьцяг старых юрыдычных тэрмінаў запраўды й цяпер ужывае народ. Але, апрача таго, сьцяг іншых старых словаў можна было-б узноў увесьці ў юрыдычную тэрмінолёґію, бо яны сугучныя беларускай мове і іх шмат хутчэй засвоіць народ, чымся пасьпехам прыладжаныя да беларускае мовы словы зь іншых моваў або выдуманыя тэрміны" (б. 195).

Наапошку, Л. Акіншэвіч кажа: „Зараз, піша М. Гуткоўскі, праўная сэкцыя Інбелкульту мае наўвеце падняць пытаньне аб утварэньні новае сталае комісіі... каторая магла-б праводзіць дальшую работу над праўнаю тэрмінолёґіяю". Такую працу трэба вітаць. Трэба пажадаць, **каб побач із працамі філелёґаў** (падч. мае — Я. С.) ды компэтэнтных знаўцаў беларускае народнае ды літаратурнае мовы была тут шырэй скарыстана і праца спэцыялістых... Трэба ўрэшце шырэй скарыстаць жывую народную беларускую мову. Магчыма, што калісьці шмат для гэтага дадуць краёвыя слоўнікі беларускае мовы (тыпу Касьпяровічавага). Калі яны зьявяцца — яны дадуць вялікі матар'ял для юрыдычнае тэрмінолёґіі. Якраз у іх трэба будзе шырака скарыстаць тэрмінолёґію народнага, звычаёвага права" (195).

Прыведзенымі гэтта, з арт. Л. Акіншэвіча, прынцыпамі аўтар „Некаторых праўніцкіх тэрмінаў беларускіх" кіраваўся заўсёды як у гэтай, так і ў іншых сваіх слоўнікавых працах, дарма што з рэцэнзяй Акіншэвічавай пазнаёміўся тады, калі пачаў друкаваць у „Ведзе" гэты свой артыкул (не „Паслоўе"). Прыведзеныя гэтта цытаты з рэцэнзі Акіншэвічавае дзеля таго, каб паказаць патрабуючым гэтага, як ставяцца да тэрмінолёґічных працаў тыя, што на іх **знаюцца і думаюць самастойна,** а ня рэдчас пад уплывам альбо й вымаганьнямі „старшага брата" з Масквы, каторы пры тымжа ставе свае вымаганьні толькі „малодшым братом", а не самому сабе.

Беларускі народ тварыў свае права, а зь ім і праўніцкія тэрміны, у працягу свайго даўгога гісторычнага быцьця; дзеля таго беларуская праўніцкая тэрмінолёґія павінна абняць багацьце з галіны права беларускае мовы зь яе цяперашняга й даўнейшага стану. Гэтак ё з тэрмінолёґіяй усіх гісторычных народаў. Калі-б хто хацеў да беларускае праўніцкае тэрмінолёґіі скарыстаць толькі цяперашнюю беларускую мову, ён зрабіў-бы тое самае, як-бы скарачаў гісторыю Беларусі да апошніх сту год. Можна тут зацеміць, што старабеларускія праўніцкія тэрміны ў вялікай меры жывуць дагэтуль у народнай мове, як пра гэта сьветчаць дасьледаваньні і як гэта відаць і з мае гэтае працы.

Беларускія праўніцкія тэрміны, пакуль канчальна не ўстанавіліся, прайшлі пераз прызму праўніцкага думаньня беларускага народу; дзеля таго да беларускае праўніцкае тэрмінолёґіі павінна быць скарыстана багацьце ўсяе беларускае мовы, а не, як некаторыя думаюць, што даволі выцягаваць, як павук павучыньне, із свае абмежанага слоўнага „багацьця" галавы, ды „багацьця" часта запсаванага чужым уплывам.

Тое, што сказана тутака пра прынцыпы праўніцкае тэрмінолёґіі, тарнуецца да тэрмінолёґіі ўсіх галінаў веды.

 

## Дапаўненьні да скарачэньняў і абмылкі друку

У перадмове да гэтае працы пры ламаньню выпала гэткае: „Пры перакладзе словаў на рас. мову я карыстаў таксама із зычлівае помачы Спад. Антона Адамовіча, за што яму гэтта шчыра дзякую. Ад яго паходзяць і словы, абзначаныя скарачэньням **Іг.** (= Ігуменскі павет). Скарачэньне **Ад.**= Ант. Адамовіч.

Калі пачатак гэтае працы быў надрукаваны, я пазнаёміўся зь менаваным у „Паслоўю" арт. проф. Л. Акіншэвіча, з каторага ўзяў некаторыя суленыя ім тэрміны; абзначаныя яны скарачэньням **Акін.**

Скарачэньне **Фрсл.** абзначае мой „Маленькі маскоўска-крывіцкі слоўнічак фразэолеґічны", каторы захаваўся ў малой колькасьці экзэмпляроў; дзеля таго паведамляю, што ўсі групы словаў із яго перадрукаваныя ў „Бацькаўшчыне", Мюнхен 1952, №№ 34-39 (113-118).

Як зацемлена ў перадмове, зоркаю пазначаныя словы, каторыя памойму трэба ўжываць у беларускай мове літаратурнай. Як абмылкі друку адылі зоркаю не пазначаны гэткія словы (падаю ў парадку іх надрукаваньня): апрычона, апрычоне; асталы; выраб, вырабак, вырабіцца; выслуга; зьвярненьне; зыскуючы, -ая; зраза, зразавы; валодаваць; на конадні; хрышчоны ліст; мерны; другім навaратам; выступак; папраўка; поўніць (і выпаўніць, выпаўнены, выпаўняць); рок завіты, сьветчыцца, пасьветчыцца, сьветчаньне, ціху! ціхуце! Паважаны Чытар няхай перад чытаньням паставе ля гэтых словаў зорку. Калі я пазначыў зоркаю, што дзеяслоў нясканчанага трываньня (пр. абіраць) можа ўжывацца ў цяперашняй мове, то тым самым паказаў, што можа ўжывацца таксама ягонае скончанае трываньне (абраць), і наадварот.

У прыкладзе на слова „місьцюк" мае быць „шкоднік і місьцюк" (а ня „злодзей і місьцюк").



 